# ГАРАДЗЕНСКІ ГАДАВІК

Таццяна Маліноўская • Ганна Паўлоўская
Юры Гардзееў • Пётр Яцэк Ямскі
Іна Соркіна • Таццяна Казак
Віктар Саяпін • Алесь Госцеў
Алесь Кіркевіч • Алесь Краўцэвіч
Андрэй Мацук • Ігар Трусаў

I
нумар

ГРОДНА 2012

кніжная серыя
ГАРАДЗЕНСКАЯ БІБЛІЯТЭКА

*ГАРАДЗЕНСКАЯ БІБЛІЯТЭКА прысвячаецца той Гародні, якой мы ганарымся.*

*Дзякуем усім, хто з намі.*

**Каардынатар кніжнай серыі «ГАРАДЗЕНСКАЯ БІБЛІЯТЭКА»:**
Павал Мажэйка (p.mazheika@gmail.com)
**Ідэя серыі:** Эдвард Дмухоўскі
www.hrodna.org

**«Гарадзенскі гадавік» выдадзены ў серыі «ГАРАДЗЕНСКАЯ БІБЛІЯТЭКА»**

«Гарадзенскі гадавік» – навуковы часопіс.

Навуковы рэдактар – Юры Гардзееў.

Рэдакцыйная рада – Алесь Краўцэвіч, Сяргей Токць, Аляксей Шаланда.

Тэхнічны рэдактар-вярстальшчык - Зміцер Гупянец.

Дызайн вокладкі - Зміцер Гупянец.

Нумар дапамагалі рабіць Іна Соркіна, Лілія Коўкель і Ганна Паўлоўская.



Дзякуем сябрам з Kolegium Europy Wschodniej im. Jana Nowaka-Jeziorańskiego за творчае супрацоўніцтва.

# Гарадзенскі гадавік № 1

## Шаноўныя сябры!

Патрэба з’яўлення часопіса, які Вы трымаеце ў руках, наспела даўно. Не сакрэт, што ў беларускай культурнай прасторы менавіта Гародня можа пахваліцца сваёй спадчынай, шматлікімі гісторыка-культурнымі помнікамі, іх мастацкай стылёвай разнастайнасцю, а праведзеныя за апошнія сто год археалагічныя доследы дазволілі прыадчыніць заслону не адной таямніцы нашай багатай даўніны.

Паселішча, заснаванае на мяжы 10 і 11 стст. на рачных нёманскіх тэрасах, з цягам часу ператварылася ў магутны горад, які ў 12 ст. складаўся з замка ды шэрагу раскінутых уздоўж Нёмана і Гараднічанкі гандлёва-рамесных пасадаў (ля Барысаглебскай, Малой і Прачысценскай цэркваў і на Падоле). З гэтага часу паходзяць найстаражытнейшыя помнікі мясцовай архітэктурнай школы – Барысаглебская царква ды іншыя святыні.

У канцы 13 ст. час росквіту горада саступіў месца перыяду ваенных навалаў, якія спрычыніліся да запавольвання яго развіцця, у тым і планіроўкі, якая ўяўляла сабой радыяльна-кальцавую вулічную кампазіцыю, што тулілася да замку. Аднак менавіта на гэтым абшары, абмежаваным лініяй гарадскіх умацаванняў, са шчыльнай забудовай, у 14 ст. былі ўзведзены два мураваныя гатыцкія аб’екты – замак ды Верхняя царква.

Пасля паразы крыжакоў, пачынаючы з 15 ст., гарадская прастора Гародні пачала хутка разрастацца ва ўсходнім напрамку. На гэтай тэрыторыі з’явілася новае, неабмежаванае звонку вулічнае сеціва. Такім чынам, межы горада значна пашырыліся, а грамадскі цэнтр перамясціўся на ўсход ад замка. На гэтым абшары выраслі новыя рынкі і некалькі дзясяткаў вуліц. Пасля надання гораду магдэбургскага права ў 1496 г. на цэнтральным Рынку была ўзведзена ратуша – сімвал гарадскога самакіравання, а потым яго запоўнілі шматлікія гандлёвыя крамы і іншыя будоўлі грамадскага прызначэння.

Забудова навачаснай Гародні характарызавалася разнастайнасцю. У горадзе ўзводзіліся драўляныя і фахверкавыя дамы, а таксама шляхецкія дворыкі. На іх фоне выразна вылучаліся рэнесансавы Стары замак і гатыцка-маньерыстычны Фарны касцёл. У 17-18 стст. над шэраговай забудовай горада пачалі ўзвышацца вежы барокавых касцёлаў ды магнацкія палацы.

Сапраўдным бедствам litгарадоў у даўнія часы былі войны і пажары, якія радыкальна змянялі іхняе аблічча. Упершыню Гародня ператварылася ў руіны ў сярэдзіне 17 ст., калі яе захапілі маскоўскія войскі. Горад быў знішчаны вялізнымі пажарамі 1753 і 1885 гг. Пасля апошняга ў ім канчаткова пачала дамінаваць мураваная эклектычная архітэктура. На пачатку 20 ст. у Гародні былі ўзведзены Пакроўская царква, лютэранская кірха, будынкі прамысловых прадпрыемстваў, школ ды банкаў, а ў 20-30-я гады 20 ст. з’явіліся шматлікія помнікі стыля канструктывізму.

У выніку ваенных дзеянняў падчас Другой сусветнай вайны быў разбураны шэраг кварталаў гістарычнага цэнтра Гародні, ратуша ды палац Радзівілаў, за Нёманам знішчана драўляная сінагога. У 60-80-х гадах 20 ст. улады без усялякага лагічнага абгрунтавання знішчылі жаночы кляштар бернардзінак, Фару Вітаўта, шэраг камяніц на вуліцы Замкавай, квартал на вуліцы Ажэшкі і Сацыялістычнай, будынак чыгуначнага вакзала. З гарадской карты зніклі арыгінальныя, выпрацаваныя стагоддзямі назвы вуліц і плошчаў.

У 20 ст. дзякуючы археалагічным даследаванням польскіх, беларускіх і расійскіх спецыялістаў былі адкрыты шматлікія таямніцы Гародні. Няглед-

зячы на маштабнасць археалагічных прац у пасляваенным перыядзе, у дадзены момант трэба казаць аб іхняй выразнай стагнацыі.

Гародня – горад з багатымі духоўнымі традыцыямі, які знаходзіўся на скрыжаванні разнародных культурных уплываў. Выдатным доказам з'яўляецца шматнацыянальны характар горада, ягоная шматмоўнасць і шматканфесійнасць. Значны ўклад у ягоную культуру ўнеслі італьянскія архітэктары і нямецкія рамеснікі, выкладчыкі езуіцкага калегіума і дамініканскай гімназіі. Варта ўзгадаць недаследаваныя ці малавядомыя старонкі гісторыі езуіцкага тэатра і не да канца раскрытыя загадкі дамініканскай бібліятэкі. Асобнай яскравай старонкай мінулага горада з'яўляюцца пераўтварэнні гарадзенскага старасты Антонія Тызенгаўза, гарадніцкія школы, тэатр і капэла. Гісторыя Гародні знітавана з гісторыяй выдавецкай справы, друкарскімі прадпрыемствамі ды развіццём мясцовай прэсы, пачаткі якой сягаюць 18 ст.

Накрэсленую праблематыку нельга лічыць да канца вычарпанай. Напісанае вышэй – гэта толькі агульная замалёўка, маленькая доля культурнай спадчыны, пакінутай нашымі продкамі.

На жаль, на сённяшні момант комплексныя даследаванні гісторыі Гародні праводзяцца ў вельмі абмежаваным аб'ёме, а нават паасобныя здзейсненыя даследчыя праекты вельмі часта не даходзяць да беларускага чытача. Па гэтай прычыне неабходным падаецца накіраваць намаганні на паглыбленне маштабнага вывучэння яе гістарычнага мінулага. Яно павінна ўключаць шматпланавае навуковае асвятленне гісторыка-культуралагічнай праблематыкі горада – недаследаваных старонак ягонай сацыяльна-эканамічнай гісторыі, горадабудаўнічых традыцый, лёсу захаваных і страчаных архітэктурных помнікаў, гісторыі археалагічнага вывучэння асяродка, пытанняў гісторыі адукацыі, друкарства і бібліятэк, тэатральна-музычнага жыцця, урэшце гарадской штодзённасці, а таксама публікацыю помнікаў гістарыяграфічнай спадчыны і разнастайных пісьмовых і графічных крыніц.

Заўважым, што штуршком да заснавання часопіса з'яўляецца анахранічнае адставанне беларускай навукі ў накірунку комплексных даследаванняў па гарадской тэматыцы і, як вынік, адсутнасць грунтоўных манаграфічных работ па гісторыі і культуры даўняй Гародні, стагнацыя навукова-рэстаўрацыйных работ і неэфектыўнае ажыццяўленне механізмаў аховы ды рэстаўрацыі культурных помнікаў. Па гэтай прычыне часопіс прадугледжваецца як прафесійнае навуковае выданне. Не выклікае сумнення і той факт, што заснаванне гісторыка-культуралагічнага часопіса, прысвечанага мінуламу аднаго са старажытных беларускіх гарадоў – Гародні, павінна спрычыніцца як да развіцця новых даследчых накірункаў, так і папулярызацыі ведаў па гісторыі і культуры горада.

Першы нумар Гарадзенскага гадавіка прысвечаны гісторыі даўняга гарадзенскага Рынка, эвалюцыі ягоных прасторава-архітэктурных форм, якія магчыма прасачыць дакументальна, а гэтак жа яго археалагічнаму вывучэнню. Нумар узбагачае публікацыя гістарычных крыніц. Гісторыя гарадзеных Фар – Вітаўтавай ды паезуіцкай - заслугоўваюць на асобны разгляд.

*Юры Гардзееў*

# Змест

Уступ

Таццяна Маліноўская (Гродна)

# Кутны камень альбо скок у "светлую будучыню"

Для кожнага чалавека мясціны, у якіх нарадзіўся, правёў дзяцінства і сталеў – самыя родныя, самыя прыгожыя, самыя значныя і любыя. Але, калі гэтыя мясціны звязваюць з глыбокімі каранямі культурнай традыцыі, якую чалавек усвядоміў і прыняў усёй душой, якая расплюшчыла яму вочы на вялікі свет і дапамагла знайсці месца ў ім, гэткія мясціны набываюць сакральны характар, а чалавек атрымоўвае здольнасць лучыцца з тымі, каго даўно няма і з тымі, хто будзе пасля яго.

Для мяне, як і для тысячаў іншых, хто нарадзіўся і вырас у Гродне, хто прыняў яго традыцыю, наш горад – гэта храм, у якім мы чытаем з кнігі нашай агульнай гісторыі, спазнаем свет, адчуваем трапяткое цяпло чалавечай супольнасці ў часе і прасторы і вучымся жыць так, каб пакінуць дабро і прыгожы след тым, хто будзе пасля нас.

Гродна – горад магутнай культурнай традыцыі, якая надзейна сілкуе сваіх месцічаў моцай і свабодай духу, звязвае трывалымі хрысціянскімі каштоўнасцямі. Нашы продкі будавалі і поўнілі жыццём Гродна, стваралі гісторыю, захавалі і перадалі нам горад вялікіх князёў, каралёў, вяльможных паноў, брукароў, муляраў, ткачоў, паляўнічых, агароднікаў, пекараў святароў, святых... Мы атрымалі ў спадчыну горад спраўнага магдэбургскага права і гучнай вайсковай славы, горад з еўрапейскай архітэктурнай традыцыяй, талерантным шматканфесійным і шматнацыянальным народам, горад паэтаў і музыкаў, архітэктараў і мастакоў, горад, якому зараз служым мы і да якога заўжды імкнемся вярнуцца заблытанымі жыццёвымі сцяжынамі, вяртаемся ў снах, марах, начных мроях. Наш горад – гэта горад бабуляў з доўгімі аповедамі пра даўніну падчас шэрай гадзіны і бацькоў здольных выхаваць павагу і глыбокую адказнасць перад тымі, хто адыйшоў у вечнасць і хто будзе пасля нас.

Сёння, на золку XXI стагоддзя, калі бязлітаснае кола цывілізацыі адбівае свой след на мяккай раллі культуры, абвастраюцца праблемы, ад вырашэння якіх залежыць будучыня нашага горада ды й усёй Беларусі. Вырашэнне сучасных штодзённых праблем патрабуе ўліку жаданняў асобаў і патрэбаў супольнасці, амбіцыяў, свабоды творчасці і культурных традыцыяў, новых стандартаў і "старой" памяці, прагрэсу і гісторыі, традыцыі і навацыі. Вырашэнне гэтых праблем залежыць ад таго, што стане кутным камянём пад будынкам нацыянальнай будучыні, якія каштоўнасці мы абярэм. Ці гэта будуць хрысціянскія каштоўнасці, невычэрпны патэнцыял якіх скіраваны ў будучыню, альбо рэанімуем збанкрутаваныя каштоўнасці савецкай ідэалогіі. А можа ўвогуле зруйнуем усе каштоўнасці і традыцыі, тым больш, элітарныя? Навошта яны патрэбны, калі мы ствараем адзіную ў свеце краіну – "лідэра ўсходнееўрапейскай цывілізацыі"! Можа варта скінуць увесь гэты цяжар і скочыць у "светлую будучыню"?.. з дэфармаваным чалавечым сумленнем? Можна скочыць, але і застацца, не абцяжаранымі каранямі традыцыі, у паветры на час, пакуль вятры гісторыі знясуць "лідэра" ў нябыт.

Аніякія войны і нават савецкія эксперыменты не здолелі знішчыць не ўпісаныя ў ідэалагічныя савецкія межы архітэктурныя помнікі Гродна. Горад спрадвеку красаваў барочнымі касцёламі, вабіў вузкімі вулачкамі і ўтульнымі маленькімі падворкамі, над якімі віраваў водар бэзаў, каштанаў і ліпаў; захапляў велічнымі замкамі,

маніў ценямі славутых продкаў, узбуджаў фантазію шляхетнай патынай стагоддзяў. Агрэсіўная да старажытнай гісторыі горада савецкая ўлада не мела дастаткова сродкаў, смеласці і, магчыма, архітэктараў, здольных цалкам адкінуць прафесійную этыку, каб знішчыць традыцыйную вулічную сетку горада і асобныя будынкі, распіхаць старую забудову і высунуць наперад савецкія шэдэўры. Стары горад жыў! Захоўваўся яго камерны характар архітэктуры, які дазваляў эмацыянальны дыялог чалавека і архітэктуры. На пачатку 80-х гадоў мінулага стагоддзя ўсталяваўся пэўны баланс старой традыцыі і савецкай навацыі, парушыць які не падавалася магчымым нават самым адданым савецкім чыноўнікам, чаму спрыяў, народжаны ў тыя гады грамадскі рух у горадзе.

Незалежная беларуская дзяржава, адкінуўшы ўсе інтэграцыйныя каштоўнасці нацыі, пачынаючы з другой паловы 90-х гадоў, мэтанакіравана помсціць Старому Гродна за яго гісторыю, "старасць" і непадобнасць. "Пацёмкінская" рэканструкцыя, з густам "еўрарамонту" знішчае асобныя дамы, разбурае горадабудаўнічую структуру, калечыць гістарычны вобраз горада. Сэрца Гродна – Рынак змяняе эмацыйны, камерны, суразмерны чалавеку характар на характар бяздушнай пачвары, якая праглынае чалавечую асабовасць. З пункту гледжання аўтарытарнай дзяржавы – гэта лагічна спланаваная дзейнасць, скіраваная на разбурэнне таго, што яшчэ яднае гарадзенцаў, ствараe супольнасць памяці, гісторыі і традыцыі. Такой уладзе не патрэбен чалавек, асоба, натуральная супольнасць, яна апялюе да катэгорыі "жыхар", носьбіт якой набывае рысы і "мараль", патрэбныя ўладзе.

Як супрацьстаяць такому вандалізму? Сваёй працай на карысць гораду і яго гісторыі. Працай адданай і бескампраміснай, годнай і без здрады. Кожны, кіруючыся добрай воляй, згодна "здольнасцяў, жаданняў, магчымасцяў", паасобку і супольна, можа ўнесці свой уклад у справу ратавання нашай агульнай спадчыны – роднага і любага Гродна.

сістэматычнымі і двухбаковымі". Гэсція Койнэ інтэрпрэтуецца як "новы ачаг, які з таго часу будзе выражаць цэнтр як агульны множнік для ўсіх дамоў, што ўтвараюць поліс"[7].

Іншым тыпам плошчы з'яўлялася плошча перад храмам як сакральны цэнтр і сэнс горада. Уладзімір Тапароў, імкнучыся зразумець феномен горада, падкрэслівае важнасць сакральнага пры ўзнікненні самога паняцця "горад". "Город организуется (и соответственно рассматривается в мифопоэтической традиции) как ритуальный центр, как храм, место жертвоприношения, алтарь"[8]. Плошча перад храмам у Іерусаліме ці асірыйскіх гарадах была цэнтральным пунктам горада, даючы мажлівасць гуртавацца ў кульце боству, выконваць найбольш урачыстыя абрады ўсенародна.

Сярэднявечны горад звязваўся перад усім з сядзібай улады[9], аднак паводле Л. Лецяевіча "першай праявай гарадской "рэвалюцыі" было стварэнне гандлёвых цэнтраў, звязаных з развіццём замежнага абмену ў IX ст."[10] Марыя Багуцкая сцвярджае, што "найбольш тыповым і адрозніваючым жыхароў горада ад вёскі заняткам, быў гандаль"[11]. Такім чынам, наступнай цэнтральнай функцыяй плошчы становіцца гандаль, у горадзе ўзнікае рынак як тып плошчы. У сярэднявечных і лакацыйных гарадах жыццё канцэнтравалася вакол двух пляцаў – рынкавага і царкоўнага, якія маглі знаходзіцца побач ці аб'ядноўвацца. Рынак і царкоўны пляц былі залам для святаў, месцам гульняў, кірмашоў, рэлігійных працэсій, пакаранняў[12]. Значэнне святочнай (карнавальнай) культуры для сярэднявечнага горада падкрэслівае М. Бахцін[13].

Галоўнай адметнай рысай магдэбургскага горада была ратуша – сімвал правоў грамадзянаў вольнага горада. Гарадскія ўлады, суд, народныя сходы мелі месцы пасяджэнняў у будынках на цэнтральнай плошчы.

Такім чынам, спачатку гарадская плошча імкнулася да мнагазначнасці і поліфункцыйнасці. Яе першасная, асноўная функцыя выражалася ў наяўнасці нейкага збудавання на ёй ці ў яе межах, якое выступала дамінантай і носьбітам значэння (храм, ратуша, гандлёвыя рады, тэатральныя прыступкі, месца пакаранняў і г.д.). Паступова, з развіццём горада, а наступна і са з'яўленнем шэрагу плошчаў (дэцэнтралізацыяй горада), рознага выкарыстання пляцаў, значэнне плошчы стала ўсё больш залежыць ад фармальных носьбітаў функцыяў – будынкаў у яе межах – ці культурнага вопыту выкарыстання плошчы ў дадзеным месцы.

Канататыўныя значэнні плошчы можна выдзяляць адпаведна градацыі, якую прапаноўвае Райманд Ледру. У працы "The Images of the City" аўтар уводзіць чатыры ступені канататыўных характарыстык на падставе аналізу інтэрв'ю з апісаннямі горада: этычныя, эстэтычныя, вітальныя, функцыянальныя характарыстыкі[14]. Пад этычнымі ён разумее адчуванне вольнасці-прымусу, вітальнымі – дабрабыту-нялёгкасці (адчуванні "шчасця", "задавальнення ад жыцця", "супакою", "суму", "нудоты" і г.д.), эстэтычнымі – прыгажосці-брыдоты, функцыянальнымі – практычнасці-невыгоды. Канатацыя плошчы будзе залежаць як ад знешняга выгляду і памераў яе элементаў, так і ад вопыту яе выкарыстання ў гісторыі. Зрабіць канататыўны аналіз нейкай канкрэтнай плошчы дастаткова проста, магчымы таксама аналіз пэўнага тыпу плошчаў, выпрацаванага ў пэўнай культуры, у пэўны гістарычны прамежак.

Захаванне сучаснай плошчай знакавасці можа быць паказана на прыкладах адраджэння старых тыпаў

[7] F. Choay, *Urbanism and Semiology...* , p. 164.

[8] В. Н. Топоров, *Текст города-девы и города-блудницы в мифологическом аспекте // Исследования по структуре текста*, Москва, 1987, с. 128.

[9] M. Bogucka, H. Samsonowicz, *Dzieje miast i mieszczaństwa w Polsce przedrozbiorowej*, Wrocław, 1986, s. 27.

[10] Тамсама.

[11] Тамсама, s. 33.

[12] Тамсама, s. 99.

[13] М. М. Бахтин, *Творчество Франсуа Рабле и народная культура средневековья и ренессанса*, Москва, 1965, с. 13.

[14] R. Ledrut, *The Images of the City // The City and the Sign. An Introduction to Urban Semiotics* / Edited by M. Gottdiener and Alexander Ph. Lagopoulos, New York, 1986, p. 227-230.

плошчы і надаванне плошчам новых значэнняў.

Адметным тыпам плошчы, які адрадзіўся ў найноўшай гісторыі, ёсць “імперская плошча” – плошча, што выконвала функцыі ўжо не цэнтра горада, а імперыі. Тыповым прыкладам яе быў Форум Траяна ў Рыме, збудаваны ў 2 ст. н.э., у часы, калі межы імперыі дасягнулі найвялікшых памераў. Асноўнай характарыстыкай гэтай плошчы з’яўлялася яе велічыня: яе памеры 280х190 м, агульная плошча – 100 000 м². Памеры Чырвонай плошчы ў Маскве складаюць 73 000 м². Плошча Цяньаньмэнь у Пекіне была павялічана ў чатыры разы ў 1958 г. і займае каля 405 000 м²[15]. Усім гэтым плошчам былі ўласцівыя ідэалагічныя элементы – помнікі ці маўзалеі.

Імперскія плошчы існавалі ў сталіцах, у меншых жа гарадах будаваліся “плошчы-адбіткі”, якія былі знакам і адлюстраваннем сталічнай. Так, у кожным горадзе СССР існавала ўласная Савецкая плошча, якая была сімвалам Чырвонага плошчы. Значна меншыя па памерах, чым маскоўская, гэтыя плошчы былі найбуйнейшымі ў гарадах. Іх маштаб ды паасобныя помнікі неслі ідэйнае пасланне, характэрнае для эпохі і зразумелае для ўсіх карыстальнікаў гарадской прасторы. Успрыняцце гэтых плошчаў адрознівалася з цягам гісторыі і патрабуе асобнага даследавання.

Пры рэстаўрацыі забудовы старажытных плошчаў узнік яшчэ адзін тып пляца – “плошча-музей”. Так можна акрэсліць плошчу, функцыя якой – быць помнікам і напамінам аб гісторыі. Пры адбудове еўрапейскіх гарадоў, разбураных у часы II сусветнай вайны, здаралася, што рэканструявалася знешняя форма пляца, але цалкам змянялася яго функцыя. У выніку цэнтральная гарадская плошча, захоўваючы свой гістарычны выгляд, пераўтваралася ў турыстычны аб’ект, функцыяй якога стаў напамін аб гістарычных падзеях і адпачынак турыстаў. Прыкладамі такіх пляцаў могуць быць Рынкі Старога і Новага горада ў Варшаве. Гэта тыпова турыстычныя месцы, дзе практычна не бываюць жыхары горада. Будынкі, якія знаходзяцца на плошчах і іх ваколіцах, займаюць музеі, гістарычныя інстытуты і архівы, кавярні, пабы, у меншай ступені крамы. Побач з пляцамі таксама месцяцца касцёлы і жылыя дамы. У гэтым раёне не знаходзяцца офісныя цэнтры ці ўстановы са значнай колькасцю працоўных месц. Пляцы знаходзяцца ўнутры Старога горада, з чаго вынікае транспартная ізаляцыя гэтай прасторы (раён закрыты для грамадскага і прыватнага транспарту). Нагодай для наведвання гэтых плошчаў жыхарамі Варшавы могуць быць адмыслова арганізаваныя канцэртныя ці тэатральныя выступы. Такім чынам, плошчы маюць ярка выражанае ідэалагічнае пасланне (напамін аб гісторыі старажытнага горада і яго знішчэння пасля Варшаўскага паўстання), выконваючы у першую чаргу музейную функцыю, Па гэтай прычыне яны не ўспрымаюцца мясцовымі жахарамі ў характары гарадскога цэнтра.

Цікавым прыкладам аднаўлення цэнтральнай плошчы з’яўляецца Пацдамерпляц у Берліне. Плошча – цэнтр Берліна XIX ст. – была наўмысна знішчана пасля вайны, праз цэнтр якой прайшоў берлінскі мур. У час дыскусій аб адбудове Берліна ў 1990-я шмат увагі надавалася гэтаму месцу і накірункам яго аднаўлення[16]. У выніку працы каманды сусветных архітэктараў, пляц адрадзіў сваю функцыю, хоць цалкам страціў былыя архітэктурныя формы. Новы Пацдамер-пляц – гэта сукупнасць сучасных шкляных будынкаў, скрыжаванне, вакзал, пешаходная плітка ды фрагменты на тэрыторыі Соні-цэнтра. Аднак дзякуючы размяшчэнню офісаў, тэатраў, цэнтра-кіно, рэстаранаў, вакзала – плошча вярнула сабе цэнтральнасць, актыўны ўдзел у жыцці горада. Захаваныя ў ёй таксама і сімвалы пляца XIX ст. – першы светлафор і рэшткі некалькіх дамоў, гарманічна дапасаваныя да сучасных будынкаў, урэшце, адноўлены вакзал. Да помнікаў гісторыі XX ст. належыць фрагмент берлінскага мура. Такім чынам, у новым пляцы захаваліся функцыйнасць, эстэтыка, вітальнасць даўніны.

[15] Дадзеныя па памерах плошчаў з Encyclopaedia Britannica.

[16] Гл. *The Berlin City Forum. Jacques Derrida, Kurt Foster and Wim Wenders* // Architectural Design, 1992.

Стварэнне новых тыпаў плошчаў, наданне ім новых функцыяў і архітэктурна-мастацкага запаўнення сведчыць пра спробы прысвойвання панятку плошчы новых значэнняў, прычым менавіта плошчы як тапаграфічна-архітэктурнаму аб’екту горада.

Наколькі змены ў выглядзе плошчы адчувальныя і інтэрпрэтабельныя для яго жыхароў можа сведчыць нядаўняя перабудова Савецкай плошчы ў Гродне. У горадзе ў часы СССР функцыю параднай і прадстаўнічай плошчы выконвала плошча Леніна, Савецкая ж – былы гарадскі Рынак – была меншых памераў, абмежаваная паркамі і будынкамі (ці месцамі па будынках) касцёлаў, не была падобнай да тыпу Савецкай плошчы. Дзякуючы захаванню планіроўкі часоў сярэднявечнага горада (захоўваўся асноўны рух вуліц, размяшчэнне будынкаў, на месцы знішчаных буйных забудоў існавалі скверы) плошча ўтрымлівала памяць пра выгляд даўняга горада[17].

Перапланіроўка, якая адбылася ў апошнія часы, змяніла прабег транспартных трас, аб’яднала некалькі пляцаў і ў выніку стварыла вялікую “імперскую” Савецкую плошчу. У адрозненні ад класічных плошчаў савецкага тыпу яна не прыдатная для правядзення парадаў з-за вялікай колькасці клумбаў, размешчаных на ўсёй яе прасторы. Найбольш характэрнай рысай плошчы з’яўляюцца яе маштабы, якія візуальна павялічваюцца праз адкрыццё новых перспектываў на занёманскую частку горада (знішчэнне сквераў прывяло да таго, што з Савецкай плошчы цяпер можна ўбачыць трубы прадпрыемстваў). Былыя архітэктурныя дамінанты (езуіцкі касцёл, дом культуры тэкстыльшчыкаў) у сувязі з рэзкім павелічэннем тэрыторыі плошчы ўспрымаюцца значна меншымі і страчваюць функцыю арганізатараў прасторы – цяпер межы плошчы вызначаюць транспартныя шляхі. У выніку знішчэння сквера, які знаходзіўся на месцы былога палаца Радзівілаў, у плошчы з’явіліся новыя дамінанты – помнік танку-вызваліцелю, уключыліся ў прастору плошчы таксама будынак тэатра і бернардзінскага касцёла. Агульна скіраваная ўгору перспектыва даўняга гарадзенскага Рынку пераўтварылася ў расцягнутую гарызантальна прастору.

У першыя месяцы пасля “рэканструкцыі” плошча абміналася жыхарамі, потым пераўтварылася ў месца размоваў і спатканняў маладых гарадзенцаў – лаўкі каля клумбаў набылі функцыю кавярняў і бараў, колькасць якіх у горадзе абмежаваная. Прыступкі ДК тэкстыльшчыкаў працягваюць выконваць ролю канцэртнай пляцоўкі. Адным з цэнтральных пунктаў плошчы стаў прыпынак грамадскага транспарту – месца найбольшага згуртавання людзей на плошчы. Такім чынам, функцыі плошчы яшчэ выпрацоўваюцца жыхарамі горада і яго ўладамі. Найбольш радыкальнай зменай з’яўляецца разрыў сувязей з былой Рынкавай плошчай Гародні, страта функцыі захавання гістарычнай памяці. Сацыялагічны аналіз канатацый плошчы ва ўспрыняцці жыхароў можа даць важны матэрыял для карэкціроўкі яе функцый ці па-магчымасці падкажа спосабы вяртання гістарычнай памяці пляца.

Плошчы ў сучасных еўрапейскіх гарадах працягваюць быць носьбітам пасłання і знакавым элементам. Іх функцыі дынамічныя, змяняюцца ў залежнасці ад перапланіровак і вынаходніцтва новых наікрункаў асвойвання. Значэнне і функцыі плошчаў фарміруюцца як уладамі горада (планіроўшчыкамі, архітэктарамі, уласна магістратам), так і яго жыхарамі, якія знаходзяць уласныя спосабы выкарыстання існуючай прасторы. У гістарычных гарадах плошчы часта з’яўляюцца носьбітам гістарычнай памяці і сведчаць аб яго тоеснасці.

[17] “Грамадская прастора – канфігурацыя вуліц, пляцаў і паркаў – складае генетычны код горада, паводле якога ён можа адрадзіцца з разбурэння ці руіны. Змястоўнасць коду неабмежаваная. Пакуль не будзе пашкоджаны яго носьбіт – культура і захоўваючы яго звычай, заключаны ў праве – горад атрымлівае ў спадчыну памяць усяго і можа адрадзіць з яе свой першасны выгляд” (Cz. Bieliecki, *Gra w miasto,* Warszawa, 1996, s. 50).

Юры Гардзееў (Кракаў)

# Прастора гарадзенскага Рынка і соцыум у 16-18 стст.

## Пытанне пачаткаў Рынка

Гісторыя кожнага горада арганічна звязана з развіццём і арганізацыяй яго прасторы, адным з элементам якой з'яўлялася цэнтральная плошча. У літаратуры бытуе зманлівая думка, што Рынак у Гародні як новы гарадскі цэнтр сфарміраваўся ў выніку атрымання магдэбургскага права ў 1391 г.[1] Улічваючы адсутнасць элементарнага дакументальнага пацверджання надання гораду права на самакіраванне, а гэтак жа стан тагачасных адносін з крыжакамі і супрацьстаянне Вітаўта і Ягайлы ў адзначаным годзе, гэта версія падаецца малаверагоднай. Па гэтай прычыне больш пэўным будзе звязваць станаўленне новай планіровачнай сеткі з 15 ст., калі склаліся больш спрыяльныя перадумовы.

Аналіз графічнага матэрыялу не пакідае сумнення, што разрастаючыся, гарадская прастора выходзіць па-за межы радыяльна-кальцавой кампазіцыі, абмежаванай сярэднявечнымі ўмацаваннямі, якія, як можна дапускаць, былі зрыты. На думку Аляксандра Краўцэвіча на планах горада Новага часу і плане-рэканструкцыі планіроўкі Гародні Алены Квітніцкай „*добра заметныя вуліцы, якія плаўнай дугой ідуць ад яру да берага Гараднічанкі якраз у тым месцы, дзе, найверагодней, маглі быць умацаванні 14 ст.*"[2] Калі зыходзіць з гэтых разважанняў, то нельга выключыць магчымасці, што яны праходзілі недзе ўздоўж сучаснай вуліцы Маставой, якая ў 16 ст., небеспадстаўна, была названа




Тапаграфія г. Гродна канца 14 — пачатку 15 ст. А — рынак; В — пасады; *I* — Верхні замак; *II* — Ніжні замак; *III* — каталіцкія могілкі; *IV* — праваслаўныя могілкі; *V* — яўрэйскія могілкі; цэрквы: *1* — Верхняя, *2* — Прачысценская, *3* — Барысаглебская, *4* — Малая, *5* — Васкрасенская (?); *6* — касцёл; *7* — сінагога

**Рэканструкцыя тапаграфіі Гародні Алеся Краўцэвіча.** *(А. Краўцэвіч, Гарады і замкі Беларускага Панямоння XIV-XVIII стст. Мінск, 1991 г., с. 73)*

„*вуліцай Вялікай да мосціка на Падоле*"[3].

Сапраўды, на планах 18-19 ст. выразна вылучаюцца дзве адметныя планіровачныя зоны горада. Першая – самая старадаўняя, кампактная, якая нагадвала шчыльнае павуцінне. Яе радыяльная сетка вуліц характарызавалася цэнтраімклівасцю адносна замка. Такая планіровачная структура магла развіцца ў выніку значнай скучанасці забудовы, абмежаванай перыферыйнымі ўмацаваннямі.

Урэшце варта падкрэсліць, што супастаўленне трасіроўкі вуліц, якія беглі па ўскрайках сярэднявечнага горада, з гіпатэтычным месцам знаходжання абарончых умацаванняў,

[1] Ю. Чантурия, *Градостроительное искуссство Беларуси второй половины XVI - первой половины XIX в.*, Минск, 2005, с. 94.

[2] А. Краўцэвіч, *Гарады і замкі беларускага Панямоння ў XIV-XVIII стст.*, Мінск, 1991, с. 73, 75.

[3] *Писцовая книга Гродненской экономии* (далей ПКГЭ), т. 2, Вильно, 1882, с. 46; T. Niewodniczański, *Grodno-bemerkungen zur panorama-vedute von Adelhauser/Zündt 1568* // Lüneburger beiträge zur vedutenforschung, Lüneburg, 1983, s. 109.

паказвае на заходні бок будучай цэнтральнай плошчы горада.

Такім чынам, пачынаючы з 15 ст. гарадское насельніцтва пачало засяляць абшар плато ва ўсходнім і паўночным накірунку адносна старажытнага сярэднявечнага горада[4]. Можна таксама зрабіць здагадку, што чарговы этап асвойвання прасторы Рынка меў непасрэдную сувязь з атрыманнем горадам магдэбургскага права ў 1496 г.[5] Станаўленне структуры гарадскога самакіравання надало штуршок далейшаму развіццю яго архітэктурнапрасторавых форм, у тым ліку абумовіла ўзвядзенне аб'ектаў грамадскага прызначэння. Па гэтай прычыне з пэўнай доляй асцярожнасці можна сцвярджаць, што з гэтага моманту быў запачаткаваны працэс інстытуцыялізацыі прасторы.

З гэтага часу ўсе дарогі ў горадзе вядуць не на замак, а на Рынак.

## Першая згадка

Першае ўпамінанне аб гарадзенскім Рынку паходзіць з прывілея караля Жыгімонта Старога 1507 г., у якім той загадаў звярнуць жыдам „*домы их, и клетки на рынку в месте Городенском*"[6]. Застаецца меркаваць, што манарх меў на ўвазе менавіта цэнтральную плошчу горада ці Рынак, на якім знаходзілася ратуша, а не які-небудзь іншы Рынак, напрыклад, які мог з'яўляцца элементам сярэднявечнай планіровачнай структуры.

Нагадаем, што ў 1495 г. жыды былі выгнаны з тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага. Дакладна не вядома, чым быў выкліканы гэты крок вялікага князя Аляксандра Ягайлавіча. Найбольш верагоднымі прычынамі выдалення жыдоў маглі быць фінансавыя цяжкасці дзяржавы і даўгі, якія апошні не быў у стане аддаць найбольш прадпрымальным жыхарам краіны. Нельга таксама выключыць таго, што выгнанне жыдоў вынікала са спроб ўвядзення царкоўнай уніі ў ВКЛ і планаў іх прымусовай хрысціянізацыі. Так ці інакш, аб заганнасці згаданай палітыкі сведчыць факт таго, што ў 1503 г. жыды вярнуліся дамоў[7].



**Фрагмент плана Гародні 1832 г.** *(РДВГА у Маскве, Ф. 349 воп. 12 спр. 1490 г.)*

## Сацыяльна-прасторавая карэляцыя

Ужо ў 19 ст. увагу гісторыкаў, а потым і ў пазнейшым часе - прадстаўнікоў іншых дысцыплін, напрыклад, сацыялогіі і геаграфіі (сацыяльна-экалагічны даследчы накірунак)[8], пачала прыцягваць праблематыка ўзаемнай сувязі і ўплываў прасторы горада і соцыуму[9]. Галоўная думка засяроджвалася на аспекце эвалюцыі горадабудаўнічай структуры як аб'екце дзейнасці жыхароў горада і яе

[4] *Nowy kodeks dyplomatyczny Mazowsza*, wyd. I. Sułkowska-Kuraś i S. Kuraś, cz. 2, Wrocław, 1989, s. 178; А. Краўцэвіч, *Гарады...*, с. 81, с. 27, 44, 70, 75, 77; Ю. Гардзееў, *Планіроўка Гродна ў другой палове 13 - пачатку 15 стст.* // Гістарычны альманах, Гродна, 1998, № 1, с. 13-26.

[5] *Е. Квитницкая, Планировка Гродно в XVI-XVIII вв.* // Архитектурное наследство*, 1964, № 17, с. 15.*

[6] *Акты, относящиеся к истории Западной России* (далей *АЗР*), т. 2, Санкт-Петербург, 1848, с. 29-30.

[7] *Kodeks dyplomatyczny katedry i diecezji wileńskiej*, t. 1, z. 3, Kraków, 1932, s. 763-764; С. Бершадский, *Литовские евреи*, Санкт-Петербург, 1893, с. 256, 259; K. Pietkiewicz, *Wielkie Księstwo Litewskie pod rządami Aleksandra Jagiellończyka*, Poznań, 1995, s. 161-164; G. Błaszczyk, *Litwa na przełomie średniowiecza i nowożytności 1492-1569*, Poznań, 2002, s. 221.

[8] G. Węcławowicz, *Geografia spoleczna miast: zróżnicowania społeczno-przestrzenne*, Warszawa, 2003, s. 14.

[9] T. Jasiński, *Przedmieścia średniowiecznego Torunia i Chełmna*, Poznań, 1982, s. 78.




**Рэканструкцыя планіроўкі Гародні Алены Квітніцкай.**
*(Е. Квитницкая, Планировка Гродно в XVI-XVIII вв. // Архитектурное наследство, 1964 г., № 17, с. 12)*

ўплыве на жыццё насельніцтва.

Сацыяльная структура сярэднявечнага горада характарызавалася разнароднасцю, высокай ступенню яе канцэнтрацыі на адносна невялікім, кампактным абшары, на якім вылучалася паасобныя зоны. Важнае месца адводзілася сэрцу горада – яго галоўнаму Рынку, які займаў цэнтральнае палажэнне на карце асяродка адносна іншых раёнаў, і, што істотна, выконваў шматлікія функцыі.

Накіраванне позірку на суадносіны паміж дзвюма згаданымі катэгорыямі дазваляе калі не грунтоўна вывучыць, то наблізіць да высвятлення і лепшага разумення markdownрознабаковасці сацыяльна-прасторавых працэсаў, у тым заканамернасцей эвалюцыі горадабудаўнічага арганізма.

Можна згадзіцца з думкай, што стварэнне акрэсленай прасторавай структуры горада з’яўляецца не столькі мэтай грамадства, колькі вынікае з яго дзейнасці[10]. Такім чынам, архітэктурна-прасторавая арганізацыя галоўнай гарадской плошчы Гародні была паказчыкам каштоўнасцей гараджан ды норм іх жыццядзейнасці. У дадзеным выпадку выразна акцэнтуецца не столькі фактар мэтанакіраванасці, а хутчэй за ўсё прычынная абумоўленасць аналізуемых працэсаў.

## Характарыстыка горадабудаўнічых форм

Неаспрэчным з’яўляецца факт росту гарадской тэрыторыі, які засведчылі даступныя крыніцы 16 ст. На іх падставе можна адзначыць фарміраванне новага вулічнага сеціва з больш рэгулярнымі, прамавугольна-прамалінейнамі формамі[11].

Зыходзячы з вышэйшых разважанняў, нельга не задацца пытаннем, ці развіццё новага планіровачнага сеціва і яго асваенне былі вызначаны загадзя распрацаваным планам? Станіслаў Александровіч слушна акцэнтуе ўвагу на перапланіроўцы занёманскага прадмесця горада ў 50-х гадах 16 ст.[12] Трэба аднак памятаць, што паскораная перапланіроўка і ўвядзенне на Занямонні пляцаў стандартных памераў (2, 2 ½, 3 і 5 ½ кв. прэнта) было магчыма таму, што сядзібы з’яўляліся вялікакняскай уласнасцю. Дадаткова пацверджаннем згаданых пераўтварэнняў з’яўляецца прывілей караля Жыгімонта Аўгуста 1562 г.[13]

У сувязі з гэтым насоўваецца пытанне, ці падобныя радыкальныя планіровачныя змены закранулі гарадзенскае правабярэжжа, у тым ліку старадаўні Рынак? Урэшце, наколькі эвалюцыя прасторавай структуры Гародні была сугучна з тагачаснай еўрапейскай горадабудаўнічай культурай?

Не выклікае сумнення, што ў першую чаргу істотнай падказ-

[10] G. Węcławowicz, *Geografia społeczna miast...*, s. 17.

[11] Е. Квитницкая, *Планировка...*, с. 32.

[12] S. Alexandrowicz, *Gospodarcze, prawne i etniczne osobliwości sieci miejskiej ziem Wielkiego Księstwa Litewskiego w XVI-XVII w. // Miasto i kultura ludowa w dziejach Białorusi, Litwy, Polski i Ukrainy*, red. J. Wyrozumski, Kraków, 1996, s. 82.

[13] *Акты Виленской Археографической Комиссии (далей АВАК), т. VII, Вильно, 1874, с. 83.*

кай з'яўляюцца захаваныя дагэтуль планіровачныя формы, якія ствараюць уражанне рэгулярнасці. Тым часам, калі ўважліва да іх прыглядзецца, то можна прыйсці да крыху іншай высновы. Па-першае, кожная вуліца мела ўласцівую толькі ёй колькасць сядзіб. Па-другое, падзел вулічнай (сядзібнай) плошчы на ўніфікаваныя пляцы адсутнічаў. Урэшце рэшт у крыніцах не згадваецца пра якія-небудзь мэтанакіраваныя мерапрыемствы у галіне вымярэння стандартных пляцаў і ўвядзення рэгулярнай квартальнай планіроўкі ў Старым горадзе.

Аналіз картаграфічнага матэрыялу дапаўняе сацыяльна-псіхалагічны аспект. Можна мераваць, што ў сярэдзіне 16 ст. радыкальныя планіровачыя пераўтварэнні ў правабярэжнай частцы горада не знайшлі ці хутчэй за ўсё не маглі знайсці шансаў на ажыццяўленне. Не маглі праявіць цікавасці да перапланіроўкі ўладальнікі сядзіб, што ў рэшце рэшт спрычынілася б да адчужэння нерухомасці і непазбежнага парушэння стабільнасці структуры маёмасных адносін, усталяваных на працягу апошніх дзесяцігоддзяў. Таму якія-небудзь падобныя змены не маглі разглядацца гарадскім самакіраваннем, якое з'яўлялася гарантам валодання пазямельнай уласнасцю. Нагадаем, у занёманскай ж частцы горада сітуацыя выглядала інакш: тут перапланіроўка была праведзена на пляцах, якія з'яўляліся гаспадарскай уласнасцю.

Падсумоўваючы, фарміраванне аналізуемага прасторавага сеціва правабярэжнай Гародні не было абумоўлена свядомымі намерамі ці гіпатэтычным планам гарадской супольнасці, наадварот - вынікала са спантаннага развіцця абшару горада.

Галоўная плошча горада сфарміравалася на скрыжаванні новых планіровачных васей. На карысць стыхійнага, непланамернага складання Рынка сведчыць **няцотная лічба вуліц**, якія збягаліся ў ім. З паўночнага ды паўднёвага бакоў плошчы выходзілі па дзве артэрыі. Да іх ліку належалі вуліца Маставая, якая ішла праз заходні рынкавы бок і пераходзіла ў Віленскую, а таксама „вуліца з Рынка на Падол” ды Калюцінская, якія таксама дапаўнялі транзітны рух з захаду на поўнач. Ва ўсходнім накірунку ішла толькі адна вуліца - Азёрская, а да заходняга боку Рынка - ажно тры, якія з'яўляліся элементамі сярэднявечнай радыяльна-веернай планіроўкі[14].

Напэўна, дзеля параўнання і лепшага разумення сацыяльна-прасторавых працэсаў варта будзе нагадаць, што плошча занёманскага прадмесця была вымерана: мела рэгулярную квадратную форму, з яе выходзілі чатыры вуліцы[15].

У сярэдзіне 16 ст. кожны пляц Рынка меў **адрозную форму і плошчу**. Найбольшы з іх займаў 12,2 кв. прэнта[16], а найменшы - 1 кв. прэнт. У сваю чаргу найбольш распаўсюджаным з'яўляўся пляц, плошча якога складала 3-3,5 кв. прэнта[17].

Шматлікія матэрыялы дазваляюць зрабіць выснову аб цэнтраімклівасці гарадской планіроўкі, якая праяўлялася ў тэндэнцыі засяроджання грамадскага жыцця вакол Рынка. У гэтым плане Гародня не з'яўлялася выключэннем.

Характэрнай рысай пэўнай групы сярэднявечных гарадоў былі няправільныя абрысы рынкавых кварталаў ды вогуле нерэгулярная арганізацыя прасторавай сістэмы, абмежаваная абарончымі ўмацаваннямі. Праўда, спецыфіка Гародні заключалася ў тым, што інтэнсіўнае развіццё горада ў другой палове 16 - пачатку 17 стст. выклікала нарошчванне яго тэрыторыі за кошт новых пляцаў, вымераных за Віленскай ці Азёрскімі брамамі[18].

Лагічным падаецца пытанне пра

[14] Расійскі дзяржаўны ваенна-гістарычны архіў у Маскве (далей РДВГА у Маскве), Ф. 846 воп. 16 спр. 21872; Е. Квитницкая, *Центры городов Белоруссии в XVI - первой половине XIX в.* // Архитектурное наследство, 1982, № 31, с. 29.

[15] Тамсама, с. 54-64.

[16] Прэнт - адзінка вымярэння плошчы ў Вялікім княстве Літоўскім, якая была роўнаяя 23, 742112 кв. м. Нагадаем, што 300 кв. прэнтаў складалі 1 літоўскі морг, а 30 моргаў былі роўныя 1 валоце (21 гэктара 36 араў і 79,0125 кв. м.). I. Ihnatowicz, *Vademecum do badań nad historią XIX i XX wieku*, Warszawa, 1967, s. 220.

[17] *ПКГЭ*, т. 2, с. 27-28, 55-56.

[18] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў Мінску (далей НГАБ), Ф. 1761 воп. 1 спр. 1 арк. 175, 414; спр. 3 арк. 15; Ф. 1800 воп. 1 спр. 1 арк. 225-226.

суадносіны эвалюцыі горадабудаўнічых форм Гародні, тагачаснай тэарэтычнай думкі і тэндэнцый развіцця еўрапейскіх гарадоў. Як вядома, урбаністычныя канцэпцыі тэарэтыкаў італьянскага Адраджэння прадугледжвалі спалучэнне катэгорыі сіметрыі, рацыяналізму і прыгажосці. Некаторыя рэнесансныя праекты грунтаваліся на радыкальнай рэканструкцыі горада, увядзенні геаметрычнай акрэсленасці планіровачнага сеціва, рэгулярнасці квартальнай планіроўкі і ўніфікацыі сядзіб. Аналагічнымі рысамі меў вылучацца Рынак, а менавіта ўяўляўся як квадратная ці прамавугольная па форме, незанятая забудовай плошча.

Такім чынам, рэнесансная эстэтыка спалучала прынцыпы мастацкай арганізацыі з рацыяналістычнасцю арганізацыі прасторы, што не было ўласціва планіровачным рашэнням сярэднявечных гарадоў, у тым ліку Гародні. Зрэшты, яе горадабудаўнічыя формы не ўпісваліся ў канцэпцыю ідэальнага горада Леанарда да Вінчы, Джорджыа Васары ці Антоніа ды П’етра Аверліна Філарэтэ. Акрамя таго, *citta ideale* італьянскіх архітэктараў зыходзілі з устойлівасці сацыяльнай структуры горада і стабільнасці форм яго планіроўкі[19].

Утапізм тэарэтычнай думкі ў яго сутыкненні з рэчаіснасцю і штодзённасцю жыцця быў асуджаны на няўдачу. Інакш кажучы, галоўны Рынак Гародні развіваўся ў рэчышчы сярэднявечнай традыцыі, а яго формы былі абумоўлены практычнымі патрэбамі гарадской супольнасці.

## Уплывы рэнесансу

Нягледзячы на выразную пераемнасць сярэднявечнай горадабудаўнічай традыцыі, немагчыма не падкрэсліць вядомыя факты ўвасаблення рэнесансных традыцыі ў гарадской прасторы Гародні. Першым прыкметным прыкладам з’яўляецца рэнесансная **ратуша**[20].

[19] A. Wallis, *Socjologia wielkiego miasta*, Warszawa, 1967, s. 12, 14.

[20] Ю. Гардзееў, *Да пытання аб гісторыі гарадзенскай ратушы (канец XV - XVIII стст.)* // Краязнаўчыя запіскі, вып. 4, Гродна, 1997, с. 57-65.




**Ратуша. Медзярыт Адэльгаўзера - Цюндта 1567-1568 гг.** *(T. Niewodniczański, Grodno-bemerkungen zur panorama-vedute von Adelhauser/Zündt 1568 // Lüneburger beiträge zur vedutenforschung, Lüneburg, 1983, s. 103-107)*

Першыя вядомыя згадкі аб ёй датуюцца 1526 і 1539 гг.[21] Медзярыт Адэльгаўзера-Цюндта 1568 г. прадстаўляе ратушу як двухпавярховы будынак, завершаны высокай вежай.

Даступныя крыніцы[22] не дазваляюць вызначыць дакладнае месцазнаходжанне ратушы. Юзаф Ядкоўскі[23] і Юрый Якімовіч[24] прадставілі гісторыю ратушы і прааналізавалі яе архітэктурныя асаблівасці, адначасова абмінаючы высвятленне пытання яе месцазнаходжання. Алена Квітніцкая размясціла будынак ратушы на скрыжаванні Рынка і вуліцы Замка-

[21] *Zbiór dyplomatów rządowych i aktów prywatnych (od 1387 do 1710)*, cz. I, Wilno, 1858, s. 38, 142; *Белоруссия в эпоху феодализма*, т. 1, Минск, 1959, с. 261.

[22] T. Schiemann, *Rußland, Polen und Livland bis ins 17 Jahrhundert*, bd. 1, Berlin, 1886, s. 636; T. Niewodniczański, *Grodno...*, s. 103-109; P. Reklaitis, *Die Stadtansichten Alt Litauens in der Graphik des 16 bis 19 Jahrhunderts. Vilnius. Gardinas. Kaunas, Trakai*, Lüneburg, 1972, s. 33-43.

[23] J. Jodkowski, *Śródmieście grodzieńskie. Dawne a jutrzejsze*, Grodno, 1930, s. 1-4.

[24] Ю. Якимович, *Зодчество Белоруссии XVI – середина XVII вв.*, Минск, 1991, с. 104.




**Фарны касцёл. Медзярыт Т. Макоўскага 1600 г.** *(Інстытут Мастацтва Польскай АН у Варшаве № 75590)*

вай[25]. Больш верагодным здаецца меркаванне Алеся Краўцэвіча, які лічыць, што яна стаяла ў сярэдзіне Рынка, непадалёку яго злучэння з вуліцай Замкавай[26].

У сярэдзіне 17 ст. ратуша была знішчана. У адпаведнасці з ардынацыяй каралеўскіх камісараў 1675 г., гарадскім улад рэкамендавалася яе адбудаваць, скласці „*абрыс*" на „*фабрыку ратушы і гадзінніка*"[27]. Згаданы дакумент звяртае ўвагу на адну немалаважную акалічнасць. Яго аўтары мелі на ўвазе не столькі сам гадзіннік, колькі вежу, на будову якой планавалася выдаткаваць будаўнічыя матэрыялы. А таму можна дапускаць, што будынак новай сядзібы ўладаў паводле падрыхтаванага „абрысу" мог быць набліжаны да гмаху старой ратушы[28].

Рэнесансныя традыцыі выразіліся таксама ў **перабудове Фарнага касцёла**, які ў канцы 16 ст. змяніў сваё аблічча. У 1584-1587 гг. італьянскі архітэктар Санці Гуччы, які працаваў пры двары караля Стэфана Баторыя, узвёў новы мураваны гатыцка-маньерыстычны храм[29], які, такім чынам, з'яўляецца цікавым прыкладам жывога спалучэння мастацкіх стыляў.

Падсумоўваючы згаданае, пад уплывам горадабудаўнічай культуры Адраджэння ў Гародні ўзводзяцца будоўлі грамадскага прызначэння. Да іх ліку трэба аднесці будынак ратушы, які адпавядаў філасофіі самакіруючага гарадскога асяродка, увасабляў сувязь з тагачаснымі мастацкімі павевамі. Аднак у той жа час, акрамя аспекту сімвалічнасці і дачынення да адзінай еўрапейскай культурнай прасторы, будова ратушы вынікала з практычных меркаванняў гарадской супольнасці, аб чым пойдзе гаворка ніжэй. Урэшце, у эвалюцыі архітэктурна-прасторавых форм Рынка ініцыятыву праяўлялі не толькі мяшчане, але браў яе ў свае рукі манарх, напрыклад як гэта адбылося ў выпадку перабудовы Фары[30].

## Функцыянальны характар прасторавай арганізацыі Рынка

Сказанае вышэй з'яўляецца сведчаннем таго, што ў прасторавай структуры Рынка знаходзіцца важны запіс сістэмы каштоўнасцей і адносін паміж рознымі слаямі насельніцтва. Аляксандр Валіс заўважаў, што „*сацыяльнай прасторай дадзенай супольнасці з'яўляецца выкарыстоўваемы і фарміруемы ёй абшар, з якім яна звязвае сістэму ведаў, уяўленняў, каштоўнасцей і правіл захоўвання, дзякуючы якім найлепш ідэнтыфікуецца менавіта з гэтым абшарам*". Фларыян Знанецкі адрозніваў фізічную і сацыяльную прасторы, уводзячы паняцце *прасторавай каштоўнасці* (wartość przestrzenna). Падобным чынам апісваў прасторавыя формы вытворчасці, спажывання, улады, сімволікі і абмену

[25] Е. Квитницкая, *Планировка*..., с. 25.

[26] А. Краўцэвіч, *Гарады і замкі*..., с. 81.

[27] *ПКГЭ*, т. 2, с. 182-184; НГАБ, Ф. 1761 воп. 1 спр. 3 арк. 57.

[28] J. Jodkowski, *Grodno*, Wilno, 1923, s. 28; ПКГЭ, т. 2, с. 181-183.

[29] A. Fischinger, *Sanci Gucci architekt i rzeźbiarz królewski XVI wieku,* Kraków, 1969; *Архітэктура Беларусі*, Мінск 1993, с. 183; J. Paszenda, *Kościół pojezuicki (farny) w Grodnie // Kultura artystyczna Wielkiego Księstwa Litewskiego w epoce baroku,* Warszawa, 1995, s. 192-193; А. Мілінкевіч, Е. Пашэнда, *Фара Вітаўта ў Гародні // Наш радавод*, кн. 2, Гродна, 1990, с. 182-183.

[30] J. Paszenda, *Kościół*..., s. 194.

Багдан Ялавецкі, акрэсліваючы іх як прадукт сацыяльных працэсаў і звяртаючы ўвагу на абшары з акрэсленым прызначэннем і функцыяй[31].

Такім чынам, характарыстычнай рысай сістэмы прасторавых адносін было выкананне аналізуемым фізічным і сацыяльным прамежкам гарадской тэрыторыі разнародных функцыі – адміністрацыйнай, грамадскага жыцця, гаспадарчай[32], рэлігійнай ці прэстыжнай. Па гэтай прычыне архітэктурна-планіровачныя формы гарадзенскага Рынка можна трактаваць як выраз утылітарных патрэб супольнасці.

Не выклікае сумнення, што галоўным адміністрацыйным аб’ектам Рынка была **ратуша**, прастора якой разам з абшарам вакол яе вылучалася шматфункцыянальнасцю**.** У пэўнай ступені яе даводзіцца характарызаваць як агульнадаступную прастору для прадстаўнікоў розных слаёў насельніцтва, кожнага мешчаніна незалежна ад яго сацыяльнага статусу. Калі на пасяджэнне рады і лавы мог з’явіцца не кожны, то будынак ратушы быў даступным для просьбітаў канцылярыі, купцоў, якія важылі свае тавары ці зняволеных, што знаходзіліся ў турэмных падзямеллях[33]. Рынак быў месцам абвяшчэння выракаў і выканання пакаранняў[34].

Урэшце, на прыкладзе ратушы як будынка і ўстановы пазастаецца звярнуць увагу на ўзаемную залежнасць паміж сацыяльнымі патрэбамі і функцыямі прасторы. Ратуша лічылася асноўнай сімвалічнай каштоўнасцю мяшчан, якая нагадвала пра факт функцыянавання самакіруючых структур і юрыдычнай самастойнасці гарадской абшчыны.

Да ліку аб’ектаў грамадскага прызначэння належаў **слуп ганьбы**[35]. Нягледзячы на тое, што гарадскі судовы лад і правасуддзе навачаснай Гародні не вывучаны ў дастатковай меры, то ўступны аналіз архіўных матэрыялаў паказвае на яго існаванне і функцыянаванне ў межах адзначанай прасторы. Так у магістрацкіх кнігах 1690 г. захавалася згадка пра парабка, які меў быць публічна высцебаны побач з прэнгежам і выгнаны з горада “*майстрам*”[36]. У апошнім выпадку гарадская прастора з’яўлялася полем узаемных кантактаў прадстаўнікоў розных слаёў супольнасці, але і выконвала функцыі бар’ераў, якія падзялялі людзей[37].

Грамадская функцыя Рынка ўвасабляла розныя бакі жыцця гараджан. Абавязковай сферай гарадскіх кантактаў была **карчма**. Паводле прывілея на магдэбургскае права 1496 г. горад атрымаў дазвол на валоданне трыма корчмамі[38]. Адна з іх, як можна дапусціць, стаяла на рагу Рынка і вуліцы Віленскай. Першае ўпамінанне аб гэтай карчме паходзіць з валочнай памеры Гародні 1560 - 1561 гг.: „*карчма, дом мескі гасцінны*”[39]. Яе прыналежнасць да фонду гарадской уласнасці пацвярджаюць пазнейшыя крыніцы. Напрыклад у магістрацкіх кнігах у 1659 г. сустракаецца запіс пра “*plac miejski karczemny*”[40]. Аб тым, што карчма належала да аднаго з найважнейшых месцаў у прасторы каштоўнасцей гараджан сведчыць прывілей Стэфана Баторыя 1579 г., згодна з якім яна вызвалялася ад платы капшчызны ці падатку з продажу алкагольных напояў[41].

Як можна меркаваць, старадаўняя рынкавая карчма ў Гародні існавала задоўга да атрымання горадам прывілея на магдэбургскае права. Яе ўзвядзенне ў так рухлівым пункце горада тлумачыцца натуральнымі патрэбамі гарадской супольнасці. Тут бавілі час не толькі жыхары, але і цэхі, праводзіліся забавы, вяселлі і святочныя вячэры, прысвечаныя прыняццю

[31] G. Węcławowicz, *Geografia spoeczna miast*..., s. 18-21.

[32] P. Rybicki, *Społeczeństwo miejskie*, Warszawa, 1972, s. 138, 169.

[33] J. Hardziejeŭ, *Przyczynek do dziejów kancelarii miejskich grodzieńskich w XVI - XVIII w.* // Białostocczyzna, nr 1-2, 2001, s. 3-12; Ю. Гардзееў, *З гісторыі канцылярыі гарадзенскага магістрата XVI - XVIII стст.* // Herold Litherland, Год 4, 2004, № 3-4, с. 103-109.

[34] J. Jodkowski, *Śródmieście*..., s. 2; НГАБ, Ф. 1761 воп. 1 спр. 6 арк. 35.

[35] Прэнгеж - з ням. мовы *pranger*.

[36] НГАБ, Ф. 1761 воп. 1 спр арк. 31

[37] A. Wallis, *Socjologia i kształtowanie przestrzeni*, Wrocław, 1971, s. 21.

[38] *АВАК*, т. VII, с. 60.

[39] *ПКГЭ*, т. 2, с. 25.

[40] НГАБ, Ф. 1800 воп. 1 спр арк. 25-26.

[41] *АВАК*, т. VII, с. 92-93.

новых майстраў. У ёй затрымоўваліся падарожнікі і купцы[42]. Такім чынам, карчма з'яўлялася чарговай плоскасцю сувязей гарадзенскага соцыуму, прадстаўнікоў розных саслоўяў, сацыяльных і прафесійных груп.

Інстытуцыянальныя магчымасці непасрэдных кантактаў пашыралі рынкавыя **шынкі**, якія, як можна дапускаць, прыцягвалі не заўсёды заможныя слаі насельніцтва. Уладальнікамі гэтых невялікіх піцейных аб'ектаў былі заможныя мяшчане ды магістрацкія ўраднікі - вядомыя з крыніц 18 ст. Ян Разумовіч, Юзаф Судан, Феліцыян Легатовіч ці Міхал Календа[43]. З 1790 г. паходзіць згадка пра Цвіклічоўскую камяніцу ў Рынку, якая належала Даніэлю Лянкевічу[44].

Месцам кантактаў соцыуму з'яўляліся **могілкі**, якія знаходзіліся ў Рынку, побач з Фарным касцёлам. Акрамя выконвання традыцыйных функцыі, яны з'яўляліся месцам грамадскіх сходаў ці шпацыраў. На тэрыторыі могілак будаваліся жылыя дамы ды крамы. Паводле крыніц 18 ст. на цвінтарных пляцах стаяў парафіяльны шпіталь з садам[45]. Такі стан рэчаў знаходзіць рацыянальнае тлумачэнне ў абмежаванасці гарадской тэрыторыі і ўшчыльненні яе забудовы. Таму кожны адносна невялікі і свабодны абшар фізічнай прасторы горада выкарыстоўваўся як месца для зносін розных слаёў супольнасці.

Як паказваюць крыніцы, у канцы 18 ст. у Гародні было паднята пытанне азелянення горада. Зыходзячы з павышэння яго прэстыжу і эстэтычных, а гэтак жа ўтылітарных меркаванняў, тагачасныя ўлады ў рамках мяркуемага шырокамаштабнага добраўпарадкавання запатрабавалі ад уладальнікаў сядзіб закладваць сады, высаджваць фруктовыя




**Фарны касцёл і могілкі. Канец 18 ст.**
*(Малюнак Ганны Тышкевіч. Нацыянальны музей у Кракаве № 43960)*

дрэвы перад фронтам сядзіб на вуліцы. Гэта ж прапанова датычыла цэнтральнай плошчы горада[46].

Адным з найважнейшых інстытуцыялізаваных месцаў горада быў парафіяльны касцёл правабярэжнай часткі горада, г.зн. **Фара Вітаўта**, што размяшчалася на заходнім баку Рынка. Касцёл з'яўляўся сімвалам горада, які калі не перасягаў іншыя будоўлі, то, напэўна, быў адной з дамінант Рынка. Яго прэстыж дадаткова ўзмацнялі новыя мастацкія формы, набытыя падчас перабудовы ў другой палове 16 ст.

Ва ўнутранай прасторы ўжо неіснуючага Фарнага касцёла адлюстроўваліся не толькі мяшчанская стратыграфія, формы інстытуцыялізацыі жыцця горада ці сукупнасць каштоўнасцей соцыуму, але і структура цэхавага рамяства. Як можна меркаваць, з прэстыжнасцю галоўнага храма магдэбургскага горада належыць звязваць факт утрымання **алтароў**

[42] Аддзел Рукапісаў Бібліятэкі Акадэміі Навук Літвы (АР БАН Літвы), F 1-585.

[43] *АВАК*, т. V

[44] НГАБ, Ф. 1761 воп. 1 спр. 14 арк. 1250-1251, 1172-1273.

[45] Ph. Ariés, Człowiek i śmierć, Warszawa, 1992, s. 65, 73-75, 78; АР БАН Літвы, F 43-8193 арк. 2; Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў Гродне (далей НГАБ у Гродне), Ф. 259 воп. 1 спр. 9 арк. 1, 12-12адв; Літоўскі дзяржаўны гістарычны архіў (далей ЛДГА), Ф. 694 воп. 1 спр. 3985 арк. 14-15.

[46] W. Trzebiński, *Nadzór budowlany i przepisy policyjno-budowlane w Polsce oświecenia jako środki naprawy miast krolewskich // Miasta doby feudalnej w Europie Środkowo-wschodniej*, red. A. Gieysztor i T. Rosłanowski, Poznań-Toruń, 1976, s. 268; *Komissya Porządkowa i Cywilno-Wojskowa powiatu grodzieńskiego z* 6 lipca 1790 r., k. F1- F2 (Аддзел Старадрукаў Бібліятэкі Вільнюскага ўніверсітэта, № 17628).

злотнікамі, цырульнікамі, мяснікамі, рыбакамі і прадстаўнікамі зборнага цэха будаўнічых спецыяльнасцей у 17 ст. Цікавымі трэба палічыць звесткі інвентара Фарнага касцёла 1793 г. аб наглядзе за алтарамі акрамя рамесных брацтваў таксама ўбогіх[47].

Не менш важнай плоскасцю ўзаемасувязей былі **рэлігійныя брацтвы**. Брацтва св. Анёла Апякуна ў Фарным касцёле было заснавана ў 1560 г. У 17 ст. яго членамі былі ўраднікі гарадзенскага магістрата, рамеснікі, прадстаўнікі гарадскіх нізоў і нават шляхты[48]. Такім чынам, прасторава-матэрыяльныя формы касцёла калі і не спрычыняліся да бурэння замкнёнасці сацыяльнай структуры, што ў прынцыпе было немагчыма ва ўмовах феадальнага грамадства, то падштурхоўвалі да збліжэння розных слаёў гарадскога насельніцтва, іх ідэнтыфікацыі і пашырэння поля зносін гараджан.

Істотным у сістэме гарадскіх сацыяльна-прасторавых адносін падаецца высвятленне пытання месца пахаванняў. Як правіла, прадстаўнікі паспольства і гарадскіх нізоў хаваліся на прыкасцёльных могілках. Больш заможныя ці адукаваныя жыхары горада (багатае мяшчанства, шляхта ці духавенства) мелі ў Фарным касцёле свае **склепы**[49]. Аналіз крыніц дазваляе іх класіфікаваць як звычайныя, сямейныя, цэхавыя і брацкія[50]. Матывацыя выбару месца пахавання была выклікана наступнымі фактарамі: прэстыжнасцю касцёла, што знаходзіўся ў Рынку, займаным сацыяльным становішчам у іерархіі гарадской супольнасці, а таксама пражываннем побач з храмам[51].

Сацыяльна-прасторавыя адносіны гарадзенскага Рынка на прыкладзе Фарнага касцёла раскрываюць тыповую для таго часу іерархічную сістэму грамадства. У першую чаргу яна заключалася ў грунтаванні структуры супольнасці на карпарацыйным прынцыпе (утрыманне алтароў ці склепаў паасобнымі сацыяльна-прафесійнымі групамі). Тым часам, поруч з уласцівай для тагачаснага грамадскага ладу саслоўнай герметычнасцю ўнутранае жыццё брацкіх аб’яднанняў сведчыць аб функцыянаванні групы, прыналежнасць да якой не абмяжоўвалася сацыяльнымі рамкамі. Па гэтай прычыне грамадская каштоўнасць прасторы касцёла, якая згуртоўвала розныя саслоўі, з’яўляецца яшчэ больш відавочнай.

Рынкавая прастора была сведкай шматлікіх **святочных падзей**. Удзел у іх парушаў саслоўныя бар’еры, ствараў магчымасці шырокіх кантактаў жыхароў горада. Напрыклад, 13 верасня 1764 г. у горадзе адбыліся урачыстасці з нагоды выбараў караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Пасля імшы ў Фарным касцёле, на якую сабралася вялікая колькасць народу, былі наладжаны феерверкі і салюты. 28 лістапада 1764 г. газета „Kurier Warszawski” паведаміла аб святкаванні каранацыі, якое праходзіла ў Рынку. Традыцыйна яно было запачаткавана імшой у Фары. На ратушы прэзідэнт Гародні Юзаф Бадаракі зладзіў вячэру. Будынак ратушы быў *„ілюмінаваны”* і ўпрыгожаны трыумфальнымі брамамі з каралеўскімі гербамі. Што цікава, ва ўрачыстасці прымалі ўдзел езуіты, якія аздабілі фасад касцёла *„ілюмінацыямі (...) з інскрыпцыямі і сімваламі”*[52].

У Рынку засяроджвалася **гандлёвае жыццё горада**. Мяркуючы па зместу прывілея 1496 г., на першым паверсе ратушы знаходзіліся *„бочка ратушная”* ці мера збожжа, *„мера мёду”* ды *„камора для пастрыгання сукна”*[53]. Гэтыя, на першы погляд надзвычай лаканічныя, звесткі можна патрактаваць у характары сведчання ролі Гародні як цэнтра рэгіянальнага гандлю ды транзітнага асяродка. Як вядома, збожжа і мёд былі важнымі экспартнымі таварамі, абарот якімі мог адбывацца на **кірмашах**. Не менш істотным падаецца ўпамінанне пра

[47] НГАБ у Гродне, Ф. 259 воп. 1 спр. 34 арк. 3-4адв.

[48] НГАБ у Гродне, Ф. 259 воп. 2 спр. 2 арк. 2, 6адв, 7, 9. 10адв, 14, 15адв-16адв, 18, 18адв, 48, 51.

[49] НГАБ у Гродне, Ф. 259 воп. 2 спр. 3 арк. 228.

[50] НГАБ, Ф. 1761 воп. 1 спр. 1 арк.73; спр. 8 арк. 258-259, 775-777; Ф. 1800 воп. 1 спр. 1 арк. 125.

[51] Ph. Aries, *Człowiek i śmierć*, Warszawa, 1994, s. 57-58, 85-86.

[52] Suplement do *„Kuriera Warszawskiego”*, 3 X 1764, nr 79; 5 XII 1764, nr 97.

[53] *АВАК*, т. VII, с. 61.

пастрыгацкую камору. Зіновій Капыскі падлічыў, што ў 1605 г. праз гарадзенскую мытню было правезена каля 45 найменняў суконных матэрыялаў і тканін[54]. Варта нагадаць, што ў крыніцах 16 ст. натуюцца гарадзенскія пастрыгачы, якія займаліся апрацоўкай імпартнага сукна. Іх „крамніцы" знаходзіліся ў Рынку[55]. У сярэдзіне 16 ст. гэтую прафесію выконваў „*Гжэгаж пастрыгач*", уладальнік сядзібы ў Рынку[56].

Акрамя кірмашоў, якія праводзіліся некалькі разоў у год, у Рынку вёўся штотыднёвы **базарны гандаль**. Шматлікія крыніцы згадваюць пра **рады крамаў**[57], якія адлюстраваны на гравюрах Адэльгаўзера/Цюндта 1567-1568 гг. ды Макоўскага 1600 г. На іх прадстаўлены крамы, бязладна раскінутыя па ўсёй прасторы Рынка. Наколькі гэты вобраз адпавядае рэчаіснасці сведчыць супастаўленне гэтых графічных крыніц з архіўнымі дакументамі. Больш таго, аналіз апошніх дае магчымасць узнавіць месцаразмяшчэнне крамаў паасобных прафесій ці груп насельніцтва.

Упершыню крамы згадваюцца ў валочнай памеры 1560-1561 гг.: „*клеткі з крамнымі рэчамі, мясныя яткі, што хлеб прадаюць і ўсялякімі рэчамі гандлююць*"[58]. На падставе захаваных дакументаў гарадзенскага магістрата можна сцвярджаць, што ў паўночна-заходняй частцы рынкавай прасторы знаходзіліся жыдоўскія крамы[59]. У дадзеным выпадку можна назіраць пэўную заканамернасць у іх лакалізацыі. Згаданыя крамы выходзілі на вуліцу Замкавую, якая ў пераважнай бальшыні была заселенамі жыдамі[60].

У заходняй частцы плошчы, ля вуліцы Маставой, стаялі „*яткі мясныя хрысціянскія*"[61], а на іх задворку – шавецкія крамы. Крамамі валодаў таксама рыбацкі цэх. На Рынку знаходзіліся мураваныя купецкія крамы[62]. Уладальнікамі крамаў была шляхта, напрыклад, крыніцы 1536 г. сведчаць пра „*две клетъки крамъные в ринку*" Рабея Грынковіча[63], а таксама каталіцкае духавенства. У 1739 г. упамінаецца аб набытых аптэкарам езуіцкага калегіума Тамашам Грымскім „*мураваных кромках са склепам мураваным*"[64].

Крамы мясціліся не толькі пасярэдзіне Рынка, але і ў рынкавых камяніцах. Напрыклад, у камяніцы, што стаяла на паўночным баку Рынка, у 1680 г. працавала „кромка" Самоша. У 90-х гадах 18 ст. згадваецца крама ў камяніцы купца Якуба Гаўсмана, на скрыжаванні вуліц Віленскай і Плябанскай з Рынкам. У крыніцах адзначаецца факт іх функцыянавання ў сядзібе на рагу Маставой вуліцы і завулка, які вёў да кляштара базыльянак[65] ці ў рынкавым палацы Радзівілаў[66].

## Добраўпарадкаванне прасторы Рынка

Першыя крокі ў накірунку ўпарадкавання прасторы Рынка зрабіла каралева Бона Сфорца. У 1541 г. выдала прывілей, у якім нагадвала аб неабходнасці выбрукавання Рынка[67]. Палітычныя акалічнасці, а менавіта вызначэнне Гародні як месца правядзення соймаў у 1673 г. прадказвалі змены, якія мелі закрануць Рынак. Згодна з пастановай сойма 1690 г. гараджанам загадвалася перанесці адсюль, а дакладна з тэрыторыі фарных могілак, драўляныя крамы, свірны і яткі[68].

У сярэдзіне 18 ст. на Рынку былі праведзены будаўніча-рамонтныя работы, якія маглі быць прымеркаваны да чарговага сойма 1752 г. У 1749-1752 гг.

[54] З. Копысский, *Экономическое развитие городов Белоруссии (XVI-XVII вв.)*, Минск, 1966, с. 224-225.

[55] *АВАК*, т. VII, с. 77; *ПКГЭ*, т. 2, с. 27, 37, 58.

[56] *ПКГЭ*, т. 2, с. 27, 37, 58.

[57] Ю. Якимович, *Зодчество Белоруссии XVI - середины XVII в.*, Минск, 1991, с. 24.

[58] *ПКГЭ*, т. 2, с. 27.

[59] ЛДГА, Ф. 694 воп. 1 спр. 4401 арк. 2.

[60] *ПКГЭ*, т. 2, с. 39-40, 189-190.

[61] ЛДГА, Ф. 694 воп. 1 спр. 4401 арк. 2; НГАБ, Ф. 1761 воп. 1 спр. 9 арк. 755-756.

[62] НГАБ, Ф. 1761 воп. 1 спр. 6 арк. 1306; спр. 7 арк. 683; Ф. 1800 воп. 1 спр. 1 арк. 347-348; Гродзенскі дзяржаўны гісторыка-археалагічны музей, КП-8439; ЛДГА, Ф. 694 воп. 1 спр. 4401 арк. 2.

[63] *Lietuvos metryka. Kn. 25 (1387 - 1546)*, Vilnius, 1998, s. 212.

[64] НГАБ, Ф. 1761 воп. 1 спр. 6 арк. 290-291.

[65] ЛДГА, Ф. 1282 воп. 1 спр. 1431 арк. 3.

[66] Галоўны архіў старажытных актаў, Архіў Радзівілаў, Аддз. XVIII спр. 325.

[67] *АВАК*, т. VII, с. 76.

[68] *Volumina legum*, t. V, Petersburg, 1860, s. 399.

гарадскія ўлады даручылі іх гарадзенскім і віленскім брукарам[69]. Нельга выключыць наступнай акалічнасці, што ініцыятыва магла зыходзіць ад надворнага літоўскага маршалка Януша Аляксандра Сангушкі, камяніца якога знаходзілася на паўночным баку Рынка[70].

Варта звярнуць увагу на тое, што ў перыяд Чатырохгадовага сойма цывільна-вайсковая камісія Гарадзенскага павета загадала мясцоваму магістрату дбаць аб стане рынкавых брукаў, напраўляць іх – увесну вывозіць ледзяное покрыва і смецце. Найбольш цікавай з пункту гледжання аналізуемай праблематыкі, без усялякага сумнення, з'яўляецца фрагмент універсала 1790 г., у якім камісары заахвочвалі мяшчан да адпаведнага ўтрымання парадку перад сваімі сядзібамі.

Напрошваецца адназначная выснова – Рынак і яго прастора з'яўляліся важным ўзорам прасторавага ладу для жыхароў горада[71]. Прапанова гарадзенскай мясцовай адміністрацыі, якая была накіравана на стварэнне спецыяльнага гарадскога брукавага фонда[72], яшчэ раз дае падставы сцвярджаць аб успрыманні рынкавай прасторы як грамадскай і агульнагарадской.

Такім чынам, сярэднявечныя горадабудаўнічыя формы Рынка праіснавалі ў Гародні ў непарушным стане да канца 18 ст. Як планаваныя, так і здзейсненыя пераўтварэнні аблічча Рынка былі падпарадкаваны патрабаванням часу. Для больш грунтоўнага вывучэння эвалюцыі архітэктурна-прасторавай арганізацыі цэнтральнай плошчы горада неабходнымі падаюцца грунтоўныя археалагічныя даследаванні.

## Сацыяльная структура грамадства і прастора Рынка

Дынаміка маёмасных адносін, якія закранулі прасторавую структуру Рын-




**Рынак. План Гародні 1812 г.** *(РДВГА у Маскве, Ф. 349 воп. 12 спр. 1485)*

ка ў 16-18 стст., з'яўляецца крыніцай, якая дазваляе прачытаць асаблівасці сацыяльнай стуктуры грамадства. Сказанае магчыма прасачыць на прыкладзе характарыстыкі валодання гарадской нерухомасцю рознымі саслоўямі.

Асноўнай прасторава-падаткавай адзінкай горада быў пляц. Кожны зямельны ўчастак у Рынку лічыўся каштоўнасцю, сродкам узбагачэння яе ўладальніка, але да таго ж факт валодання ім з'яўляўся своеасаблівай праявай прэстыжу.

У сярэдзіне 16 ст. прастора Рынка падзялялася на 23 шчыльна забудаваных пляца: па 6 сядзіб на кожным баку, з включэннем заходняга боку. На ім у валочнай памеры натуецца 5 сядзіб. Паводле гэтай жа крыніцы 18 з 23 рынкавых пляцаў знаходзілася ў руках заможных рамеснікаў і магістрацкіх ураднікаў[73]. Рэвізія 1680 г. адзначае ў Рынку 16 пасэсій, у тым 9 мяшчанскіх. Тэндэнцыя пераходу сядзіб у рукі магнацкіх уладальнікаў, якая назіраецца ў другой палове 17 ст., атрымала сваё лагічнае развіццё ў наступны перыяд. Рынкавыя пляцы „праглыналіся" вялікімі зямельнымі комплексамі юрыдык. Прыкладам з'ўлялася фарміраванне ўладанняў Сапегаў ці кляштарнага комплексу езуітаў, узбуйненне юрыдыкі Радзівілаў.

У другой палове 18 ст. гарадзенскі

[69] НГАБ, Ф. 1761 воп. 1 спр. 11 арк. 79-87.

[70] J. Gordziejew, *Urzędnicy nadworni i dworscy litewscy w Grodnie w XVIII w.* // *Dwór a kraj*: *między centrum a peryferiami władzy*, pod red. R. Skowrona, Kraków, 2003, s. 580.

[71] *Komissya Porządkowa i Cywilno-Wojskowa powiatu grodzieńskiego z* 6 ліпеня 1790 г. (Аддзел старадрукаў Вільнюскага ўніверсітэта, № 17628 арк. C2, D2).

[72] Тамсама, арк. D1.

[73] *ПКГЭ*, т. 2, с. 27.

Рынак складаўся ўжо з 11 пляцаў, з якіх толькі тры належалі заможнаму мяшчанству. Такім чынам, крыніцы яскрава сведчаць аб дынамічным характары маёмасных адносін, у выніку якіх мяшчанская нерухомая ўласнасць зменшылася з 81,82 % у 16 ст. да 27,27 % у канцы 18 ст.[74]

Пераразмеркаванне пазямельнай уласнасці горада на карысць шляхты была абумоўлена як палітычным фактарам, так і істотай аграрнага феадалізму[75], для якога галоўным вытворчым капіталам з'яўлялася - зямля, а ў горадзе – гарадскія пляцы. У такіх рэаліях павятовая шляхта кіравалася практычнымі меркаваннямі. Гародня была месцам правядзення земскіх і гродскіх судоў, соймікаў і соймаў. Па згаданых прычынах у такім прэстыжным месцы варта было набываць нерухомую маёмасць.

Сукупнасць захаваных крыніц 18 ст. дае ўяўленне аб канчаткова сфарміраваных маёмасных адносінах у Рынку. На тагачасных планах горада адзначаны пляцы мяшчан мізерных памераў, якія туліліся на заходнім баку плошчы, і вялікія магнацкія юрыдыкі. Вобразна гаворачы, іх суадносіны адлюстроўвалі раскладку сіл шляхты і мяшчанскага саслоўя ў феадальнай сістэме грамадства.

Аб прэстыжнасці Рынка сведчыць характар яго забудовы. Тут пераважалі мураваныя аб'екты, на плошчы ўзводзілі таксама „*камяніцы прускага муру*"[76]. І толькі некаторыя рынкавыя будынкі былі драўлянымі. Да іх ліку належаў, напрыклад, двор гарадзенскага маршалка Тадэуша Александровіча.

## Новая парадыгма

Маёмасныя змены ў другой палове 17-18 стст. спрычыніліся да развіцця новых форм архітэктурнага аблічча. Ідэя адбудовы ратушы - сімвала гарадскога самакіравання - доўгі час не магла знайсці практычнага ажыццяўлення. У той жа час новаўзведзеныя барочныя палацы Сапегаў і Радзівілаў, а таксама касцёла езуітаў пачалі выконваць ролю галоўных дамінант Рынка. Але існуе і іншы аспект панарамы цэнтра горада, які выходзіць па-за межы мастацкага ўспрымання. Сказанае тычыцца ўзаемнай залежнасці паміж сацыльнымі патрэбамі і функцыямі прасторы.

На прыкладзе планіровачнай эвалюцыі гарадзенскага Рынка прадстаўляецца магчымым прасачыць узаемныя сувязі паміж новымі горадабудаўнічымі формамі, функцыямі паасобных будынкаў і структурай супольнасці. Яны з'яўляюцца сведчаннем перапляцення прэстыжнасці прасторы Рынка і яго рэпрэзентатыўнага характару. Так узвядзенне езуіцкага кляштара ў Гародні належыць звязваць з актывізацыяй контррэфармацыйных руху і тым месцам, якое ў ім адводзілася езуіцкаму ордэну. Па гэтай прычыне яго месцазнаходжанне на гарадскім Рынку нельга лічыць выпадковым. Варта нагадаць, што ў Вялікім княстве Літоўскім **езуіты** даволі часта засноўвалі свае



**Забудова Рынка.**
*(Малюнак Напалеона Орды. Нацыянальны музей у Кракаве № 4346)*

[74] *ПКГЭ*, т. 2, с. 27-28, 185; РДВГА, Ф. 846 воп. 16 спр. 21872.

[75] J. Rutkowski, *Wokół teorii ustroju feudalnego*, Warszawa, 1982, s. 107.

[76] Фахверк (ням. *fachwerk* ад *fach - секцыя* і *werk - пабудова*) тып канструкцыі, які ўяўляе сабой драўляны каркас з запаўненнем прамежкаў камянём, цэглай ці глінай. Фахверк адыгрываў не толькі канструкцыйную, але і дэкаратыўную ролю, візуальна расчляняючы фасад на рознакаляровыя панэлі, што надавалі фасаду будынка маляўнічае аблічча (*Архітэктура Беларусі*, Мінск, 1993, с. 563).

сядзібы ў самым цэнтры горада[77].

Наступая заканамернасць тлумачыцца дамінуючым становішчам на палітычнай сцэне **Сапегаў** у 80-90 гады 17 ст. Таму невыпадковым было тое, што адна з іх юрыдык была размешчана ў цэнтра горада, на рагу Рынка і Азёрскай вуліцы. На патрэбы сойма вялікі гетман літоўскі Казімір Ян Сапега правёў перабудовы сядзібы[78], што падкрэслівала яго палітычныя імкненні. З 1777 г. у гэты рынкавы будынак былі перанесены паседжанні Скарбовай камісіі[79].

Роля **Радзівілаў** у сацыяльна-палітычным жыцці краіны не патрабуе спецыяльнай рэкламы. Нягледзячы на ўзлёты і ўпадкі, яны належалі да найбольш магутных магнацкіх родаў. Прысутнасць Радзівілаў была заўважальнай у сацыяльнай прасторы цэнтраў шматлікіх гарадоў. Гарадзенскі Рынак не з'яўляўся выключэннем. Пачынаючы з 17 ст. комплекс уладанняў Радзівілаў сістэматычна павялічваўся, вынікам чаго ў сярэдзіне 18 ст. на паўднёвым баку Рынка сфарміравалася юрыдыка гэтага роду.

Урэшце, у 80-х гадах 18 ст. на Рынку з'явіўся будынак **новай ратушы**[80]. Стылістычныя рысы класіцызму аднапавярховай ратушы, якая мела форму карэ, а паўночны ды паўднёвы фасады якой упрыгожвалі рызаліты з 6-калоннымі дарычнымі порцікамі, ускосна даводзяць магчымы час яе будовы[81].

Падсумоўваючы, архітэктурнае аблічча прасторы Рынка змяніла свой сімвалічны характар. У 16 ст. ратуша і Фарны касцёл як рэпрэзентатыўныя будоўлі пакрэслівалі факт існавання самастойнай юрыдычна акрэсленай абшчыны мяшчан, памкненні гэтага саслоўя. Аднак далейшы ход гістарычных падзей другой паловы 17 – 18 ст. абумовіў складванне новай панарамы Рынка. Архітэктурна-прасторавыя формы канца 18 ст. спалучалі новыя сімвалы - дамінанты езуіцкага касцёла, палацаў Радзівілаў і Сапегаў, якім саступаў не толькі будынак ратушы, але знішчаная пажарамі Фара.

## Саслоўная замкнёнасць ці адкрытасць прасторы Рынка

Паводле тэорыі даіндустрыяльнага горада Гідэона Шоберга (Sjoberg) існуе карэляцыя паміж сацыяльнай структурай, прасторавым размяшчэннем гараджан (spatial distribution of the city's inhabitants) і фізічным з'яўленнем у цэнтры горада (urban center's phisiacal appearance). Па гэтай прычыне на цэнтральнай плошчы горада засяроджваюцца сядзібы эліт грамадства, а рынкавая прастора стаецца недасягальнай для ніжэйшых слаёў насельніцтва[82]. У пэўнай ступені гэта тэорыя адлюстроўвае рэальную раскладку сіл у тагачасным грамадстве, але не ўлічвае пэўнай адметнасці, што знаходзіць пацверджанне на прыкладзе гарадзенскіх крыніц.

Сапраўды, сістэма сацыяльных адносін і залежнасці грунтавалася на валоданні пазямельнай уласнасцю. Можна згадзіцца з думкай, што толькі найбольш заможныя прадстаўнікі розных саслоўяў мелі магчымасць набываць сядзібы ў Рынку. Аднак гэта не выключала магчымасці перасялення рамеснікамі на магнацкія юрыдыкі, уладкаванне на працу незаможнага гараджаніна ў адной з рынкавых сядзіб і даволі працяглага пражывання ў ёй. Так у спісе насельніцтва Гародні 1794 г. сустракаюцца звесткі пра арганіста, кнігара, аптэкара, пекара ці шынкара, якія не валодалі рынкавай уласнасцю, але ў Рынку жылі. У крыніцы гаворыцца аб прадстаўніках плебсу, якія працавалі ў рынкавых сядзібах у харак-

[77] A. Baranowski, *Rola zakonów w rozwoju oblicza miast i regionów dawnego Wielkiego Księstwa Litewskiego*, // Lituano-Slavica Posnaniensia. Studia Historiae Artium, t. V, 1991, s. 85.

[78] P. J. Jamski, *Pałace niedoszłego króla. Artystyczne przygotowania Kazimierza Jana Sapiehy do sejmu grodzieńskiego w roku 1693 // Studia nad sztuką renesansu i baroku*, t. VI, Lublin, 2005, s. 53-82.

[79] S. Kościałkowski, *Z dziejów Komisji Skarbowej Litewskiej w początku panowania Stanisława Augusta (1765-1780)* // Ateneum Wileńskie, Wilno, 1924, nr 2, z. 7-8, s. 375.

[80] *Encyklopedia powszechna*, t. 10, Warszawa, 1862, s. 750.

[81] Е. Квитницкая, *Центры городов ...*, с. 39.

[82] G. Sjoberg, *The preindustrial city past and present*, New York – London, 1965, s. 97-98.

тары хатняй службы (т.зв. дзеўкі, служачыя ды лёкаі)[83].

Урэшце прастора гарадскога цэнтра была даступна для прадстаўнікоў ніжэйшых прыступак гарадскіх нізоў. Гаворка ідзе пра ўбогіх ці калек. Вядома, што ў 1790 г. Гарадзенская парадкавая камісія сваім распараджэннем забараніла ім сядзець на рынкавым бруку і жабраваць[84]. Супастаўленне згаданага з фактам існавання брацтва ўбогіх, што дзейнічаў у Фары, яшчэ больш ускладняе панараму прасторавых адносін Рынка[85].

[83] *[Spis mieszkańców Grodna w 1794 r.] // Grodno w XVIII wieku. Miasto i ludność (na tle trendów rozwojowych od średniowiecza do 1939 roku)*, red. A. Woltanowski i J. Urwanowicz, Białystok, 1997, s. 65-69.

[84] *Komissya Porządkowa i Cywilno-Wojskowa powiatu grodzieńskiego* 6 ліпеня 1790 г. (Аддзел старадрукаў Вільнюскага ўніверсітэта, № 17628 арк. С3).

[85] НГАБ у Гродне, Ф. 259 воп. 1 спр. 34 арк. 3-4адв.

## Заканчэнне

Сацыяльна-прасторавая арганізацыя гарадзенскага Рынка развівалася ў рэчышчы сярэднявечнай гарадской мадэлі. У фарміраванні яе архітэктурнага аблічча першасная роля адводзілася не столькі эстэтычна-мастацкім каштоўнасцям, сколькі грамадскім патрэбам і духу утылітарызму. Рынак з’яўляўся абшарам узаемнага перапляцення і кантактаў розных слаёў насельніцтва, а яго прастора ўяўляла скаладанае спалучэнне адміністрацыйна-судовых, рэлігійных, гаспадарчых і рэпрэзентатыўных функцый.

Пётр Яцэк Ямскі (Варшава)

# Палацы прэтэндэнта на каралеўскі трон. Мастацкая падрыхтоўка Казіміра Яна Сапегі да гарадзенскага сойма 1693 года[1]

## Уступ

Гісторыя комплексу двух рыначных палацаў Сапегаў у Гародні як дагэтуль закраналася павярхоўна ў навуковых працах, прысвечаных пачатковай лакалізацыі будынка так званай "Баторыеўкі", узведзенай ў часы Стэфана Баторыя[2], а таксама пытанням перабудовы сапегаўскай сядзібы на патрэбы сойма ў пачатку XVIII ст.[3] Згадвалася пра яго існаванне ў артыкулах агульнага зместу, у першую чаргу горадабудаўнічых, у якіх прадстаўлялася праблематыка барочных палацаў і дворыкаў соймавага горада[4]. Некалькі разоў замак і каралеўскі палац з'яўляліся тэмай разважанняў гісторыкаў архітэктуры і цырыманіяльнай прасторы, але аднак без адлюстравання шырокага гарадскога кантэксту[5]. Апошнім часам былі апублікаваны дзве працы, якія раскрывалі гісторыю палацавых збудаванняў у Гародні. Першая – аўтарства Ежы Кавальчыка – якая з'яўлялася спробай назапашвання і ўпарадкавання усіх вядомых архіўных гістарычных, картаграфічных матэрыялаў, якія датычыліся соймавага горада ў 1755 г.[6]; другая – Анджэя Бэтлея – набліжае нас да гісторыі палаца Сангушкаў у XVIII ст.[7]

Пунктам адліку маіх разважанняў на тэму палацавага комплексу Сапегаў былі знойдзеныя ў Бібліятэцы Акадэміі Навук Літвы ў Вільні невядомыя як дагэтуль дакументы з часоў яго будовы. Тры лісты з 1692 г. Лямборскага (Lemborskiego), імя якога застаецца невядомым, адрасаваныя да Казіміра Яна Сапегі, змяшчаюць звесткі пра яго нагляд за будаўнічымі работамі згада-

---

[1] P. J. Jamski, Pałace *niedoszłego króla. Artystyczne przygotowania Kazimierza Jana Sapiehy do sejmu grodzieńskiego w roku 1693 // Studia nad sztuką renesansu i baroku*, t. VI, Lublin, 2005, s. 53-82.

[2] Як дагэтуль грунтоўныя працы, прысвечаныя праблематыцы так званай "Баторыеўкі" адсутнічаюць. Гэтае пытанне разглядавалася толькі ў папулярнай літаратуры ці турыстычных даведніках, а таксама мімаходам у мастацтвазнаўчых даследаваннях па гісторыі Гародні.

[3] W. Hentschel, *Die sächsische Baukunst des 18. Jahrhunderts in Polen*, Berlin, 1967, s. 189-190; J. Lileyko, *Przebudowa grodzieńskich pałaców Batoriańskiego i Sapieżyńskiego na gmach sejmowy w 1717-1718 roku // Między Padwą a Zamościem, Studia z historii sztuki i kultury nowożytnej ofiarowane profesorowi Jerzemu Kowalczykowi*, Warszawa, 1993, s. 263-274.

[4] Ю. Егоров, Градостроительство Белоруссии, Москва, 1954; В. Кудряшев, Гродно, Москва, 1960; Е. Квитницкая, Планировка Гродно в XVI-XVIII вв. // Архитектурное наследство, № 17, 1964, с. 18-36; S. Szymański, Urbanistyczno-architektoniczne formowanie się Grodna w okresie od XIV do XVIII wieku // Rocznik Białostocki, t. IX, 1968/69, s. 257-260.

[5] J. Wojciechowski, *Królewski Zamek Stary w Grodnie*, Grodno, 1936, s. 5-27; Тойжа, *Stary Zamek w Grodnie* // Biuletyn Historii Sztuki i Kultury (далей BHS), t. VI, nr 2,1938, s. 120 і наст.; S. Szymański, *Pałac Królewski w Grodnie* // Rocznik Białostocki, t. VI, 1965, s. 297-334; T. Zielińska, *Szlacheccy właściciele nieruchomości w miastach XVIII w*., Warszawa, 1987, s. 34, 80, 113-115; А. Трусаў, В. Собаль, Н. Здановіч, *Стары Замак у Гродне XI-XVIII стст.*, Мінск, 1994; J. Lileyko, *Przebudowa Zamku w Grodnie na cele Sejmowe w latach 1673-1678 // Kultura artystyczna Wielkiego Księstwa Litewskiego w epoce baroku*, red. J. Kowalczyk, Warszawa, 1995, s. 129-145; B. Wierzbicka, *Gmachy i wnętrza sejmowe w Polsce*, Warszawa, 1998, s. 96-99; J. Lileyko, *Sejm polski. Tradycja-ikonografia-sztuka*, Warszawa, 2003, s. 81-91.

[6] J. Kowalczyk, *Pałace i dwory późnobarokowe w mieście sejmowym Grodnie // Sztuka ziem wschodnich Rzeczypospolitej w XVI-XVIII wieku*, pod. red. J. Lileyki, Lublin, 2000, s. 451-472.

[7] A. Betlej, *Nowe wiadomości na temat pałacu Sanguszków w Grodnie* // Przegląd Wschodni, t. VI (2000), nr 1(21), s. 169-176.

ных палацаў у Гародні[8]. Нягледзячы на тое, што ў іх выступаюць безупынныя просьбы фінансавай падтрымкі і доказы свайго заангажавання ў справы "*вяльможнага пана і Дабрадзея*", яны змяшчаюць даволі хаатычныя заўвагі мастацкага плану гэтага прадпрыемства. Гэтыя лісты выяўляюць звесткі пра раней пастаўленыя будынкі і па гэтай прычыне я распачну мае вывады ад прадстаўлення іх гісторыі.

## Сапегаўскія юрыдыкі ў Гародні да 1692 года

Вялікі гетман літоўскі Казімір Ян Сапега[9] ў першай палове 90-х гадоў XVII ст. валодаў у Гародні трыма невялікімі юрыдыкамі[10]. Першая - знаходзілася побач з будынкамі езуіцкага кляштара, Рыначнай плошчай, Брыгідскай вуліцай (якая называлася Азёрскай) і „Вуліцай з Рынка на Падол" (пазней называлася Бернардзінскай і Мяшчанскай)[11], другая – побач з кляштарам бернардзінцаў[12], трэцяя – на Віленскай (пазнейшая назва - Дамініканская вуліца), каля шпіталя св. Тройцы[13].

Недзе перад 1690 г. Сапегі працягвалі скупаць сумежныя пляцы. У той жа час пачынаючы з 1683 г. на іх былі праведзены рамонтна-будаўнічыя работы: у двух палацах і драўляным дворыку, набытым у бернардзінцаў, які ляжаў блізу іх касцёла[14] (раней нерухомасцю валодалі Пацы)[15]. У маёмасных матэрыялах Сапегаў, што захоўваюцца ў зборах бібліятэкі Вільнюскага ўніверсітэта, змешчаны гадавыя справаздачы арандатараў і адміністратараў комплексу нерухомай маёмасці Казіміра Яна Сапегі, а ў іх - дробныя згадкі пра передачу сродкаў з усіх ключоў, які выкарыстоўваліся ў мэтах будовы двух мураваных палацаў[16].

Пачынаючы з 1683 г. аб'ём выкарыстаных сродкаў паступова павялічваўся, дасягаючы сваёй кульмінацыі каля 1692 г., што тлумачыцца ўзростам палітычнай і фінансавай пазіцыі вялікага гетмана, а таксама яго патрэбамі і памкненнямі. І так, у 1684 г. былі запачаткаваны сур'ёзныя работы па ўзвядзенню мураванага палаца. Аб гэтым сведчаць заказы вялікай колькасці цэглы і іншых

[8] Аддзел рукапісаў Бібліятэкі Акадэміі Навук Літвы (далей АР БАН Літвы), F-139-2627 k. 1-11v. Listy różnych do różnych 1630-1724, Listy Lemborskiego do Kazimierza Jana Sapiehy (лісты, якія накіроўваліся з Гародні 5 і 29 верасня, 14 кастрычніка 1692 г.).

[9] A. Rachuba, *Sapieha Kazimierz Jan // Polski Słownik Biograficzny* (далей *PSB*), t. XXXIV/1, z. 140, Wrocław, Warszawa, Kraków, 1992, s. 37-48.

[10] Гарадзенскія юрыдыкі ўваходзілі ў склад Воўпаўскага ключа Сапегаў у Ваўкавыскім павеце. У падаткавых табліцах 1690-1691 гг. была пададзена наступная колькасць дымаў – ад 11 (падчас аплаты падаткаў) - да 25 (падчас іх спагнаняння ўраднікамі сапегаўскіх юрыдык); АР БАН Літвы, F-4-1744 k. 36r. *Regestr Zaprzysiężonych dymów ex constitutionis Anno 1690*; тамжа, k. 65r.

[11] Каля 1675 г. пляцы, што ляжалі на рагу тагачаснай вуліцы Азёрскай (пазнейшай Брыгідскай) і Рынка, з'яўляліся ўласнасцю П. Патоцкага. Адзін з іх быў акрэслены як лібертаваны, другі як той, "*na którym żyd mieszka*". Падаецца, што адсутнасць пазначэння пляца як забудаванага можа сведчыць аб тым, што яны не асвойваліся ўладальнікам, тым больш не былі заняты мураванымі будынкамі (*Rachunek placów mieyskich miasta i. k. m. Grodna // Писцовая книга Гродненской экономии (далей ПКГЭ)*, Вильно 1882, ч. 2, с. 185, 192).

[12] 26 сакавіка 1684 г. Казімір Ян Сапега і яго жонка Крысціна з Глебовічаў набылі ад бернардзінцаў, якіх прадстаўляў гвардыян Антоні Гладавіцкі, пляц забудаваны драўляным палацам, за суму 6000 злотых (Навуковая бібліятэка ПАУ і ПАН у Кракаве, № 369, Нацыянальная бібліятэка ў Варшаве, № BN-29295, *Kronika Zakonu Bernardynów Grodzieńskich 1677-1783*, k. 4r).

[13] Пляцы тагачаснага полацкага ваяводы Казіміра Яна Сапегі, што ляжалі на Віленскай вуліцы, межавалі са шпітальным пляцам і сядзібай дамініканцаў. Яны былі забудаваны дворыкам. Гэтая пасэсія злучалася з плацамі, якія ляжалі паабапал "*вулачкі ў бок Тройцы ад Віленскага гасцінца*" (*ПКГЭ*, ч. 2, с. 190, 196, 197).

[14] Глядзі спасылку 11.

[15] У 1679 г. віленскі ваявода Міхал Пац атрымаў згоду айцоў бернардзінцаў на пабудову драўлянага палаца на кляштарным пляцы, які згодна з дамоўленасцю пасля яго смерці (1682) перайшоў у валоданне кляштара (Н. Е. Wyczawski, *Klasztory bernardyńskie w Polsce w jej granicach historycznych*, Kalwaria Zebrzydowska, 1985, s. 81).

[16] Бібліятэка Вільнюскага Ўніверсітэта (далей БВУ), F-4 (A-1744) k. 28r. *Rachunek drugi z tymże P. Jasińskim [starostą szkudzkim] uczyniony rationem Percepty hyberny w roku 1690 8 July* успамінае пра фінансавы разлік з наглядчыкам будоўлі і архітэктарам: „*Давідовічу на гарадзенскія муры і* пану Фрэд'яні талер 6,15 злотых, г.зн. 4500 злотых" (Тамсама, k. 46r). *Rachunek z Wilemożnym Panem Aleksandrem Lettawem Podkomorzym Starodubowskim na arendę Nowego Bychowa 1692-1696* натуе суму 4000 злотых „*на гарадзенскія муры*".

будаўнічых матэрыялаў[17]. Унесены задатак мулярскаму майстру Якубу і іншым мулярам, запрошаным, як можна меркаваць, з Вільні Гансам Сальватарам[18]. Праз два гады было занатавана пра аплату майстра, якія займаўся лепкай і мастацкім аздабленнем інтэр’ераў, набыццё матэрыялаў для яго, а таксама далейшыя выдаткі на цэглу для „*гарадзенскага палаца і на вымураванне кардэгардыі і стайні побач з драўляным палацам*”[19].

У нашым распараджэнні ёсць таксама фрагмент запісаў выдаткаў будоўлі палаца, распачатых 12 мая 1687 г. і закончаных 25 снежня таго жа года. На жаль, адсутнасць падрабязных падказак у вышэйшым дакуменце не дазваляе канчаткова акрэсліць, пра які сапегаўскі палац ідзе гаворка. Пры правядзенні земляных работ і ўзвядзенні падмуркаў былі ўладкаваныя мулярскі цэхавы майстар Бартламей (які зышоў ужо праз 2 месяцы, няўжо ж пасля ўкладкі падмуркаў?), Грыгоры Трахімчук і неякі Гнаеўскі разам са шматлікімі памочнікамі з Гародні, Мерача, Бялавіч, Белавічукоў і Дубна[20]. Не вядома, хто размяркоўваў будаўнічыя выдаткі і хто быў архітэктарам. Сустракаецца толькі прозвішча наглядчыка – даверанай асобы Сапегаў – пана Замойскага. З нататак вынікае, што на будоўлі былі часова ўладкаваны майстры-муляры езуіцкага кляштара.

Работы праводзіліся ў хуткім тэмпе, таму што ўжо ў снежні гэтага ж года былі выдаткаваны фінансы „*за тынкаванне двух камінoў у кардэгардыі*”, а таксама адзначаны зрухі ў работах „*у пакоі Дабрадзейкі*”. Крыніцы сведчаць аб выкапаным катлаване пад „*галерэю*”, рамонт зваленай з „*вялікага палаца зоркі*” і асабістым наглядзе самога Дабрадзея за будаўнічым поступам, які ўзнагароджваў муляроў грашовымі прыбаўкамі, называемымі ”*шнуровымі*”.

Можна дапусціць, што вялікім палацам, апісаным рахмістрам, быў рыначны гмах. У сваю чаргу галерэя злучала апошні з ўзводзімым нанава палацам на Брыгідскай вуліцы, які рыхтаваўся ў спешцы ў мэтах правядзення сойма, запланаванага ў Гародні на 1688 г.[21] У той жа час па прычыне падрыхтоўкі да вяселля кароннага стольніка, сына Казіміра Яна Сапегі, ішлі рэстаўрацыйныя работы драўлянага палаца[22].

---

[17] БВУ, F-4-34064 (A-1291), *Materiały gospodarczo-majątkowe, Regestr Percept i Expensy 1683*, k. 12r (аплата задатку гвардыяну бернардзінцаў на цэглу для гарадзенскага палаца (180 злотых), за камяні для ўзвядзення муроў (350 злотых), задатак за вапна (60 злотых); аплата гарадзенскаму жыду Лейбе Эльясевічу, які падрадзіўся выпаліць 10000 штук цэглы (600 злотых), іншаму жыду Лейбе Маўрановічу, які ўзяўся даць 4000 штук цэглы (200 злотых).

[18] БВУ, F-4-34064 (A-1291), *Materiały gospodarczo-majątkowe, Regestr Percept i Expensy 1683*, k. 12r. Ганс Сальватор хутчэй за ўсё тоесны з муляром, які аднаўляў віленскую кафедру ў 1668 г. Глядзі: J. Kurczewski, *Kościół Zamkowy, czyli Katedra Wileńska w jej dziejowym, liturgicznym i ekonomicznym rozwoju*, t. III, Wilno, 1916, s. 188.

[19] БВУ, F-4-34064 (A-1291), k. 16v, 18r, 21v, 23r, 23v. *Materiały gospodarczo-majątkowe, Regestr Percept i Expensy 1686* („*тынкоўшчыку на падставе загаду Яго Мосці 1200 злотых* [...] *таму ж тынкоўшчыку на пруткі і жалеза* [...] *задаткі на цэглу, выдадзеныя з рук п. Смяроўскага жыду Лейбе і іншым, для гарадзенскага палаца* [...] *у рукі п. Смяроўскага на гарадзенскія муры 200 злотых* [...] *17 верасня на гарадзенскія муры для пана Смяроўскага выслана з Адамкай 200 злотых* [...] *на мураванне камінoў і падмуроўку стайні і кардэгарды драўлянага палаца і іншыя для вялікіх муроў выдаткі ў рукі п. Смяроўскага 400 злотых*”).

[20] Работы пачаліся 12 мая і закончыліся праз 33 тыдні; было выплачана 2475 злотых 17,5 грошы. З боку Казіміра Яна Сапегі працы наглядаў Замойскі (Zamoyski). У дакуменце пералічаны муляры: цэхавы майстар Бартламей (працаваў ад 12 мая да 16 чэрвеня); Грыгоры Трахімчук, Гнаеўскі, Міхал, Якуб, Адам (згадваюцца ў розныя перыяды часу). Мулярскія памочнікі: Леон, Сымон, Енджэй, Богуш, Базылі, Пётр, Аляксей Каркевіч, Ян Канарскі, Ганс Даніэль, Календа, Шыдлоўскі; землякопы: Стэфан Зыгмунтовіч, Казімір Слупскі. „*на камяні выдаткавана 404 злотых 9 грошы* [...] *на розныя патрэбы 442 злотых 90 грошы*” (БВУ, F-4-11978 (A-162), *Budowa Pałaci Murowanego* (*1687*) (без пагінацыі).

[21] Дакладна неакрэсленыя збудаванні на месцы „меншага” палаца Сапегаў на вуліцы Брыгідскай пазначаны на плане Гародні 1655 г. (Е. Квитницкая, *Планировка*..., s. 25). Пытанне датавання плана было разгледжана ў наступных працах: S. Alexandrowicz, *Rozwój kartografii Wielkiego Księstwa Litewskiego od XV do połowy XVIII wieku*, wyd. 2, Poznań, 1989, s. 229; P. Borowik, *Jurydyki miasta Grodna w XV - XVIII wieku* // Acta Collegii Suprasliensis, t. VII, Supraśl, 2005, s. 18.

[22] 14 красавіка быў адзначаны сталяр Томаш, які з двума таварышамі прымаў удзел у будаўнічых работах (БВУ, F-4-11979 (A-162), *Restauracja Pałacu Drewnianego. 1687* (без пагінацыі).

## Падрыхтоўка Казіміра Яна Сапегі да сойма 1693 г.

Вызначэнне чарговых соймавых пасяджэнняў у Гародні згодна з т.зв. літоўскай альтэрнатывай[23] на канец 1692 г. спрычынілася да паскарэння прац ва ўсім горадзе. Палітычны лагер Сабескага, якому на руку было скліканне ў гэты перыяд сойма, рабіў усё, каб максімальна яго затрымаць. Толькі 20 лістапада 1691 г. з каралеўскай канцылярыі выйшлі *deliberatoria* - ліст для сенатараў з фармальным запытам пра спосабы арганізацыі соймавых пасяджэнняў[24]. У другой палове снежня было канчаткова акрэслена месца прац парламента, якія мелі адбыцца ў Гародні. Паседжанні мелі распачацца ў снежні наступнага года. У той жа час, праз месяц, пачалі распаўсюджвацца чуткі пра магчымасць пераносу сойма на вясну 1693 г. Крыху пазней Сабескі спрабаваў пазбегнуць соймавага з'езду, склікаючы на 12 сакавіка 1692 г. падаткавыя соймікі, каб, такім чынам, пераадолець галоўную прычыну дзяржаўнага крызісу – запазычанасць перад войскам. Тым часам, гэтым намерам не наканавана было здзейсніцца.

Па гэтай прычыне надалей цягнуліся спрэчкі паміж групоўкамі наконт пераносу сойма ў Варшаву, а таксама тэрмінаў правядзення пасяджэнняў ці ўвогуле наконт яго замены шляхам т.зв. соймавай камісіі па пытаннях вырашэння праблемы міру. Дзве нарады, скліканыя ў Яварове і Памажанах, не выканалі пастаўленага задання. У рэшце рэшт універсал, згодна з якім сойм меў быць скліканы ў Гародні, быў абвешчаны толькі 3 кастрычніка з вызначэннем даты яго адкрыцця на апошні дзень года[25]. Гэта адбылося, галоўным чынам, пад уплывам сапегаўскай групоўкі, якая спасылалася на ўстаноўкі з 1685 г., змяшчала агаворку аб скліканні наступнага сойма ў Гародні і правядзенні пасяджэнняў пад старшынствам літоўскага маршалка[26].

Напэўна, будучы ў эпіцэнтры дзяржаўнай палітыкі, Казімір Ян і Бенядзікт Сапегі[27] здолелі прадбачыць месца канчатковага склікання сойма і таму ў першай палове года актывізавалі будаўнічыя работы гарадзенскіх палацаў. Праўда, гэта замарудзіла тэмпы работ рамеснага калектыву сапегаўскага комплексу ў Вільні, які ўлетку знаходзіўся на стадыі завяршэння будоўлі і аздаблення палаца Казіміра Яна Сапегі на Антокале.

Захаваліся лісты Венслаўскага (Węsławskiego), які ў гэтым годзе наглядаў за работамі згаданага палаца[28]. Супастаўленне справаздач абодвух сапегаўскіх наглядчыкаў дазваляе зрабіць выснову аб спадзе тэмпаў будаўнічых работ у Вільні і раптоўным перакідванні большай часткі рамеснай групы ў Гародню. Як можна было спадзявацца, Сапегі не мелі манаполіі на неафіцыйныя палітычныя весткі. Паралельна падрыхтоўку распачалі іншыя ўдзельнікі будучага сойма. Гэта абумовіла вялізны будаўнічы рух у невялікім горадзе, павялічваючы попыт на рабочыя рукі і будаўнічыя матэрыялы. Арганізатар гарадзенскіх прац Лямборскі, 14 кастрычніка 1692 г. паведаміў Казіміру Яну Сапезе: „*Удзень і ўначы спяшаюся, каб гэты палац на наступны, дальбог, сойм мог быць гатовы, на заканчэнне якога каб В(яльможны) пан і Дабрадзей некалькі яшчэ тысяч абдумаў, вельмі прашу, таму што шмат яшчэ працы, а час кароткі і*

[23] W. Szwed, *Grodzieńskie sejmy Rzeczypospolitej* // Białostocczyzna, I/1998, s. 30-35; A. Rachuba, *Wielkie Księstwo Litewskie w systemie parlamentarnym Rzeczypospolitej w latach 1569-1763*, Warszawa, 2002, s. 167-193, *Volumina Legum*, t. V, wyd. J. Ohryzki, Petersburg, 1860, s. 67, 214, 255, 306.

[24] Ян III Сабескі пабойваўся, што на сойме ў Гародні з'явіцца шматлікая апазіцыйна настроеная група паслоў з сапегаўскай Літвы (A. Kazimierczyk, *Sejm grodzieński, 31 grudnia 1692 - 11 lutego 1693* // Studia Historyczne, R. XXXIII, z. 1 (128), 1990, s. 22.

[25] A. Kazimierczyk, *Sejm grodzieński* ..., s. 21-36.

[26] На правядзенні сойма ў Гародні настойвала сапегаўская і радзівілаўская групоўкі. Пацаўская фракцыя ў 70-80-х гадах XVII ст. выказвалася за яго пераносам у Вільню (A. Rachuba, *Wielkie...*, s. 177-178).

[27] A. Rachuba, *Sapieha Benedykt Paweł* // *PSB*, t. XXXIV/1, z. 140, Wrocław, Warszawa, Kraków, 1992, s. 583-589.

[28] АР БАН Літвы, F-139-68454, *Listy Samuela Węsławskiego do Kazimierza Jana Sapiehy*, Ліст, напісаны паміж 17 IX і 12 X 1692 г.

*выдаткі вялікія* [...]"[29]. Далей давераны супрацоўнік гетмана піша пра адсутнасць рабочых у Гародні, упрошваючы, каб адміністратар сапегаўскіх уладанняў *„прынамсі па дзесяць простых хлопцаў на цэлы дзень дабаўлялі, цяпер у Гародні вельмі складана з дамачадцамі, паўсюдна працуюць, а на замак амаль што гвалтам забіраюць"*[30].

У так напружаны час прыходзілася змагацца не толькі за рабочых, але і рабіць захады ў мэтах атрымання як найбольшай колькасці „станцый" для паноў-паслоў ды світы іх прыхільнікаў[31]. Імкненне здабыць месца пражывання на час сойма ў горадзе, па-ранейшаму непрыставаным да так шматлікага наплыву гасцей, мела стратэгічнае значэнне. Гэта дазволіла бы запрасіць сваіх прыхільнікаў і, такім чынам, запэўніць перавагу галасоў падчас пасяджэнняў[32]. Варта дадаць, што папярэдні сойм у Гародні быў заўчасна закончаны менавіта па прычыне выезду паслоў, якія не былі ў стане вытрымаць цяжкіх бытавых умоў. Акрамя таго на мяжы 1692-1693 гг. прадугледжвалася правесці соймавыя паседжанні ў зімовыя месяцы, што сарвала стаянне лагерам пад горадам. Гэта абмежавала колькасць паслоў, якія не мелі гарантаванага жытла, у першую чаргу кароннай шляхты, што стварала натуральную перавагу літоўска-сапегаўскай партыі.

## Комплекс двух сапегаўскіх палацаў у перыяд сойма 1693 года

У другой палове XVII ст. назіраецца рост стану валодання нерухомай маёмасцю роду Сапегаў у Гародні. Іх уласнасць, размешчаная ў прэстыжных раёнах горада, у бальшыні належала старэйшаму ў родзе Казіміру Яну[33]. Абшар, які займаў значную частку рэпрэзентатыўнага цэнтра, складаўся з юрыдыкі з двума палацамі, што ляжалі на сумежных пляцах. Акрамя таго ён пастаянна нарошчваўся за кошт часова набытых пасэсій, камяніц і дамоў (іл. 5, 6).

Улічваючы факт, што да канца XVII ст. у Гародні мураваная забудова групавалася толькі вакол Рынка і ўздоўж Замкавай вуліцы, можна з ўпэўненасцю сцвярджаць, што двухузроўневы, галоўны сапегаўскі 11-восевы *„вялікі"* палац з вежай з'яўляўся архітэктурнай дамінантай рынкавай плошчы (іл. 1, 2, 3, 4, 8). Гэта вежа, ускосна згаданая ў 1687 г., была канчаткова знішчана пасля пажару 1750 г. Менавіта таму Вільгельм

[29] АР БАН Літвы, F-139-2627, *Listy różnych do różnych 1630-1724*, *List Lemborskiego do Kazimierza Jana Sapiehy z Grodna* 14 кастрычніка 1692 г., k. 1r.

[30] АР БАН Літвы, F-139-2627, *Listy różnych do różnych 1630-1724*, *List Lemborskiego do Kazimierza Jana Sapiehy z Grodna* 5 верасня 1692 г., k. 11 r. (упамянутым замкам быў Стары каралеўскі замак).

[31] У лістах, накіраваных да Казіміра Яна Сапегі, Лямборскі дакладваў, што *„Панны брыгідкі будуць служыць сваёй пасэсіяй"* Сапегам (АР БАН Літвы, F-139-2627, *Listy różnych do różnych 1630-1724*, *List Lemborskiego do Kazimierza Jana Sapiehy z Grodna* 29 верасня 1692 г., k. 8v). Інакш выглядала справа з ягоным суседам, мозырскім старастай Масальскім, які *„wyszedł z opieki Pańskiej"* і за свой учынак быў прыструнены прыбіццём сапегаўскага герба да брамы свайго палаца (Тамжа, k. 8r). Староста станоўча пратэставаў супраць такога захопу сваёй сядзібы, хаця Казімір Ян Сапега не змяніў свайго загаду. Напэўна, у гэтым выпадку гаворка ідзе пра 3-флігельны палац, што мясціўся на паўднёвым боку Рыначнай плошчы, уласнасці Казіміра Масальскага і Крысціны з Сапегаў. З 1655 г. сядзіба знаходзілася ў руках Сапегаў, калі яе набыў Казімір Леон Сапега. Атрыманая ў спадак Крысцінай Сапегай, якая пасля шлюбу з Казімірам Масальскім унесла яе ў пасаг Масальскім. У 1751 г. Міхал Казімір Радзівіл адкупіў будынкі ў Масальскіх. Вядомы і іншыя прыклады намаганняў здабыць соймавыя памяшканні ад гарадзенскага мешчаніна Узоркі (напэўна, тоесны з уладальнікам забудаванага пляца, згаданага ў 1675 г. (*Rachunek placów mieyskich miasta J. K. M. Grodna // ПКГЭ*, ч. 2, с. 192), які ўлічваючы рашучасць і паводзіны гетмана не процідзейнічаў ягонай волі, дазваляючы прыбіць сапегаўскі герб да свайго дома (АР БАН Літвы, F-139-2627, *Listy różnych do różnych 1630-1724*, *List Lemborskiego do Kazimierza Jana Sapiehy z Grodna* 29 верасня 1692 г., k. 8v.). Вядомы прыклад, калі пленіпатэнт Сапегаў адкупіў у інфлянцкага падкаморыя Уладзіслава Станіслава Сакалоўскага 4-пакаявую „станцыю" за 100 талераў. Уладзіслаў Станіслаў Сакалоўскі, гусарскі таварыш Вінцэнта Гансеўскага, вількамірскі падстолі 1676 г., інфлянцкі падкаморы 1677 г. Памёр у 1701 г. (*Urzędnicy inflanccy XVI-XVIII wieku. Spisy*, opr. K. Mikulski, A. Rachuba, Kórnik,1994, s. 146).

[32] Дзеля параўнання: у Варшаву на сойм 1697 г. прыехала да 100 000 чалавек (J. Putkowska, *Wpływ funkcji miasta sejmowego i rezydencjonalnego na rozwój przestrzenny zespołu miejskiego Warszawy i okolic w XVII w.* // Kwartalnik Architektury i Urbanistyki, t. XX (1975), z. 4, s. 269-287.

[33] J. Gordziejew, *Urzędnicy nadworni i dworscy litewscy w Grodnie w XVIII wieku // Dwór a Kraj. Między centrum a peryferiami władzy*, pod. red. R. Skowrona, Kraków, 2003, s. 571-583.




Выгляд рынкавай забудовы у Гародні, а. паезуіцкі касцёл, фота каля 1920 г.; 1) паезуіцкі касцёл; 2) былы палац Казіміра Яна Сапегі – пазнейшая каралеўская рэзідэнцыя – захаваная частка; 3) незахаваная частка палаца Казіміра Яна Сапегі, называемая „Баторыеўкай”; 4) забудова, якая знаходзіцца на месцы другога палаца Казіміра Яна Сапегі на вуліцы Брыгідскай - пазнейшыя соймавыя памяшканні.




Сітуацыйны план забудовы ўсходняга боку Рынка; 1) паезуіцкі касцёл; 2) былы палац Казіміра Яна Сапегі – пазнейшая каралеўская рэзідэнцыя – захаваная частка; 3) незахаваная частка палаца Казіміра Яна Сапегі, называемая „Баторыеўкай”; 4) забудова, якая знаходзіцца на месцы другога палаца Казіміра Яна Сапегі на вуліцы Брыгідскай - пазнейшыя соймавыя памяшканні; 5) неіснуючая забудова палацавага комплексу 6) незахаваны пераход над Брыгідскай вуліцай.

Шлемюлер (Wilhelm Schlemüller), які апісаў забудову соймавай Гародні ў 1752 г., занатаваў „*двухпавярховы, вельмі аздоблены ў карынфскім стылі палац з плоскім дахам*”[34].

У склад рыначнага ансамбля ўваходзіў другі „меншы” палац, які мясціўся на Брыгідскай вуліцы (іл. 7). З лістоў 1692 г. вынікае, што гэта быў ўпрыгожаны і раскошны будынак, але ў аб’ёмным плане меншы за рыначны гмах. Можна меркаваць, што фасад быў аздоблены ляпнінай. На гэта паказваюць жнівеньскія данясенні Лямборскага: „*тынкоўшчыкі* (*sztukatorowie*) *frontispicium закончылі, г.зн. восем пілястраў з самога верху пачынаючы аж уніз да зямлі*”. Да прамавугольнага ў плане аб’ёма з паўднёвага боку была прыбудавана вялізная, з дадатковым ярусам зала, фасад якой расчлянялі трохсферныя калоны, пры чым цэнтральная была вышэйшая.

На малюнку 1718 г. з часоў перабудовы палаца, вызначанага на соймавы гмах, быў адлюстраваны яго



Усходні бок Рынка, паезуіцкі касцёл і былы палац Казіміра Яна Сапегі, фота П. Ямскі, 2002 г..

[34] W. Schlemüller, *Dyaryusz podróży polskiey na sejm grodzieński Roku Pańskiego 1752 odbytej* // Litwa i Ruś, t. II, nr 1, 1912, wyd. W. Gizbert-Studnicki, s. 12.



Усходні фасад былога палаца Казіміра Яна Сапегі, фота П. Ямскі, 2002.



Вуліца Брыгідская і вуглавая частка былога палаца Казіміра Яна Сапегі, на другім фоне паезуіцкі касцёл, фота калекцыі Інстытута мастацтва Польскай АН, фота каля 1900




План двух паверхаў рынкавага палаца Казіміра Яна Сапегі пасля перабудовы ў рэзідэнцыю Аўгуста II (SAD, VII, 89, nr 2, Blatt 34)



Заходні фасад былога палаца Казіміра Яна Сапегі, паезуіцкі касцёл, фота каля 1920 г.

заходні фасад[35]. На ім відаць, што першыя ярус падзелены на 5 адкрытых аркад галерэі (іл. 9). Другі – падкрэсліваўся вуглавымі вертыкальнымі лапаткамі паміж якімі ішоў рад 9 нерэгулярна згрупаваных аконных праёмаў. Яны мелі ліштвы з вушкамі і завяршаліся напераменку 3-вугольнымі і адрывачнымі сандрыкамі. Лапаткі аддзялялі таксама крайнюю паўднёвую вось фасада, падзяляючы апошнюю яе частку на дзве чатырохвосевыя паловы. У пазнейшы перыяд фрагмент заходняга фасада з боку Брыгідскай вуліцы часткова засланіў двухсхільны дах чарговай будоўлі. У трэцім ярусе, які вылучаўся над цэнтральнай, вышэйшай часткай аб'ёма, відаць 5 невялікіх вокнаў з ліштвамі з вушкамі, падзеленых разам з размешчанымі папераменна квадратнымі філёнгамі і падвоенымі ў вуглах лапаткамі.

[35] Гарадскі Архіў Дрэздэна (Staatsarchiv Dresden), VII, 90, № 5; J. Lileyko, *Przebudowa grodzieńskich...*, s. 269.




**Генеральны план рэзідэнцыянальна-соймавага ансамбля, падрыхтаваны саксонскім архітэктарам Баўманту, (SAD, VII, 90, № 5), 2) былы палац Казіміра Яна Сапегі – пазнейшая каралеўская рэзідэнцыя – захаваная частка; 3) незахаваная частка палаца Казіміра Яна Сапегі, называемая „Баторыеўкай"; 4) забудова, якая знаходзіцца на месцы другога палаца Казіміра Яна Сапегі на вуліцы Брыгідскай - пазнейшыя соймавыя памяшканні; 5) неіснуючая забудова палацавага комплексу; 6) незахаваны пераход над Брыгідскай вуліцай.**




**План і ўсходні фасад палаца Казіміра Яна Сапегі на Брыгідскай вуліцы ў час выконвання соймавых функцый (SAD, VII, 90, nr 5), 4) так званы другі Казіміра Яна Сапегі на Брыгідскай вуліцы – пазнейшыя соймавыя памяшканні; 5) збудаванні палацавага комплексу**

Вальтэр Хэнтшэль (Walter Hentschel), прадстаўляючы праблематыку архітэктуры апісваемай часткі палаца, якая ў першай палове XVIII ст. выконвала функцыю Сенатарскай палаты, быў схільны лічыць яе аўтарам Яна Даніэля Яўха, натхняемага Аўгустам II. Яе ўзвядзенне ён датаваў 1726 г.[36] У той жа час звярнуў увагу на тое, што абрамленне з вушкамі праёмаў адсутнічае ў рэпертуары саксонскіх архітэктараў пасля 1720 г.[37] Ежы Лілейка, параўноўваючы архітэктурныя ўласцівасці будоўлі, небеспадстаўна прапануе адмовіцца ад думкі прыпісвання яму залы з базілікавай формай. На яго думку, выканаўцы праекта хутчэй за ўсё трэба шукаць ў варшаўска-італьянскім мастацкім асяроддзі. Падкрэслівае таксама змены даты згаданай, зусім не выпадковай, канцэпцыі залы, якая нарадзілася сярод літоўскіх маршалкоўска-падскарбінскіх ураднікаў, на 1718 г.[38] З'яўленне на фасадзе апісаных вышэй лапатак і праёмаў з ліштвамі і вушкамі сугучна з традыцыяй класіцызіруемай барочнай архітэктуры Рэчы Паспалітай другой паловы XVII ст. Адзначаны факт яшчэ больш падштурхоўвае да пошукаў датавання праекта менавіта ў гэты перыяд.

На плане Гародні 1706 г. зазначаны абрыс сапегаўскага палаца ў форме, якая вядомая з пазнейшага на 12 год малюнка

[36] W. Hentschel, *Die sächsische* ..., s. 190.

[37] Тамсама, s. 189.

[38] J. Lileyko, *Przebudowa grodzieńskich*..., s. 270.

з выявай пашыранай заходняй залы (Сенатарскай палаты)[39]. Схематычнасць перададзенай інфармацыі не дазволіла Лілейку на высновы пра ранейшую чым 1718 г. дату з'яўлення аб'екта. Тым часам ён не выключыў магчымасці, што Сапегі задоўга да гэтай даты, недзе ў 1700-1705 гг. перадалі свой палац Станіславу Ляшчынскаму для правядзення соймаў[40]. Падаецца, што калі б Сапегі нават і намерваліся з якіх-небудзь прычын яму служыць, то з упэўненасцю ў гэты перыяд не мелі ў сваім распараджэнні сродкаў на перабудову сваёй сядзібы. Акрамя таго, параза пад Алькенікамі 1700 г. змусіла Сапегаў эміграваць. Згаданае ў Вялікім княстве суправаджала моравым паветрам, акупацыяй яго тэрыторыі шведскімі, расійскімі і саксонскімі войскамі. З упэўненасцю можна сказаць, што зазначаны перыяд не спрыяў падобным прадпрыемствам. Ва ўпамянутым вышэй фондзе сапегаўскіх матэрыялаў гаспадарча-маёмасныя дакументы пачатку XVIII ст. практычна адсутнічаюць, што было абумоўлена шматгадовым пазбаўленнем Сапегаў магчымасці распараджацца сваёй нерухомай маёмасцю, а г.зн. пастаяннымі даходамі.

Звернемся да згаданых лістоў 1692 г. У іх можна прачытаць пра справу, якой Лямборскі ганарыўся. Гаворка ішла пра тое, як падчас будаўнічых работ, быў змушаны *„усё пакінуць, падмуркі, да той кінуцца сцяны, а каля адзінаццаць лакцей глыбей дакапацца цвёрдага грунту, а з падвалаў самых падмураваць гэту сцяну, інакш, напэўна, павалілася б"*[41]. Да якой сцяны ён кінуўся? Вядома, што была яна *„новай"*, таму што Лямборскі паведамляў: *„падмуркі на новыя сцены закладзены з вялікімі клопатамі (z wielką turbacyją) і са страхам"*[42]. У іншым лісце пісаў: *„на два памяшканні новыя падмуркі заклаў Яго Мосці пан Фрэяні (Freyani) з вялікім страхам, бо укопваючыся ў грунт так старыя сцены вымалёўвацца пачалі, ажно яе ўсе прытарочылі, калі ж на благім грунце, на жвіры асаблівым, а чатыры толькі глыбіні"*[43]. Крыху пазней, гаворка пайшла пра развалiны, праўдападобна, старых сценах і дакупленых камянях за неблагую суму 400 злотых, якія былі выкарыстаны ў мэтах засыпкі выкапаных катлаванаў і ўмацавання грунту.

Уважліва прыглядаючыся да плана 1718 г., з істотнай доляй праўдападобнасці можна вызначыць абедзве новыя палаты, дабудаваныя Фрэд'яні да заходняй, старэйшай на 5 год, часткі палаца[44]. Напэўна, невялікі храналагічны адрэзак паміж абодвума прадпрыемствамі, той самы заказчык і субпадрадчык абумовілі згоднасць фармальнага дапасавання абедзвюх частак.

Яшчэ раз пяройдзем да трэцяга яруса, яго рэгулярных, хаця і не супадаючых з ніжэйшымі ярусамі, чляненняў (іл. 9). У выніку ўвядзення дадатковай восі архітэктар імкнуўся уніфікаваць фасад. Разам з тым, такое размяшчэнне аконных праёмаў не абавязкова мела сувязь з праведзенай перабудовай. У такім выпадку першыя чатыры праёмы з левага боку трэцяга яруса былі б больш дапасаваныя да ніжэйшага яруса. Здаецца, што гэта пытанне зноў высвятляе Лямборскі, які зазначыў: *„Тынкоўшчыкі працуюць у зале, што як могуць і рыхтаваць хочуць, пакуль што маразы большыя не прыйдуць, вельмі прыгожая будзе, калі ж з усім скончыцца, скляпенні самыя трысцём паўсюдна абітыя і атынкаваныя. З аднаго боку і тынкоўка ўжо завершана. Вокны да гэтай залы пад самым скляпеннем ужо устаўлены, адкуль досыць святла пры-*

[39] План Гародні 1706 г., пачаткова знаходзіўся ў бібліятэцы Е. У. Забеліна, у дадзены момант у Гістарычным музеі ў Маскве (Е. Квитницкая, *Планировка...*, с. 32).

[40] J. Lileyko, *Przebudowa grodzieńskich* ..., s. 274, спасылка 71.

[41] АР БАН Літвы, F-139-2627, *Listy różnych do różnych 1630-1724*, *List Lemborskiego do Kazimierza Jana Sapiehy z Grodna* 14 кастрычніка 1692 г., k. 2r.

[42] Тамсама, k. 1r.

[43] АР БАН Літвы, F-139-2627, *Listy różnych do różnych 1630-1724*, *List Lemborskiego do Kazimierza Jana Sapiehy z Grodna* 29 верасня 1692 г., k. 7r.

[44] Гарадскі Архіў Дрэздэна (Statsarchiv Dresden), VII, 90, № 5, *Der General Plan des Koenige Palais zu Grodno* (...) негатыў у зборах Інстытута Мастацтва ПАН у Варшаве; АР БАН Літвы, F-139-2627, *Listy różnych do różnych 1630-1724*, *List Lemborskiego do Kazimierza Jana Sapiehy z Grodna* 29 верасня 1692 г., k. 7v.



**Выгляд заходняга фасада Сенатарскай палаты 1726 г., (SAD, 84, № 17a)**

*бывае. Галерэя наўкол (circum circa) гзымсам пілястрамі і ляпнінай (sztukaterią) упрыгожана*"[45].

На падставе прыведзенага вышэй фрагмента можна зрабіць шэраг высноў. Па-першае, памяшканне, у якім адбываліся пасяджэнні, было большае за іншыя, таму што апошнія называліся толькі пакоямі. Па-другое, праводзяцца тынкавальныя работы скляпення і выконваецца новае аздабленне ўсёй залы, што змушае задумацца і улічыць тое, што апошні раз падобныя работы прайшлі няпоўныя 5 гадоў таму назад. Па-трэцяе, устаўлена акно пад скляпеннем, нядаўна патынкаваным і пакрытым трысцём. Выходзячы з дапушчэння, што работы былі накіраваны выключна на пашырэнне залы, дзіўным было бы нечаканае праясненне памяшкання пасля ўстаўкі вокнаў у крайняй правай восі. Па-чацвёртае, калі ўвага пра галерэю адносіцца да апісання работ у „*гэтай зале*", а акрэсленне „*галерэя*" для Лямборскага значыла крыху вышэй размешчаную, аддзеленую аркамі частку залы, то вынік работ 1692 г. мог выглядаць менавіта так, як на пазнейшым малюнку 1726 г., на якім была прадстаўлена заходняя сцяна Сенатарскай палаты ў перыяд сойма часоў Аўгуста II (іл. 10). Тым часам улічваючы той факт, што для Лямборскага „*галерэяй*" магла быць лесвічная клетка, гэты аргумент становіцца мала пераканаўчым.

Падсумоўваючы чатыры вышэйшыя назіранні з ранейшымі заўвагамі наконт выгляду тарцовага фасада, насоўваецца выснова, што за перабудову палаца Сапегі з вялікай, базілікавай залай, якая пазней у часы Аўгуста II выконвала ролю Сенатарскай палаты, адказваў менавіта Фрэд'яні. На захаваных малюнках саксонскіх архітэктараў можна заўважыць лесвічную клетку, выведзеную з прасторнага вестыбюля, з рэпрэзентатыўнай, двухствор-

[45] АР БАН Літвы, F-139-2627, *Listy różnych do różnych 1630-1724*, *List Lemborskiego do Kazimierza Jana Sapiehy z Grodna* 14 кастрычніка 1692 г., k. 1r.

кавай, напаўвеернай лесвіцай, якая вяла ў Сенатарскую палату, а таксама з яе[46]. Аналізуючы фукнцыянальны характар гэтага будынка цяжка ўявіць, улічваючы пры тым далейшыя пераўтварэнні часоў Аўгуста II, што гэта быў прыватны палац вялікага гетмана ВКЛ. Падаецца, што з самога пачатку ён меў выконваць грамадска-рэпрэзентатыўную ролю, дапаўняючы нейкім чынам суседні рынкавы палац.

## Мастакі Казіміра Яна Сапегі, якія дзейнічалі ў Гародні ў канцы XVIII w.

У трох лістах Лямборскага было закранута пытанне, звязанае з некаторымі рамеснікамі. Да іх ліку належалі раней згаданыя: *Фрэд'яні*, *Пан Пётр*, *мастак Пан Марцін з Варшавы, наш мастак з Вільні*, *пан Венэдігер (Wenedigier)*, *Пан Гамоцкі*, *Пан Гаеўскі*, *тынкоўшчыкі*.

Фрэд'яні супрацоўнічаў з „*Пан Пятром*", заказваючы палатно ў „*Пана Марціна*". Закладваў новыя падмуркі пад два памяшканні, узмацняў неглыбокія падмуркі старых сцен. Наглядаў таксама за закладкай падмуркаў пад новай уязной брамай. Праўдападобна, самастойна праектаваў яе, таму што сцвярджаў: „*жадаю мець на ёй ганак для трубачоў*". Атрымоўваў месячнае „*страўнае*" у памеры 100 польскіх злотых. Не выклікае сумнення, што гаворка ідзе пра каралеўскага палкоўніка Джавані Баптыста Фрэд'яні (Giovanni Baptista Frediani), які з самога пачатку быў звязаны з замежным аўтарыментам войска ВКЛ (спачатку падначалены гетмана Паца, а потым гетмана Сапегі)[47]. Архітэктар быў уладкаваны на працу ў Пацаў (касцёлы ў Пажайсці і на Антокале ў Вільні), на варшаўскай Волі (неакрэслены палац), будаваў у Мхары ў Чарнігаве на Украіне[48]. Магчыма, ужо ў 1688 г. атрымоўваў ад Сапегаў суму 1200 польскіх злотых[49]. Два гады пазней прысутнічаў падчас будаўнічых работ сапегаўскай сядзібы ў Гародні[50]. Цалкам праўдападобна яго знаходжанне ў Вільні, на Антокальскіх будаўнічых прадпрыемствах, г.зн. касцёле і кляштары трынітарыяў[51] і палацах Сапегаў і Слушкаў[52].

У лістах Лямборскага пазначаны яшчэ два мастакі. З першым - Марцінам з Варшавы – вяліся перамовы пра магчымасць выканання роспісаў на столі залы на працягу 5 месяцаў. Заказам „*пан Марцін*" быў абавязаны дапамозе „*пана Пятра*" і Фрэд'яні: „*Наконт карцін у Варшаву да Марціна звярталіся п. Фрэд'яні і п. Пётр, адказ (respons) недасканалы да Божага Нараджэння прышле, а за іх 150 чырвоных злотых патрабуе і то, каб палова (medietas) яму на пачатак работ у Варшаве было адлічана*"[53]. Вышэй сказанае тычылася толькі што патынкаванага плафона Фрэд'янаўскай Вялікай залы. Неабходны для роспісаў час сведчыў пра яго значны маштаб, а інфармацыя аб тым, што намаляванне

[46] Упершыню на сoймавыя функцыі гэтай будоўлі звярнуў увагу: J. Lileyko, *Przebudowa grodzieńskich* ..., s. 264, 267-8.

[47] Занатаваны ўжо ў 1663 г. у драгунскіх рэгестрах (Галоўны архіў старажытных актаў у Варшаве (далей ГАСА), Архіў Радзівілаў (далей АР), Аддзел II, (неўпарадкаваныя матэрыялы: *Komput wojsk JKM. Wielkiego Księstwa Litewskiego*) услед за: *Pamiętnik [1640-1684] Jan Władysław Poczobut Odlanicki*, opr. A. Rachuba, Warszawa, 1987, s. 343, aneks nr 3.

[48] Выказваю шчырую падзяку Войцеху Бабэрскаму за прадастаўленне мне рукапісу накіду манаграфіі *Giovanni Baptista Frediani*.

[49] БВУ, F-4 (A.1744), *Dokumenty gospodarczo-majątkowe Sapiehów*, k. 5 (аплаты за 1688 год змяшчаюць запісы: „Інжынер (*Inddynier) 1200 злотых*". Гэтым званнем акрэслена Фрэд'яні, сума гадавога заробку з'яўляецца адэкватнай. Акрамя таго звесткі пра іншых інжынераў, якія б знаходзіліся на службе Казіміра Яна Сапегі, адсутнічаюць).

[50] БВУ, F-4 (17744), *Dokumenty gospodarczo-majątkowe Sapiehów*, k. 28r. *Rachunek drugi z tymże P. Jasińskim uczyniony ranione percepty hiberny w roku 1690 8 july*, змяшчае запіс: „*Давідовічу на гарадзенскія муры і пану Фрэд'яні талер 6.15 злотых, г.зн. 4500 злотых*".

[51] У час назапашвання матэрыялаў для працы, прысвечанай гэтаму ж комплексу, не ўдалося натрапіць на архіўныя пацвярджэнні дзейнасці Фрэд'яні. Хаця існуюць перадумовы, якія могуць ускосна сведчыць пра ўдзел гэтага архітэктара ў будове згаданага аб'екта (P. Jamski, *Kościół i klasztor OO. Trynitarzy na Antokolu w Wilnie*, праца была напісана ў рамках магістэрскіх семінарскіх заняткаў праф. др габ. М. Карповіча, машынапіс знаходзіцца ў зборах Інстытута Мастацтва Варшаўскага ўніверсітэта).

[52] Аўтар падрыхтоўвае публікацыі, прысвечаныя гісторыі гэтых палацаў.

[53] АР БАН Літвы, F-139-2627, *Listy różnych do różnych 1630-1724*, *List Lemborskiego do Kazimierza Jana Sapiehy z Grodna* 29 верасня 1692 г., k. 7r.

карціны мела адбыцца ў Варшаве, падказвае на сур'ёзны ўдзел пана Марціна ў жыцці апісанага асяроддзя. Заключэнне „вільнюкамі" здзелкі пацвярджае іх блізкае знаёмства з мастаком.

Здаецца, што разглядваючы пытанне пра прозвішча „*Pana Marcina*", можна атрымаць адзіны адказ – Альтамонтэ (Altomonte)[54]. Мастак, які дзейнічаў у Вільні ў 80-х гадах XVII ст.[55], наступнае дзесяцігоддзе цешыўся прафесійнай славай у Варшаве, а потым без зрыву кантактаў з Рэччу Паспалітай працаваў у Вене[56].

Другі мастак, пра якога ішла гаворка ў ліставанні з гетманам Сапегай, заслужыў сабе мянушку „*Наш*". Надзелены быў тым самы прыналежным займеннікам, што і „*нашы пан Пётр і Фрэд'яні*". Скончыў мастацкую падрыхтоўку столі ў пакоі, якую выконваў самастойна. Нягледзячы на тое, што яго праца мела аплочвацца здзельна, фактычна на падставе распараджэння Сапегі атрымаў дадаткова 600 польскіх злотых. Яму закупілі таксама палатно на суму 84,07 польскіх злотых, хаця кантракт прадугледжваў, што мастак „*ад штукі мае ўзяць заплату*" абавязаны самастойна вырашаць падобныя праблемы[57].

Лямборскі выказваў сумненні, што згаданы майстар будзе ў стане „*падрыхтаваць усе штукі, бо сам адзін як дагэтуль рабіў, цяпер узяўшы грошы, мае ехаць ў Вільню, каб большую сабе кампанію наняць*"[58]. Засталіся незакончанымі работы ў другім пакоі, маляванне карцін дэкаратыўнага пано існуючага дзвярнога праёма і „*падрыхтоўка штук*" для ўсіх пакояў і галярэй. У сувязі з вялікім аб'ёмам работ і кароткімі тэрмінамі выканання яго выслалі ў Вільню ў пошукаў памочнікаў. Нягледзячы на тое, што ў лістах не згадваецца яго прозвішча, на маю думку заказ Казіміра Яна Сапегі выконваў Мікаэланджэла Палоні (Michaelangelo Palloni)[59].

Вядома, што гэты мастак даволі паспяхова працаваў у ВКЛ. У гаспадарска-маёмасных дакументах магната 1686 г. успамінаецца мастак-італьянец, які працаваў па найме ў Сапегаў[60]. Яго прысутнасць зафіксавана ў Гародні і Воўпе. У пазнейшым часе Мікаэланджэла выконваў заказы гетмана ў Антокальскім палацы, у якім, як можна меркаваць, у 1691-1692 гг. афармляў плафон з выявай Геркулеса, а ў 1692 г. размалёўваў капліцу св. Казіміра. У 1685 г. быў прыняты ў разлік прэпазітам канонікаў рэгулярных у Вільні[61]. Урэшце рэшт вядома яго шматгадовая дзейнасць у Пажайсці[62]. Існуюць іншыя доказы нашага дапушчэння, якімі з'яўляюцца спецыфічныя рысы прафесійнай базы Палоні. „*Наш мастак*" працаваў у дзвюх тэхніках - алейнай, пра што сведчыць пакупка палатна, і фрэскавай, таму што тынкоўшчыкі залежаць ад тэмпаў мастацкіх работ, што знаходзіць абгрунтаванне толькі пры гэтай тэхніцы малюнку: „*тынкоўшчыкі*

[54] Навейшыя біяграфічныя дадзеныя сабраў: H. Etzlstorfer, *Martino und Bartolomeo Altomonte. Ölskizzen und kleine Gemälde aus österreichischen Sammlungen*, Salzburg, 2002, s. 80-88.

[55] M. Karpowicz, *Polskie itinerarium Marcina Altomontego* // Rocznik Historii Sztuki, t. VI, 1966, s. 97-159, V. Aleksandrovičius, *Martynas Altomontė Lietuvoje ir nauja jo ankstyvosios biografijos koncepcija // Lietuvos dailė europinime kontekste. Vilniaus Dailės Akademijos darbai*, t. 5: 1995, p. 196-205, M. Paknys, *Vilnaus Šv. Petro ir Povilo bažnycios freskų autorystės problema // Lietuvos Didžosios Kunigaikštystės barokas: formos, įtakos, kryptys*, Vilnius, 2001, p. 43-51.

[56] M. Karpowicz, *Polskie itinerarium ...*, s. 101; J. Paszenda, *Święta Lipka*, Olsztyn, 1996, s. 50-51, M. Karpowicz, *Martino Altomonte in Polen* // H. Etzlstorfer, *Martino und Bartolomeo Altomonte...*, s. 47-60.

[57] АР БАН Літвы, F-139-2627, *Listy różnych do różnych 1630-1724*, *List Lemborskiego do Kazimierza Jana Sapiehy z Grodna* 29 верасня 1692 г., k. 7r.

[58] АР БАН Літвы, F-139-2627, *Listy różnych do różnych 1630-1724*, *List Lemborskiego do Kazimierza Jana Sapiehy z Grodna* 29 верасня 1692 г., k. 7r.

[59] У апошнія гады даследаваннем творчасці Палоні (Palloni) займаўся М. Карповіч з Варшавы і М. Джуйдэцці (Guidetti) з Фларэнцыі.

[60] БВУ, F-4, nr 43064 (A-1291), *Materiały gospodarczo-majątkowe, Regestr Percept i Expensy 1686*, k. 17r, 20v, 22r: „*мастаку за карціну Яго Мосці 100 злотых, мастаку італьянцу згодна з умовай (in vim) 300 чырвоных злотых платы для рахунку 1200 злотых, 4 верасня італьянцу мастаку ў Воўпе на падставе загаду Яго Мосці Пана 1200 злотых*".

[61] АР БАН Літвы, F-273-1902, *List biskupa żmudzkiego Kazimierza Paca z 19 lutego 1685 roku z Postaw do prepozyta klasztory kanoników regularnych na Antokolu Benedykta Szamotulskiego*, k. 1 r.

[62] H. Kairiūkštyte-Jacynienė, *Pažaislis, ein barockkloster in Litauen*, Kaunas, 1928, M. Karpowicz, *Działalność artystyczna Michelangelo Palloniego w Polsce*, Warszawa, 1967.

*каміны ў пакоях будуць рабіць згодна з воляй В[ялможнага] пана і дабрадзея, з-за карцін змушаны чакаць*"[63].

Перапынак індывідуальных работ, зробленых мастаком у час аздаблення палаца (без дапамогі майстэрні ці нават памочнікаў) наступіў па прычыне адсутнасці магчымасці іх выканання згодна з вызначанымі тэрмінамі. Як дагэтуль пытанне існавання майстэрні Палоні застаецца адкрытым, а яго манаграфіст Марыуш Карповіч адмыслова падкрэслівае спецыфіку яго мастацкага стылю[64]. Што цікава, Альтамонтэ быў знаёмы з Палоні, тым больш, у лісце да суперыёра езуіцкага дома ў Святой Ліпцы называе яго сваім сябрам[65].

Калектывам тынкоўшчыкаў кіраваў „*Пан Пётр*", якога з вялікай доляй верагоднасці варта атаясамляць з Джавані П'етра Пэрці (Giovanni Pietro Perti)[66]. Быў выдатна вядомы як адпраўшчыку, так і адрасату згаданых лістоў і таму не патрабаваў большага азначэння. Адказваў за выкананне тынкоўкі ў палацы, кантакты з Марцінам Альтамонтэ, праводзіў ацэнку і зацвярджаў выдаткі на будоўлю, прадстаўляемыя Сапезе Лямборскім. Разам з тынкоўшчыкамі зрабіў восьміпілястравую, шматярусную ордэрную кампазіцыю фасада і іншыя знешнія аздабленні палаца. Аздабляў галерэю, якая „*даволі прыгожая*", складалася з пілястраў і капітэлі, а таксама незавершанага па прычыне недахопу часу карніза. Гэтым было абумоўлена аздабленне тынкоўшчыкамі выключна ніжэйшай часткі залы, якая з аднаго боку ўжо была „*вельмі ўпрыгожана, а верхнюю належала проста патынкаваць*". Аздоблены быў адзін з пакояў. Перці прадугледжваў працяг унутраных тынковачных работ нават у марозны час.

Як можна меркаваць, занатаваны ў бягучых будаўнічых выдатках як „*наглядчык фабрыкі, атрымоўваючы згодна з умовай (in vim) штогадовую аплату на харчаванне і вопратку* (*pro victa et amicta*) (за месяц атрымаў 400 злотых)[67]. Гэты факт сведчыць пра сталую плату Перці, які акрамя таго сам аплочваў ці можа забяспечваў быт іншым „*панам тынкоўшчыкам*" да часу паасобных кантрактных разлікаў. Пэрці выконваў функцыі будаўнічага наглядчыка антокальскага палаца Сапегаў у 1689-1692 гг. Акрэсленне „*архітэктар*" паказвае на больш шырокі спектр яго абавязкаў, чым у Гародні[68]. На службе гетмана Сапегі знаходзіўся ўжо ад 1689 г.[69], раней жа працаваў у літоўскага гетмана Паца, аздабляючы касцёл св. Пятра і Паўла.

Падчас прац у Гародні ў 1692 г. Пэрці займаў выразна акрэсленае становішча на двары гетмана Сапегі, абдораны ягоным даверам і званнем Сніпішскага і Антокальскага адміністратара, меў уладкаванае сямейнае жыццё і фінансавыя справы. У яго тэстамэнце 1705 г. згадваецца пра наступныя кантакты італьянца з Гародняй. Спадзяючыся смерці, закрыў сваю суконную фактарыю ў гэтым горадзе[70]. Удзел Пэрці ў працах у Гародні з'яўляецца чарговым, ускосным аргументам на карысць таго, што аўтарам мастацкага аздаблення палаца Сапегаў з'яўляўся ягоны зяць Палоні[71]. Абодва мастакі супольна праводзілі працы ў віленскай капліцы св.

[63] АР БАН Літвы, F-139-2627, *Listy różnych do różnych 1630-1724, List Lemborskiego do Kazimierza Jana Sapiehy z Grodna* 5 верасня 1692 г., k. 10v.

[64] M. Karpowicz, *Działalność artystyczna*..., s. 155-156.

[65] Ліст Марціна Альтамонтэ да суперыёра Бартламея Мёллера (Möller) з Вены 22 студзеня 1702 г., Архіў Варшаўскай архідыецэзіі ў Ольштыне, Святая Ліпка 6/6, арк. 63; J. Paszenda, *Święta Lipka*, Olsztyn, 1996, s. 106.

[66] P. Jamski, *Perti Giovanni Pietro* // *Słownik Artystów Polskich*, t. VII, Warszawa, 2003, 28-32.

[67] АР БАН Літвы, F-139-2627, *Percepta, które się do mnie Expensa Murowanego Pałacu wnieśli od wyjazdu Imci Dobrodzieja do obozu to iest a die 12 july ad die 12 octobris*, k. 4r-4v.

[68] Пра Джавані П'етра Пэрці ідзе гаворка ў лістах да Казіміра Яна Сапегі, датаваных адрэзкам 19 верасня - 12 кастрычніка з Антокаля Самуэлем Венслаўскім, АР БАН Літвы, F-139-68454, глядзі спасылку 26.

[69] Уладас Дрэма (Vladas Drėma), не аргументуючы сваю думку, лічыў, што Джавані П'етра Пэрці быў уладкаваны ў Казіміра Яна Сапегі ўжо ў 1686 г. (V. Drėma, *Działalność artystyczna Eustachego Kotowicza* // BHS, t. 49, 1987, s. 316).

[70] P. Jamski, *Perti Giovanni Pietro*..., s. 29.

[71] Шлюб „*Петруса Пэтры з Магдаленай Паланоўнай*" адбыўся ў першым квартале 1682 г. у Пажайсці. Ягонымі сведкамі былі Петрус Путыны (Petrus Putyny) Ёанэс Галі (Joannes Galli), Літоўскі дзяржаўны гістарычны архіў, Ф. 669 воп. 1 спр. 2, *Liber copulatorum*, k. 82v. Гэтыя звесткі атрыманы ад д-ра Міндаўгаса Пакніса (Mindaugas Paknys), якому выражаю сардэчную ўдзячнасць.

Казіміра, а таксама, чаго нельга выключыць, спрычыніліся да ўзвядзення антокальскага комплексу Сапегаў[72].

Няшмат можна сказаць аб трох іншых майстрах мастацкага асяроддзя двара вялікага гетмана. „*Пан Гаеўскі*" прыбыў, каб будаваць ці ўсё ж такі толькі наглядаць за ўзвядзеннем бровара над Нёманам і кухняй новага палаца. З чым не згадзіўся „*Pan Wenediger*", таму што хаця і раней праявіў клопат і набыў матэрыялы для ўзвядзення новай кухні, аднак у напружаны перыяд падрыхтоўкі да соймаў прадбачыў адсутнасць часу на гэтыя работы. На першы план высоўвалася падрыхтоўка новых стайняў і іншых гаспадарчых будоўлі[73]. Трэці – „*Пан Гамоцкі*", імя якога застаецца невядомым, наглядаў за вялізным рамонтам драўлянага палаца[74].

Завяршаючы прадстаўленне персанальных спраў, хацелася б звярнуць увагу на факт таго, што большыня згаданых майстраў, уладкаваных у Казіміра Яна Сапегі, раней выконвала заказы сям'і Пацаў. Менавіта прадстаўнікі гэтага роду прычыніліся да стварэння мастацкага асяроддзя, якое ў пазнейшы час трапіла на двор Сапегаў. Гэта адбылося ў выніку палітычнай барацьбы, якая прывяла да пазбаўлення Пацаў тытулаў гетмана і ваяводы ВКЛ[75].

## Рынавы палац Казіміра Яна Сапегі і гарадзенскія езуіты

Закранаючы пытанне соймавых сядзіб у Гародні, Ежы Лілейка прыкмеціў: „*гісторыя палаца ў кампазіцыйным плане звязана з праектаваным на гэтым самым рыначным баку касцёла езуітаў*"[76]. Здаецца, што магчымасці архітэктурна-візуальнага злучэння гэтых двух пляцаў прадугледзіў Казімір Ян Сапега, калі планаваў узвесці для сябе „каралеўскую" рэзідэнцыю з будынкамі, якія маглі выкарыстоўвацца для соймавых пасяджэнняў. Гетман і ваявода меў таксама ўскосны ўплыў на працы, якія праводзіліся на другім баку Брыгідскай вуліцы ў езуіцкім касцёле (іл. 2). У сваіх прадпрыемствах мог браць прыклад з легендарнага ўладальніка сядзібы – Стэфана Баторыя, які фундаваў калегіум і першы невялікі езуіцкі касцёл, які згодна з той жа легендай меў непасрэднае злучэнне з каралеўскімі пакоямі.

Як дагэтуль у літаратуры бытуе пэўная бязладнасць у плане месцазнаходжання т.зв. „Баторыеўкі". Даследчыкі былі схільны яе бачыць на перакрыжаванні Брыгідскай і Мяшчанскай, усходняга боку рыначнай, ратушавай плошчы[77]. У характары доказу існавання будынкаў з часоў Баторыя прыводзілася мясцовая традыцыя, якая мела знайсці сваё абгрунтаванне ў выніках архітэктурных даследаванняў аналізуемага будынка, праведзеных у 20-х гадах XX ст. (іл. 6). Трэба прызнаць, што на захаваных, вельмі дакладных памерах, можна заўважыць даволі распаўсюджаныя, стылістычныя элементы, якія, праўдападобна, паходзілі з XVI ст.[78] У той жа час немагчыма датаваць усю забудову ўсходняга рыначнага боку XVI стагоддзем, таму што ў момант набыцця Казімірам Янам Сапегай пляца на скрыжаванні Брыгідскай і Мяшчанскай, ягоная забудова не мела будаўнічай аднароднасці. Сядзіба складалася з шэрагу пляцаў, з якіх адзін належала Патоцкім яшчэ ў 1675 г. не была забудавана[79].

Акрамя таго, як будзе даказана ніжэй, свой рыначны палац Сапега ўзвёў „*de*

[72] Джавані П'етра Пэрці і Мікаэланджэла Палоні разам выконвалі працы ў віленскай кафедральнай капліцы св. Казіміра, у касцёле і кляштары айцоў трынітарыяў на Антокале ў Вільні, палацы Сапегаў і Слушкаў на Антокалі і, як можна здагадвацца, займаліся ўпрыгожваннямі іншых, пакуль што неадкрытых на дадзеным даследчым этапе аб'ектаў у ВКЛ.

[73] АР БАН Літвы, F-139-2627, *Listy różnych do różnych 1630-1724*, *List Lemborskiego do Kazimierza Jana Sapiehy z Grodna* 14 кастрычніка 1692 г., k.3 r.

[74] АР БАН Літвы, F-139-2627, *Listy różnych do różnych 1630-1724*, *List Lemborskiego do Kazimierza Jana Sapiehy z Grodna* 14 кастрычніка 1692 г., k.3 r.

[75] A. Codello, *Hegemonia Paców na Litwie i ich wpływ w Rzeczypospolitej 1669-1674* // Studia Historyczne, R.XIII, 1970, z. 1, s. 25-56.

[76] J. Lileyko, *Przebudowa grodzieńskich pałaców...*, s. 263.

[77] Уся папулярная літаратура, якая тычыцца тзв. „Баторыеўкі" адным голасам размяшчала яе на рагу вуліцы Брыгідскай і Мяшчанскай.

[78] Малюнкі памераў тзв. „Баторыеўкі" захоўваюцца ў Інстытуце Мастацтва ПАН у Варшаве, № 1573-1579.

[79] *ПКГЭ*, ч. 2, с. 185.

*novo*". Яго ўзаемасувязь са Стэфанам Баторыем з'явілася на падставе сведчанняў аб блізкіх адносінах манарха з езуітамі, чый касцёл ён меў наведваў прама са сваёй рынкавай камяніцы. І сапраўды, будоўля першай езуіцкай святыні ў Гародні распачалася ў 1584 г. менавіта па загадзе караля. На думку Ежы Пашэнды гэты касцёл быў узведзены каля драўлянай Фары на заходнім рыначным баку[80]. Правінцыял езуітаў адмовіўся ад гэтай фундацыі, таму манахі-езуіты з'явіліся ў Гародні 40 год пазней.

Лібертацыя пляцаў усходняга боку Рынка, дзе цяпер стаіць паезуіцкі касцёл, была зацверджана соймавай канстытуцыяй у 1643 г.[81] Хутчэй за ўсё, крыху раней у гэтым месцы існавала невялікая, драўляная святыня гэтага ордэна[82]. Прыведзеныя матэрыялы выразна сведчаць пра тое, што Стэфана Баторыя нічога не звязвала з будынкам, існуючым калісьці на Мяшчанскай вуліцы[83].

Натуральна, пазастаецца адкрытым пытанне, калі і хто прыдумаў гэту легенду. Яшчэ цяпер можна пачуць яе не толькі ад экскурсаводаў, якія, распавядаючы турыстам гісторыю горада, звязваюць гэты матэрыяльны рэлікт з батарыянскімі часамі. Можна дапускаць, што з яе маглі мець пажытак у першай палове XVIII ст., каб абгрунтаваць перанос ў гэты раён комплексу соймавых будынкаў[84]. Завяршаючы высвятленне гэтага важнага для гісторыі Гародні пытання, вернемся да спраў Казіміра Яна Сапегі.

У „Гісторыі дома Сапегаў" аўтарства Антонія Міштолда 1724 г. згадваецца, што Ян Казімір і Бенядзікт: „*не малую выдаў суму для пабудовы гарадзенскай базілікі айцоў Таварыства Ісуса*" („*non mediocrem dedit summam ad aedificium Basilicae Grodnensis PP Soc. Jesu*"), а сам гетман акрамя таго: „*упрыгожыў ікону Найсвяцейшай Панны Марыі сукенкай з чыстага золата*" („*Iconem BVM veste ex puro auro ornavit*")[85].Сапегаўскі гісторык падкрэсліваў таксама вялікія заслугі гетмана, які падчас будовы гэтай важнай святыні „*шчодрымі ахвярамі і дабрадзействамі вылучыўся*"[86]. За незвычайную дапамогу айцы езуіты шматразова выказалі ўдзячнасць, у тым ладзячы ў 1694 г. тэатральныя прадстаўленні, усхваляючыя гетмана, які вяртаўся з перамогай з-пад Камянца Падольскага[87].

З адрывачных звестак, з якіх складаецца гісторыя касцёла езуітаў, варта нагадаць пра яшчэ дзве дэталі. Першая, гэта фрагмент ліста 1704 г., аднатаваны Еўзэбіушам Лапцінскім. Ліст майстара гарадзенскага мулярскага цэха Тамаша Персціцкага (Tomasz Pierścicki) да падканцлера ВКЛ Шчукі, у якім змешчана просьба аб уладкаванні яго на будоўлю касцёла ў Сідры, з адзінай агаворкай: „*хай будзе іншы магістар-іншаземец закладваць і рабіць скляпенні, бо нам не паверацъ, хаця як найлепшы чалавек у сваім рамястве хацеў развівацца, то яны крытыкуюць, калі ж я з гэтым шмат разоў сустрэўся, напрыклад у вялебных айцоў езуітаў гарадзенскіх так здарылася, што італьянец прыехаўшы ў час будоўлі касцёла пачаў крытыкаваць*"[88].

Ці ў дадзеным выпадку не выступаюць аналагічныя праблемы, на якія наракаў Лямборскі? Усё ж такі падмуркі суседняга палаца Сапегаў закладваў гарадзенскі цэхмайстар, а работы

[80] J. Paszenda, *Budowle pojezuickie w Grodnie* // Magazyn Polski, nr 2, 1992, s. 52; Тойжа, *Kościół pojezuicki (farny) w Grodnie // Kultura artystyczna*..., s. 191-211.

[81] Пацверджанне надання пляца ў Гародні Кшыштафа Халецкага ў 1643 г., на якім езуіты мелі збудаваць касцёл і калегіум (H. Wizner, *Rzeczypospolita Wazów. Czasy Zygmunta III i Władysława IV*, Warszawa, 2002, s. 127).

[82] J. Paszenda, *Kościół pojezuicki* ..., s. 196, згадвае пра спробы манахаў набыць званы ў 1637 г.

[83] Праблематыка забудовы Гародні ў часы Стэфана Баторыя па-ранейшаму патрабуе грунтоўнага і ўсебаковага вывучэння.

[84] Por. J. Lileyko, *Przebudowa pałaców grodzieńskich*..., s. 265; Тойжа, *Sejm polski* ..., s. 83-85.

[85] A.A. Misztołd, *Historia Illustrissimae Domus Sapiehanae*, Vilnae, 1724, cz. 2, s. 56.

[86] M. Kałamajska, *Cudowny obraz Matki Boskiej z kościoła jezuitów w Grodnie* // Roczniki Humanistyczne, t. L, z. 4, 2002, s. 517-525.

[87] J. Komorowski, *Na większą chwałę Rzeczypospolitej. Inscenizacja i idea w teatrze jezuickim Wielkiego Księstwa Litewskiego // Litwa i Polska. Dziedzictwo sztuki sakralnej*, pod red. W. Boberskiego i M. Omilanowskiej, Warszawa, 2004, s. 153-154.

[88] ГАСА, Архіў Патоцкіх, Вілянаўскія акты IV k. 33, *Listy różnych osób do Szczuki Podkanclerzego WKsL*, ліст 118; Нацыянальны цэнтр даследаванняў і дакуметацыі помнікаў (KOBIDZ obecnie Narodowy Instytut Dziedzictwa), E. Łopaciński, *Wypisy archiwalne*, 143/III, s. 31.

выконвалі езуіцкія муляры. Няўжо ў выпадку ўзвядзення касцёла Сапега адкамандзіраваў італьянца Фрэд'яні дзеля дапамогі езуітам, у якіх закладванне падмуркаў цягнулася 5 год і патрабавала выпраўлення?

Другі факт падкрэсліваўся ўсімі гісторыкамі, што пісалі пра т.зв. „Баторыеўку" аб тым, што ўжо ў XVI ст. палац быў злучаны з касцёлам галерэяй, перакінутай над вуліцай Брыгідскай. Галерэя пазначалася ў розных месцах і дапасоўвалася да зменлівых архітэктурных умоў. Адзін з двух саксонскіх малюнкаў, якія робяць нагляднай тую „кладку", адзін - размяшчае яе на ўзроўні другой восі паўночнага фасада палаца (іл. 7), другі – пазнейшы – парадкуючы ўнутраную палацавую планіроўку - пераносіць яе за драўляны флігель палаца[89]. Магчыма, гаворка ішла пра ўмяшальніцтва саксонскіх архітэктараў. Ежы Лілейка, знаўца праблематыкі польскага парламентарнага цырыманіялу, нагадвае, што такія рашэнні з крытай кладкай у напрамку касцёла вынікала з прыдворнага этыкету. Абавязвала манарха кожны дзень падчас сойма прымаць удзел у ранішнім набажэнстве. Няйначай паступаў Аўгуст II, які жыў у пасапегаўскім палацы (іл. 7)[90].

Існуе яшчэ адзін элемент, што злучае абедзве апісаныя будоўлі – маляваная філёнга лавы, якая знаходзіцца ў кангрэгацкай капліцы ў Гарадзенскім езуіцкім касцёле (цяпер кафедра) і на якой прадстаўлены Казімір Ян Сапега (іл. 11).




**Фрагмент маляванай філёнгі лавы ў паезуіцкім касцёле ў Гародні, які прадстаўляе: 1) сон Казіміра Яна Сапегі аб патрэбе спецыяльнага о аздаблення абраза; 2) Маці Боскай Студэнцкай; 3) сцену перадачы Казімірам Янам Сапегай фундушаў на яго аздабленне; 4) калонная зала сапегаўскага палаца; 5) аб'ём рынкавага Сапегаўскага палаца, фота П. Ямскі, 2000 г.**



**Фрагмент маляванай філёнгі лавы ў паезуіцкім касцёле ў Гародні, які прадстаўляе рынкавы сапегаўскі палац.**

[89] Планы ансамбля сапегаўскіх палацаў: Гарадскі Архіў Дрэздэна (Staatsarchiv Dresden), VII, 85, № 32 (год 1718) і VII, 90, № 5, *Der General Plan* ..., (год 1726). Глядзі: H. Myszkówna, *Przerysy i kopie w zasobach Archiwum Drezdeńskiego a atrybucje przyjęte na ich podstawie przez Waltera Hentschla*, BHS, XXXII, 1970, nr 3, s. 378-387.

[90] J. Lileyko, *Przebudowa pałaców w Grodnie...*, s. 267; Глядзі таксама: J. Seredyka, *Nabożeństwa sejmowe w dawnej Polsce. Norma prawna czy ceremoniał? // Teatrum ceremoniale na dworze książąt i królów polskich*, pod. red, M. Markiewicza, i R. Skowrona, Kraków, 1999, s. 264-266. У гарадзенскім замку часоў Стэфана Баторыя каралеўская капліца размяшчалася на другім паверсе замкавай брамы і злучалася з пакоямі манарха крытым ганкам, таксама як у часах Вазаў ганак і каралеўскія пакоі Ніжняга замка ў Вільні з капліцай св. Казіміра.



Палац Сапегаў у Вільні, акварэль Яна Шолмы (XIX ст.) паводле малюнка П. Россі (да 1790 г.), з калекцыі віленскага Музея мастацтва, № Т-1566.



Палац Слушкаў, акварэль Ф. Смуглевіча (1786 г.), з калекцыі Нацыянальнага музея ў Кракаве, № 82042.

Гетман паказаны на ёй двойчы[91]. Першы раз у ложку падчас сну з'яўляецца абраз Маці Боскай Кангрэгацкай. Другі – за сталом суправаджае важанне золата, фундаванага на сукенку для гэтага ж абраза[92]. На другім плане гэтай сцэны відаць фрагмент 3-павярховай будоўлі з 2-восевай, 3-яруснай вежай з невялікім простым купалам (іл. 12). Зыходзячы з даволі дрэннага стану захавання гэтага роспісу, можна выказаць гіпатэтычнае меркаванне аб тым, што на ім паказаны сапегаўскі палац у гарадзенскім Рынку.

Па-першае, мастака, аздабляючага лавы, можна палічыць пасрэдным, але затое, калі прыгледзецца да фасада касцёла, што намаляваны на другой філёнзе, насоўваецца высновa аб даволі дакладным адлюстраванні рэчаіснасці. Па-другое, напэўна, Маці Боская прыснілася Сапезе ў гарадзенскім палацы і, безумоўна, яму залежала на засяроджанні ўвагі на факце фундацыі новай сукенкі для абраза, а таксама - аб непасрэдным кантакце з „боскімі сіламі". Па-трэцяе, паказаная вежа гарманізуе з выглядам палаца часоў гетмана, дадатковым пацвярджэннем чаго з'яўляюцца рахункі выдаткаў на будову палаца за 1687 г., у якіх натуецца факт рамонту зоркі, якая звалілася з вежы.

Таксама ў лістах Лямборскага закранаецца пытанне пакрыцця ліставой меддзю дзвюх веж, хаця даслоўна не было сказана, што гэта тычыцца рыначнага палаца. У падрыхтаванай справаздачы, у якой апісваецца стан палаца пасля вялікага пажару Гародні 1750 г., паведамляецца: „*дах па прычыне распаўсюджанага пажару збураны і абдзёрты, купал пакрыты бляхай, што на вежы, за выключэннем (excepto) ветрагона раней віхром сцягнутага, нічога з гэтага не засталося*". Далей пералічана, што „*зорак бляшаных с пастаментамі нарэзаных старых штук 3, бляхі з купала, якая па прычыне агня ўпала, што наверсе паскладваны*"[93]. Менавіта таму ў мемуарных паведамленнях 1753 г. згадваецца плоскі дах гэтага палаца.

Калі ўважліва прыгледзецца да саксонскага плана палаца (іл. 8) і параўнаць яго з праекцыяй і фасадамі двух іншых сядзіб, якія з'явіліся ў арбіце гетмана Сапегі, г.зн. антокальскага і слушкаўскага палацаў у Вільні, можна прыкмеціць вуглавыя, 2-восевыя, вышэйшыя, эркеравыя фрагменты,

[91] Глядзі спасылку 86. Аўтарка, якая назапасіла апублікаваную літаратуру наконт лавы, схіляецца да думкі аб яе датаванні на 30-я гады XVIII ст.

[92] Параўнай са спасылкай 87.

[93] БВУ, F-4-34077 (A1475), *Opisanie Pałacu Grodzieńskiego y z Inwentowanie w nim Rzeczy w Roku teraźniejszym 1750 Juli 13 dnia*.

крытыя пэўнай формай купала (іл. 13, 14). Праекцыя палаца пачатку XVIII ст. не пярэчыць тэзісу аб магчымасці менавіта такога рашэння. Што тычыцца ўпамянутых трох старых бляшаных зорак на пастаментах, можна з вялікай доляй верагоднасці размясціць іх на вяршынях палацавых веж: старэйшай, згаданай у 1687 г., цэнтральнай вежы і дзвюх крайніх, узведзеных у 1692 г. Ці ўвесь ансамбль не нагадвае варшаўскага соймавага комплексу?

## Рэзідэнцыя прэтэндэнта на каралеўскі трон

Трохвежавая „каралеўская" рэзідэнцыя, функцыянальна ўзаемадзейнічае з сучаснай і антычна-рымскай базілікавай залай сената і традыцыйна сфарміраванай пасольскай палатай. Аб'ём быў злучаны з надзвычайным і цырыманіяльна неабходным касцёлам. Параўноўваючы абодва ансамблі ў Варшаве і Гародні, без аніякага сумнення, больш кампактным і прадуманым у функцыянальным плане падаецца гарадзенскі праект, здзейснены ў пэўнай ступені з нуля, хаця ён выразна пераймае рысы варшаўскага ансамбля.

Сказанае гучыць амаль што фантастычна, улічваючы тагачасныя прапановы з перспектывы некалькі сот гадоў і азнаямленне з фактамі. У той жа час усе гісторыкі эпохі схілу Яна Сабескага падкрэсліваюць вялізныя палітычныя амбіцыі Яна Казіміра Сапегі[94]. Адам Казімерскі у працы, прысвечанай гарадзенскаму сойму 1692-1693 гг. даводзіць, што амаль што адным вынікам ягоных пасяджэнняў было *„узмацненне і кансалідацыя апазіцыі і запачаткаванне адкрытай фазы канфлікту з дваром у сітуацыі пастаяннага спадку актыўнасці караля (...) У выніку краіну пачала апаноўваць перадвыбарчая ліхаманка. Дзейнасць Сапегаў і іх саюзнікаў, як здаецца, павінна разглядацца ў гэтым кантэксце"*[95]. Анджэй Рахуба акрэслівае перыяд гарадзенскага сойма як *„кульмінацыйны момант сапегаўскай гегемоніі на Літве"*[96].

Казімір Ян валодаў амаль што 8000 дымаў[97], не ўлічваючы каралеўскіх і арандаваных земляў. Да таго ж Сапегі займалі амаль што ўсе важнейшыя літоўскія ўрады. Ва ўлётным друку 1697 г. ананімны аўтар, спрабуючы давесці іх верхаводства ў войску, піша аб *„прызначэнні сваіх сыноў да такой ступені, што яно не можа называцца не літоўскім, а сапежанскім войскам"* (*„non Lituanus ale Sapiehanus exercitus"*)[98]. Яшчэ ў часы праўлення Яна III Сабескага Сапега патаемна імкнуўся атрымаць руку Марысенькі Сабескай, разлічваючы такім чынам на польскую карону[99]. У 1700 г. Сапегі атрымалі княскі тытул за заслугі для венскага двара, у тым за эфектыўнае знаходжанне Рэчы Паспалітай у Святой Лізе. У 1704 г. пасля абвяшчэння Варшаўскай канфедэрацыі безкаралеўя на каралеўскі трон была высунута кандыдатура Бенядзікта Сапегі. У гэтым жа годзе дайшло да спробы падзелу Рэчы Паспалітай, у выніку якой Сапегі мелі прыдбаць частку Літвы са статусам асобнага княства[100]. Праз чатыры гады, пасля правалу сапегаўскай дамінацыі, у казанні на адкрыцці сесіі Трыбунала ВКЛ, якім старшынстваваў Ян Сапега, Міхал Суффчыньскі вітаў яго словамі: *„Пан з паноў, пан з продкаў, пан пануючых і ўсемагутных, у Еўропе з манархіямі параднёны, пан раскідзістых фартун"*[101]. На балях у Вільні яго блізкі супрацоўнік Багуміл Слушка падняў тост за будучага

[94] A. Rachuba, *Litwa wobec projektu zwołania sejmu konnego w 1695 r. i walki Sapiehów z biskupem Brzostowskim* // Zapiski Historyczne, t. LI, r. 1986, z. 1, s. 63-82.

[95] A. Kazimierczyk, *Sejm grodzieński*..., s. 28.

[96] A. Rachuba, *Sapieha Benedykt Paweł*..., s. 586.

[97] БВУ, F-4-(A-1744) k. 38v. *Regestr Zaprzysiężonych dymów ex constitutionis Anno 1690*. У гэтым дакуменце пералічана 7882 дымоў, за якія Казімір Ян Сапега меў унесці 4 долямі 64009,22 злотых падатку.

[98] *Kopia listu do Imśći X Biskupa Wileńskiego pod imieniem Pana Kochanowicza dworzanina Jego Kro. Mści iako correspondenta iego pisanego*, bm. 1697-8 (АР БАН Літвы, F-233-103).

[99] Z. Wójcik, *Jan Sobieski 1629-1696*, Warszawa, 1994, s. 506.

[100] A. Rachuba, *Sapieha Benedykt Paweł*..., s. 589.

[101] M. Suffczyński, *Kazanie na trzecią niedzielę po Wielkiejnocy przy powitaniu Trybunału W. X. L. za laski Jaśnie Oświeconego Jego Mości Pana Kazimierza Sapiehy*, Wilno, 1708.

караля Казіміра IV[102]. Найбольш модным передвыбарчым лозунгам сярод дробнай шляхты на мяжы XVII і XVIII стст. было „хочам караля Пяста”. Здаецца, што мог наступіць момант, калі Вялікае княства Літоўскае амаль ва ўнісон загарлапаніла „*Lituanus rex, Sapiehanus rex*”[103].

Калі пра колькі год пасля бітвы пад Алькенікамі 1700 г., якая закончыла перыяд гегемоніі Сапегаў у ВКЛ[104], Аўгуст II, быў змушаны згодна з соймавымі пастановамі прызначыць правядзенне сойма ў Гародні, выбраў комплекс сапегаўскіх палацаў, які адпавядаў патрабаванням з’езда падобнага фармату. Кароткі перыяд паміж заканчэннем варшаўскага сойма ў 1717 г. і кастрычнікам 1718 г. не дазволіў правесці грунтоўныя работы ў знішчаным гарадзенскім каралеўскім замку[105]. Ежы Лілейка, аналізуючы падрыхтоўчы этап гарадзенскага сойма 1718 г., сцвердзіў, што вялікі літоўскі маршалак Аляксандр Павел Сапега мог загадаць перанесці пасяджэнні ў прыватны палац[106].

Згодна з традыцыяй польскага сойма яго паседжанні мелі праходзіць „пад бокам караля”, што інтэрпрэтавана як месца ў каралеўскай сядзібе. Падчас соймавага з’езда ў 1718 г., у сувязі са зруйнаваным станам гарадзенскага Старога замка і адсутнасцю адпаведных сродкаў на яго рамонт ад гэтага прынцыпу адмовіліся. Верагодна, што спасылка на караля Стэфана Баторыя, легендарнага ўладальніка часткі сапегаўскага комплекса, мела аслабіць неспрыяльны сэнс гэтага руху. Пакідаючы справы пратакола, факт правядзення соймавых пасяджэнняў у згаданым рынкавым гмаху на працягу некалькі дзесяткаў год пераканаўча сведчыць аб магчымасцях будоўлі, узведзенай у часы Казіміра Яна Сапегі. Як можна меркаваць, пасля адносна нязначных перабудоўчых работ, праведзеных саксонскімі архітэктарамі[107], былы палац Сапегаў стаў рэзідэнцыяй Аўгуста II (іл. 8), а палац на вуліцы Брыгідскай, злучаны драўлянымі галерэямі гаспадарчай забудовы (іл. 7) без праблем мог выконваць ролю соймавай залы (іл. 10).

Даследчыкі гісторыі рыначнай сядзібы Сапегаў, аналізуючы захаваныя ў Дрэздэне саксонскія планы Баўамта (Bauamt), звярталі ўвагу на манументальную лесвічную клетку. Ежы Лілейка прывёў прыклад рашэння, якое ў варшаўскім палацы Красіньскіх прымяніў Тыльман фон Гамэрэн (Tylman von Gameren)[108], а Ежы Кавальчык у характары патэнцыяльнага праектыроўшчыка вестыбюля і лесвіцы адзначаў Джавані Батыста Джыслені (Giovanni Batista Gisleni)[109]. У святле прадстаўленага архіўнага матэрыялу можна дапусціць, што лесвічная клетка з’явілася ў 90-х гадах XVII ст., а яе выканаўцам быў Фрэд’яні. Асоба Тыльмана фон Гамэрэна, натхняльніка такога рашэння, падаецца надзвычай верагоднай. Нельга таксама выключыць магчымасць непасрэднага ўдзелу вялікага галандца ў працэсе праектавання гарадзенскага палаца. Казімір Ян, а асабліва Бенядзікт, Сапегі былі ў блізкіх адносінах са Станіславам Гераклем Любамірскім, мецэнатам

[102] M. Rudnicki, *Kariera rodu Słuszków*, s. 68. Магістарская праца, напісаная пад кіраўніцтвам прафесара Т. Васілеўскага ў Інстытуце Гісторыі Варшаўскага ўніверсітэта. За прадастаўленне рукапісу выражаю Аўтару шчырую ўдзячнасць.

[103] Побач з Аляксандрам, Якубам і Канстанцінам Сабескімі, Лукашам Апалінскім, Рафалам Ляшчынскім, Марцінам Концкім (Kącki), Пятром I Вялікім, Георгам II англійскім, Лівіё Адэскальчы (Livio Odescalchi) лічыўся кандыдатам на трон (D. Labarre de Raillicourt, *Histoire des Sapieha (1440-1970)*, Paris, 1970, s. 107).

[104] Пра крах гегемоніі Сапегаў у ВКЛ глядзі: K. Piwarski, *Opozycja litewska pod koniec XVII wieku* // Pamiętnik V zjazdu historyków polskich w Warszawie w 1930 r., t. 1, Lwów, 1930, s. 259-277.

[105] Будынкі былі знішчаны ў 1708 г., у наступныя гады заняпалі (J. Wojciechowski, *Stary Zamek w Grodnie*..., s. 251n).

[106] Да функцый вялікага кароннага маршалка ў Кароне і літоўскага ў ВКЛ належаў нагляд каралеўскіх рэзідэнцый і соймавых будынкаў (J. Lileyko, *Zamek Warszawski. Rezydencja królewska siedziba władz Rzeczypospolitej 1569-1763*, Wrocław, 1984, s. 270-275).

[107] J. Lileyko, *Przebudowa grodzieńskich pałaców*..., s. 265-266.

[108] St. Mossakowski, *Pałac Krasińskich w Warszawie (1677-1699)* // Folia Historiae Artium, t. II, 1965, s. 117-192, J. Lileyko, *Przebudowa grodzieńskich pałaców*..., s. 266.

[109] J. Kowalczyk, *Pałace i dwory*..., s. 455.

Тыльмана[110]. Вывучэнне магчымасці шырэйшага выкарыстоўвання Сапегамі мастацкіх паслуг варшаўскага асяроддзя, у тым працы згаданага архітэктара, разам з праектамі Тыльмана на Гарадзеншчыне, могуць з'яўляцца пунктам выйсця ў высвятленні пытання аб яго ўплывах ў ВКЛ[111].

Насоўваецца таксама пытанне, якое становішча заняла Варшава адносна Гародні, роля якой узрасла ў так кароткім прамежку часу. Нягледзячы на тое, што гэты горад займаў куды больш вялізную плошчу ў параўнанні са Старой і Новай Варшавай, не стварыў свайго мастацкага асяроддзя. А хуткія пераўтварэнні, якія вынікалі з яго соймавых функцый, паралельна суправаджаліся дэградацыяй мяшчанства, а таксама не спрыялі развіццю рамяства. На мой погляд, пачынаючы з 70-х гадоў XVII w. на працягу амаль што сто год Гародня па сваім узроўні мастацкага жыцця з'яўлялася далёкім прадмесцем заможнай Варшавы. У абодвух гарадах актыўнасць праяўлялі тыя самыя заказчыкі, тыя самыя купцы і арганізатары прадпрыемстваў, урэшце рэшт, тыя самыя мастакі. Нельга таксама казаць пра якую-небудзь самастойнасць ці хаця ж бы творчую аўтаномію гэтага соймавага горада. Разважанні ж наконт развіцця мастацкага асяроддзя, звязанага з ім, могуць праводзіцца толькі праз прызму пазнання прыдворнай культуры ў першую чаргу Варшавы, Вільна і Дрэздэна.

## Заканчэнне

Аналізуючы феномен планіровачнай кампазіцыі вялікай залы палаца Сапегаў, якая ў саксонскія часы выконвала функцыю Сенатарскай залы, яе мастацкую і ідэйную канцэпцыю з вялікай доляй праўдападобнасці можна прыпісаць аднаму з двух братоў Сапегаў: Казіміру Яну і Бенядзікту[112]. Абодва супольна кіравалі сямейнай палітыкай, якой служылі архітэктурна-мастацкія прадпрыемствы. Палітыка змушала незвычайна амбітнага Казіміра Яна Сапегу выкарыстоўваць адпаведныя, правераныя „каралеўскія" ўзоры і ажыццяўляць іх шляхам запрашэнняў мастакоў ад іншых магнатаў і з каралеўскага двара. Карыстаючыся гатовымі прыкладамі, ідэямі і спосабамі сказанага, абапіраўся на прынцыпах паслужлівасці мастацтва, якое павінна было дапамагчы яму ў дасягненні мэт. Ілюстрацыяй такога паводзін з'яўляецца гісторыя прадстаўленага палацавага комплексу.

Нягледзячы на тое, што пытанне ўзвядзення гарадзенскага палаца, формы якога яскрава нагадвалі Каралеўскі замак ў Варшаве, чакае пераканаўчых пацверджанняў шляхам непасрэднага аналізу сведчанняў, якія апісваюць яго выгляд, усё ж такі падаецца, што даступныя навуцы матэрыялы схіляюць да праўдападобнасці пастаўленай гіпотэзы. Не выклікае сумнення, што такі будынак адпавядаў найвышэйшым каралеўскім імкненням Казіміра Яна Сапегі. Гэтаму спрыяла нестабільнае ўнутранае становішча Рэчы Паспалітай, узрост сепаратысцкіх настрояў у ВКЛ, агрэсіўная палітыка суседніх дзяржаў, здабытая палітычная і эканамічная гегемонія на Літве, а таксама распараджэнне належнай базай спецыялістаў.

Дзякуючы імкненням кандыдата на каралеўскі трон у горадзе, у якім соймы часта не праводзілі, з'явілася адна з найбольш прадстаўнічай і інтыгуючай рэзідэнцыі ў Рэчы Паспалітай.

**Piotr Jacek Jamski, Ішчольна ліпень 2007 г. (пераклаў Юры Гардзееў)**

[110] Прыкладам сяброўскіх адносін Бенядзікта Сапегі і Станіслава Гераклія Любамірскага можа з'яўляцца планавая каля 1687 г. будова капліцы-усыпальні ў бернардзінскім касцёле на Чарнякове, якая была фундавана Любамірскім як месца яго вечнага спачынку (St. Mossakowski, *Tilman van Gameren. Leben und Werk*, München, 1994, s. 7, 137-156).

[111] Тамжа пра сувязь Тыльмана з Сапегамі (s. 7, 8, 50, 145, 156, 255) і Гарадзеншчынай (s. 24).

[112] J. Lileyko, *Przebudowa grodzieńskich pałaców*..., s. 271.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Курляндскі (Кур'янскі) | банкірская кантора | купец 2 гільд. Шмуэль Давыд Хаімавіч Ландау / ён жа | 3/625 | 10/1 | 7400 | 44042 |
| Курляндскі (Кур'янскі) | магазін змешаных мануфактурных тавараў | мешчанін Іосіф Пінхусавіч Ярэйскі / ён жа | 1/300 | - | - | 12000 |
| Курляндскі (Кур'янскі) | фатаграфічная ўстанова | мешчанін Лэйзер Мэеравіч Гельгор / ён жа | 3/200 | -/2 | 200 | 5000 |
| Курляндскі (Кур'янскі) | магазін мужчынскіх капялюшоў і шапак | мешчанін Бэрка Абрамавіч Туранскі / ён жа | 1/300 | - | - | 10000 |
| Курляндскі (Кур'янскі) | шапачная майстэрня | мешчанін Бэрка Абрамавіч Туранскі / ён жа | 1/75 | -/4 | 120 | 2000 |
| Курляндскі (Кур'янскі) | магазін шклянога, фарфоравага і фаянсавага посуду, лямпаў рускай і замежнай вытворчасці | мяшчане Рохля Ізраелевіч і Гірш Тодрасавіч Фінкельштэйны / яны ж | 2/400 | - | - | 8000 |
| Курляндскі (Кур'янскі) | піўная крама з продажам піва "распивочно и на вынос" | мешчанін Якаў Восіпавіч Шэшко / ён жа | 3/380 | - | - | 2500 |
| Левінсон | дробязны гандаль гатовым жаночым і мужчынскім абуткам уласнай вытворчасці | мешчанін Шалом Бэркавіч Крэніца / ён жа | 1/200 | 1/2; магазін знаходзіцца ў непасрэднай сувязі з майстэрняй, у якой працуюць 2 рабочыя | 120 | 3000 |
| Левінсон | "Ренсковый погреб" з продажам бакалеі і каланіяльных тавараў | купцы 2 гільдыі Васіль і Мікалай Іванавічы Мураўёвы / яны ж | 4/1400 | 4/2 | 1400 | 30500 |
| Левінсон | дробязны гандаль прыладамі для пісьма і каучукавымі штэмпелямі | мешчанін Шмуэль Юдалевіч Руткоўскі / ён жа | 1/200 | - | - | Новае |
| Левінсон | магазін пушніны | мешчанін Моўша Янкелевіч Снарскі | 2/300 | - | - | 7500 |
| Левінсон | банкірская кантора | мешчанін Нехелій Давыдавіч Флятэ | 2/500 | - | - | 4000 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Фарны касцёл | магазін рэлігійных прадметаў, металічных вянкоў і інш. | мешчанін Станіслаў Антонавіч Левандовіч/ ён жа разам з жонкаю | 1/200 | - | - | 13000 |
| Фарны касцёл | дробязны гандаль простай і патрыманай мэбляю | мешчанін Юдаль Кушалевіч Сяргей/ён жа | 1/100 | - | - | 2000 |
| Фарны касцёл | аптэка | правізар Эдуард Іпалітавіч Стэмпнеўскі | 4/500 | 5/- | 3800 | 11812 |
| Фарны касцёл | слясарная майстэрня | мешчанін Юдаль Кушалевіч Сяргей/ён жа | 1/100 | -/4 | 520 | 3500 |
| Мураўёвы | Гродзенскае аддзяленне Беластоцкага камерцыйнага банку | Гродзенскае аддзяленне Беластоцкага камерцыйнага банку / праўленне банку | 3/1200 | - | - | - |
| Мураўёвы | магазін змешаных мануфактурных тавараў | купчыха 2 гільдыі Ш.А.Франк пад фірмай «Франкъ Ш.А., удава і сын» / яны ж | 2/1000 | 10/- | 1862 | 62252 |

[*] НГАБ у Гродне, Ф. 304 воп. 1 спр. 10 „*Журнал о проверке торговли и промпредприятий Гродно 1910 г.*", арк. 5 адв., 6, 52 адв., 53, 55 адв. – 57, 60 адв., 61, 69 адв., 70, 74 адв., 75, 90 адв., 91, 92 адв. – 94, 95 адв., 96, 98 адв., 99, 102 адв., 103, 105 адв. – 108, 120 адв., 121, 138 адв., 139, 162 адв., 163, 167 адв., 168.

Таццяна Казак (Гродна)

# Плошча Баторыя ў Гродне

Галоўная плошча Гродна ў 1920-1930-я гады мела назву Плошча Баторыя. У гэты час яна захоўвала свае гістарычна сфарміраваныя горадабудаўнічыя формы. Яе аблічча вызначалі 2-3-х павярховыя дамы, якія, як правіла, выконвалі функцыю жылля, але акрамя таго былі прыстасаваны пад розныя ўстановы, шматлікія крамы, майстэрні ці гатэлі. На плошчы, акрамя таго, знаходзіліся гандлёвыя лаўкі і майстэрні. Уся прастора плошчы была добраўпарадкавана, тратуары зроблены з бетонных плітаў. З архіўных крыніц вынікае, што ў большасці яны знаходзіліся ў добрым ці задавальняючым стане.



Плошча Баторыя 1930-я гады. Злева паўночны бок

Паводле анкет, складзеных статыстычным аддзелам гродзенскага магістрата ў 1923-1924 гг., цэнтральная плошча горада займала 5067 сажняў. Яе прастора была падзелена на 14 пляцаў, ды яшчэ два пляцы адрасамі, якія знаходзіліся ў прыватнай уласнасці і належалі ў асноўным яўрэям. Толькі адзін пляц належаў расейцу[1], а будынак ратушы быў ва ўласнасці магістрата.

## Паўночны бок плошчы

Згодна з крыніцамі 1923-1924 гг. паўночны бок складаўся з шасці пляцаў.

**Пляц № 1** знаходзіўся на рагу плошчы Баторыя і вуліцы Дамініканскай і належаў Ісааку Стурмаку. Ён быў забудаваны двума мураванымі жылымі будынкамі, адзін з якіх быў трохпавярховы і пакрыты бляхай, другі двухпавярховы, пакрыты дахоўкай. Акрамя жылых памяшканняў у доме знаходзілася пякарня і аптэка Клінкаўштэйна, якая размяшчалася ў ім з 1850 г.[2]

Наступны **ўчастак № 3** з'яўляўся ўласнасцю Гіршы Качынера. На ім стаяў 2-павярховы дом, пакрыты бляхай. Як можна меркаваць, уладальнік здаваў жылыя памяшканні ў найм і пад розныя ўстановы. У доме мясцілася шэсць (?) пераважна 2-3-х пакаёвых кватэр, у якіх жыў 31 чалавек. Кватэру на мансардзе здымаў сталяр Ізраэль Кураж, які выплочваў самую вялікую гадавую арэндную плату ў памеры 120 000 000 польскіх марак. Самая танная 2-х пакаёвая кватэра каштавала 1 000 000 марак і ўключала акрамя пакояў – кухню і іншыя выгоды. Жыхарамі дома былі яўрэі. Тры жанчыны, якія прыслужвалі ў яўрэйскіх сем'ях былі па нацыянальнасці полькамі і адна руская, пры гэтым апошняя мела латвійскае грамадзянства[3].

З 1922 г. у будынку размяшчалася бюро марскіх перавозак, транспартнае бюро і кантора „Rekord" Самуэля Дражніна. У доме працавалі крамы кандытарскіх вырабаў і каланіяльных тавараў. Усе яны належалі яўрэям[4].

**Пасэсія пад № 4** была адзінай на плошчы, якая належала рускаму - Мікалаю Мураўёву. Паводле пашпарта нерухомай маёмасці ён вярнуўся з Расіі ў 1923 г. Дом, пабудаваны на пляцы,

[1] Дзяржаўны архіў Гродзенскай вобласці (далей ДАГВ), Ф. 46 воп. 1 спр. 35 арк. 1-28.

[2] Там жа, спр. 52 арк. 1.

[3] Там жа, спр. 35 арк. 3.

[4] Там жа, арк. 4.

з'яўляўся самым высокім домам на плошчы Баторыя: 3-павярховы, крыты бляхай. Акрамя сям'і ўладальніка ў будынку пражывала 13 чалавек, пры гэтым сярод іх было сем каталікаў і пяць яўрэяў.

У доме размяшчаліся крамы галантарэйных і мануфактурных тавараў (апошняя існавала з 1855 г.), склады: фарбы (В. Крынскага), солі (аб'яднання „Alberkos"), скуры (Макса Мардхелевіча), якія былі адчынены ў 1921-1922 гг. Акрамя гэтага ў будынку ўтрымлівалася экспедыцыйная кантора. У 1927 г. у доме знаходзілася адвакацкае бюро Антонія Шафаловіча[5]. Два пакоі дома займаў Ізраіліцкі сямейны клуб (Klub Izraelicki Familijny)[6].

**Сядзіба пад № 5** з'яўлялася ўласнасцю Ёхеля і Мэры Рохі Закаў. На ёй знаходзіўся жылы двухпавярховы дом, які быў пакрыты бляхай, а таксама мураваным гаспадарчым будынкам. У васьмі кватэрах дома жылі 43 асобы. У двары дома былі разбіты агароды[7].

У 1920-х гадах у будынку размяшчалася крама гатовай вопраткі Г. Элкеса Згодна з крыніцамі 1910 г. уладальнік дома трымаў краму пісьмовага прыладку. Таксама ў ім знаходзілася крама фарбы, шпалераў і крэйды Лейбы Гальперына (з 1913 г.), склад гандлёвага дома „Atlantyk" Самуэля Булькаўштэйна і Арона Тарлоўскага. У кватэры, якую здымаў Юдэль Віннік, пачынаючы з 1913 г., працавала ягоная бляхарская майстэрня. З 1922 г. у будынку мясцілася экспедыцыйнае бюро, якое належала Шоламу Ліфшыцу і Біргеру Мілечынскаму. З 1926 г. тут знаходзілася экспедыцыйнае бюро „Grodno", а потым бюро „Energja"[8].

**Пляц пад № 6** у пашпартах плошчы Баторыя за 1923-1924 гг. не адзначаны. Будынак быў наступным за домам Мураўёва, размяшчаўся на рагу плошчы і Турэмнага завулка. Да сённяшняга часу не захаваўся. Належаў М.Л. Кур'янскаму. Пра яго можна атрымаць




Рэклама крамы швейных машын і веласіпедаў Я. Левіна (пл. Баторыя 6.




Рэклама фотамайстэрні Л. Гельгора (пл. Баторыя 6)

інфармацыю з даведніка „Informator miasta Grodna i Grodzieńszczyzny"[9].

У 1926 г. у будынку знаходзілася фотамайстэрня вядомага ў горадзе фатографа Лейбы Гельгора, якая адкрылася ў 1901 г. Гэты фатограф з'яўляўся правадзейным сябрам Расійскага фатаграфічнага таварыства ў Маскве. У 1905 г. быў узнагароджаны вялікім залатым медалём на міжнароднай выставе ў Бруселі, сярэбранымі медалямі на Станіслаўскай стужцы ў 1908 і 1911 гг., а ў 1903 г. атрымаў падзячны ліст на Дзвінскай выстаўцы. У 1912 г. быў адзначаны падарункамі ад імя Мікалая II і вялікага князя Дзмітрыя Паўлавіча. У 1923 г. атрымаў падзяку ад прэзідэнта Польскай рэспублікі Станіслава Вайцяхоўскага[10].

У згаданы час тут працавалі крамы шкла і фарфору Рубінраўта, адзення М. Пазняка[11], швейных машын і веласіпедаў Я. Левіна[12], склад „жалеза" Б. Штэйна[13]. Акрамя таго ў будынку знаходзілася крама М.Л. Кур'янскага, які верагодна быў уладальнікам дома. Крама спецыялізавалася на продажы мыла, соды і мінеральнага алею[14].

**Насупраць турмы пад № 7** знаходзіўся дом, які належаў Зэліку Шылінгаву. У будынку размяшчаліся тры спажывецкія крамы. У 1920 г.

[5] *Informator miasta Grodna i Grodzieńszczyzny*, Grodno, 1926, s. 65.

[6] ДАГВ, Ф. 46 воп. 1 спр. 35 арк. 5.

[7] Там жа, арк. 7.

[8] *Informator miasta Grodna* ..., s. 35.

[9] Там жа.

[10] Там жа. Рэкламная ўклейка.

[11] Там жа, s. 75.

[12] Там жа, s. 74.

[13] Там жа, s. 76.

[14] Там жа, s. 38.

адчыніліся крамы ўладальніцы пляца Рэвекі Шылінгавай і „крама жалеза" („sklep z żelazem") Нахіма Эпштэйна, пякарня Берка Шапіры. Заўважым, што самая старая спажывецкай крама ў будынку працавала з 1912 г. і належала Эфраіму Фалесу. Яшчэ адна была адкрыта Ісакам Горданам у 1917 г., за арэнду памяшкання якой ён плаціў 200 тысяч польскіх марак. Крама галантарэйных тавараў належала Файвелю Цофнасу і працавала з 1919 г.[15]

## Усходні бок плошчы

**Пляц № 8** займаў Фарны каталіцкі касцёл св. Францыска Ксаверыя. Трэба адзначыць, што аналізуемы пашпарт забудовы гэтага ўчастка быў складзены вельмі старанна і падрабязна. Прычым, што кідаецца ў вочы, гэта быў адзіны з пашпартоў нерухомай маёмасці, напісаны чарніламі, а не алоўкам[16].

На гэтым пляцы размяшчаўся касцёл, жылы трохпавярховы дом і тры



Плошча Баторыя 1920-1930-я гады. Усходні бок. Фатографа Дамінік Анерык.

гаспадарчыя будынкі. Касцёл і згаданыя збудаванні былі пакрытыя бляхай і дахоўкай. У жылым будынку пражывала 10 палякаў-каталікоў. Сярод іх пробашч і дэкан Леон Жэброўскі, які прыехаў у Гродна ў 1917 г., прэфект Людвік Саванеўскі, які прыбыў у Гродна ў 1918 г., ксёндз Чэслаў Кардэль з Беластока (у 1923 г.).[17]

У жылым будынку знаходзілася рэдакцыя штотыднёвай грамадска-палітычнай газеты „Nowe Życie", рэдактарам якой быў ксёндз Л. Саванеўскі. Рэдакцыя займала два пакоі. У газеце былі ўладкаваны дзве асобы. Нельга не нагадаць, што Людвік Саванеўскі быў вядомай у горадзе асобай. Пасля 1939 г. пакінуў любімы горад і пераехаў у Варшаву. Пазней апынуўся ў Лодзі, дзе правёў апошнія гады свайго жыцця. Менавіта ў гэтым горадзе ён напісаў "Сагу пра Гродна" – паэтычны твор пра вядомых жыхароў горада і яго гісторыю. У творы ўзгадвае каталіцкіх ксяндзоў, якія жылі побач з ім, у тым ліку дэкана, сенатара Л. Жэброўскага[18]. У згаданым будынку мясцілася сядзіба саюза "Хрысціянскай дэмакратыі", якая займала два пакоі.

Побач з будынкам касцёла, на скрыжаванні з вуліцай Брыгідскай (цяпер К. Маркса) стаяла невялікая аднапавярховая крама рэлігійных прадметаў Левандовіча[19].

Побач з касцёлам знаходзіўся будынак „Фарнай аптэкі". Яе ўласнікам быў Эдвард Стэмпнеўскі, будучы прэзідэнт горада Гродна. Аптэка займала шэсць пакояў, у якіх працавала 9 чалавек. Цікавы факт будзе, што ў гэты час у аптэцы выраблялі газаваную ваду[20].

На рагу паўднёвага боку вуліцы Брыгідскай і плошчы Баторыя з падвойным адрасам адпаведна **нумар 1 і 15** знаходзіўся пляц нашчадкаў Мендэля Лапіна ці так званая Баторыеўка. На ім размяшчаліся тры жылыя мураваныя дамы (аднапавярховы, двухпавярховы і трохпавярховы), дзве мураваныя і дзве драўляныя гаспадарчыя пабудовы, крытыя бляхай і гонтам[21].

У трохпавярховым жылым будынку, які выходзіў фасадам на плошчу Бато-

[15] ДАГВ, Ф. 46 воп. 1 спр. 35 арк. 9-10.

[16] Там жа, арк. 11.

[17] Там жа, арк. 12.

[18] Sawoniewski L. *Saga o Grodnie*, Łódź-Białystok, 1999.

[19] ДАГВ, Ф. 46 воп. 1 спр. 35.

[20] Там жа.

[21] Там жа, спр. 40 арк. 1.

рыя, было сем кватэр, у якіх пражывалі 32 асобы. У двух пакоях дома жыла сям'я нашчадкаў уладальніка будынка: Ісаак Лапін з жонкай, братам і сястрой жонкі. Акрамя згаданых асоб кватэры здымалі сем'і польскага маёра Міхала Мараўскага, гандляроў Мойшы Шмуклера, Зальмана Дворкінда, краўца Гірша Савіцкага, сталяра Яна Васілеўскага і вартаўніка Канстанцыя Залашэўскага.

У доме размяшчаліся наступныя майстэрні: шавецкая, шчотак Лейбы Шапіра (з 1918 г.) і гадзіннікавая Мойзеша Кузніцкага (1915 г.). У будынку працавалі крамы він і гарэлак уладальніка дома І. Лапіна (1860 г.), цукерак М. Шмуклера (1910 г.), вопраткі З. Дворкінда (1918 г.), галантарэйная Бейлы Шмуклер (1913 г.), фарбы Юзэфа Крэмера (1919 г.), скуры Саламона Нанаса (1919 г.). Акрамя таго ў крыніцах згадваецца аптэчны склад Бруна Капельмана (з 1916 г.)[22].

На другім паверсе гатэль "Брыстоль" займаў 12 пакояў але ў 1924 г. ён не працаваў. Ажно сем пакояў камяніцы, пачынаючы з 1921 г., займаў Саюз купцоў Гродна, на чале якога стаяў Ошэр Шоўскі[23].

**Суседняя сядзіба № 9**, што ляжала на гэтым жа баку плошчы, належала Мозэсу Крыкстанскаму. Пляц быў забудаваны двухпавярховым жылым будынкам і гаспадарчымі забудовамі. У доме ў 22 кватэрах пражывала ажно 105 чалавек. Самая дарагая арэндная плата за кватэру, якая мясцілася на першым паверсе і ўключала 2 пакоі, кухню і ўсе тагачасныя выгоды, за год складала 300 млн польскіх марак[24].

У доме працавалі шматлікія крамы і майстэрні. Адно памяшканне будынка займала пякарня Лейзера Бабуна, заснаваная ў 1916 г. і кандытарская 1910 г. Варта ўзгадаць, што Бабун быў вядомым уладальнікам крамы веласіпедаў. У будынку знаходзіліся: такарная майстэрня (уладальнік Абрам Кейдан, заснавана ў 1880 г.), шавецкая майстэрня Арона Руда (1910 г.), жаночага адзення (Ганна




Рэклама бюро па складанню і напісанню дакументаў Э. Копельмана. (вул. Брыгідская 1)




Рэклама крамы па продажы электра-тэхнічных тавараў Д. Хазаньскага (вул. Брыгідская 1).




Рэклама крамы фарбы Юзэфа Крэмера. (пл. Баторыя 15).

Зарэц, 1924 г.). Самуэль Крынскі валодаў ювелірнай майстэрняй, якая была адкрыта ў 1913 г., і спажывецка-тытунёвай крамай з 1906 г. Спіс гандлёва-паслугавых пунктаў працягвала алейня Меера Шэваховіча (1919 г.), слясарская майстэрня Іцка-Меера Дунскага, якая займала тры памяшканні (1907 г.). Урэшце гадзіннікавая майстэрня мясцілася ў краме гадзіннікаў і з 1900 г. належала майстру Барэлю Бурдэ.

Крыніцы пералічваюць наступныя крамы: мэблі І. Вайнштэйна, аддзення Р. Длугача, дзве галантарэі: Самуэля Сакольскага (1924 г.) і Эльяша Шацкага (1883 г.), дзве спажывецкія крамы Ісака і Арона Кімхэ (1880 г.). Жалезнымі

[22] Там жа, арк. 2.

[23] Там жа, арк. 2.

[24] Там жа, спр. 35 арк. 13.

вырабамі гандляваў Хаім Кімхэ (1910 г.). Арэндная плата за размяшчэнне крамаў складала ад 150 000 да 200 000 польскіх марак[25].

## Паўднёвы бок

Найбольшым пляцам на плошчы Баторыя (1767 кв. сажняў) быў участак сям'і Юдэля і Рохлі Марголісаў. У пашпартах нерухомай маёмасці горада за 1923 г. праходзіць **пад № 11**. На ім размяшчаўся палац, які XVIII ст. належаў Радзівілам, а таксама тры гаспадарчыя пабудовы, крытыя бляхай і гонтам. Тут жа знаходзіўся склад бетонных вырабаў Клепнера Нохіма, які валодаў майстэрняй з 1920 г., а таксама склад будаўнічых матэрыялаў, металічных вырабаў і прылад для сельскай гаспадаркі, склад дошак[26].

Галоўным аб'ектам пляца быў трохпавярховы будынак, пакрыты дахоўкай і бляхай. Усяго на першым, другім паверхах і ў мансардзе мясцілася 18 жылых кватэраў. Самая танная кватэра, якая складалася з 1 пакоя і кухні і размяшчалася на першым паверсе, каштавала 200 000 польскіх марак, а самая дарагая - 4-х пакаёвая кватэра з кухняй, пярэднім пакоем і выгодамі (кран, электрычнасць, зліў) - на другім паверсе - 2 250 000 марак.

У згаданым будынку жыло 86 чалавек. У асноўным - яўрэйскія сем'і, якія складаліся з 3-7 чалавек. Сярод жыхароў гэтага дома толькі адна сям'я была расейскай. Амаль кожная яўрэйская сям'я мела прыслугу, якая дапамагала ў вядзенні хатняй гаспадаркі і ў выхаванні дзяцей. Гэта былі незамужнія дзяўчыны ва ўзросце 15-26 гадоў ці ўдовы праваслаўнага, каталіцкага і іўдзейскага веравызнання, беларускі, полькі, яўрэйкі па нацыянальнасці, якія прыязджалі ў горад з мястэчак і навакольных вёсак – Скідзеля, Азёраў, Бельска і Воўпы[27].

Акрамя пастаянных жыхароў, у будынку знаходзіўся гатэль „Купецкі", які займаў 8 пакояў, ды розныя грамадскія ўстановы - Цэнтральны саюз дробных купцоў (займаў 2 пакоі і меў тэлефонны нумар), кіраўніцтва санітарна-

[25] Там жа.

[26] Там жа, арк. 16.

[27] Там жа, арк. 17.



Былы палац Радзівілаў (пл. Баторыя, 11). 1920-1930-я гады

гігіенічнага таварыства „Linas Hacedek" (3 пакоі), вядомы клуб „Муза" (4 пакоі і кухня), пры якім дзейнічаў буфет. Кіраўніком клуба быў вядомы гродзенскі ўрач Аляксандр Тальгейм. Яўрэйская абшчына трымала ў будынку бібліятэку, якая займала 2 пакоі[28].

У будынку было шмат невялікіх крамаў, усяго 45. Усе яны з'яўляліся ўласнасцю яўрэяў, якія займаліся продажам прадуктаў харчавання, капялюшаў, мануфактурных, галантарэйных, металічных вырабаў, скуры і абутку, тытуню, садавіны і агародніны, пісьмовага прыладку. У будынку дзейнічала кнігарня, знаходзіліся аптэчныя склады і склад будаўнічых матэрыялаў. Заўважым, што многія крамы пачалі сваю дзейнасць яшчэ ў 19 ст. Найбольш стары „склад жалеза" належаў Завэлю Марголісу і Якабу Мальцу, дзейнічаў з 1862 г. Большасцю крамаў валодалі прыватныя асобы, але некаторыя былі ва ўладанні той ці іншай арганізацыі. Так, напрыклад, аптэчны склад належаў аб'яднанню „Spółka", тытунёвая крама належала кампаніі „Jedność". Паводле дадзеных 1927 года чатыры крамы ў будынку мелі тэлефонныя нумары[29].

У будынку размяшчаліся 12 майстэрняў, якія таксама належалі

[28] Там жа, арк. 16.

[29] *Informator miasta Grodna* ...., s. 35-43.

яўрэям: бляхарская, кравецкая, сталярская, гадзіннікавая, механічная, бетонных вырабаў, па вырабе свечак, шчотак, заточкі нажоў і брытваў, а таксама пякарня.

Арэндная плата за размяшчэнне крамаў складала ад 400 000 да 7 000 000 польскіх марак. Як правіла, жыхары, якія здымалі жыллё ў будынку, не плацілі асобна арэндную плату за краму ці майстэрню[30].

## Заходні бок

**Участак пад № 13** у апісваемы перыяд з'яўляўся ўласнасцю Юзэфа-Давіда Шапіры і спадкаемцаў Антонія Палюты, Лазара Дынеша ды Фішэля Выгодскага. На пляцы знаходзіўся трохпавярховы жылы будынак, у якім пражывала 28 чалавек. У 1922 г. у ім была адкрыта карчма Лейтуса Лейзера. Адной з самых вядомых крамаў была крама він і гарэлкі аднаго з уладальнікаў будынка Юзэфа-Давіда Шапіры, якая працавала з 1812 г. У доме акрамя таго можна было набыць рэчы ў мануфактурнай краме братоў Шарашэўскіх (адкрыта ў 1883 г.), купіць ужываную вопратку ў Нэнкіса Кейля з 1900 г., „старое жалеза" ці, як можна толькі здагадвацца гаворка ішла пра металалом, ў Рахілі Пайкевіч (з 1883 г.), вугаль у Абрама Зукоўскага (з 1922 г.). Як можна меркаваць, у гаспадарчых пабудовах участка мясціліся склады металічнага лому Ёселя Шапіры з 1923 г. і збожжа Сонкіна. У будынку працавалі дзве майстэрні: мэблю можна было замовіць у Самуэля Шмулевіча (1923 г.), а Нахім Мараш прапаноўваў содавыя воды і ліманад (1903 г.)[31].

Побач з домам **№ 13** знаходзіўся яшчэ адзін будынак пад такім жа нумарам. Ён належаў сталяру Зусэлю Прусаку і яго жонцы Мнусе. Прусак адкрыў сталярную майстэрню ў 1920 г. А продаж сваіх вырабаў ажыццяўляў у гандлёвых радах гарадской ратушы[32].

На гэтым пляцы побач з домам № 13 размяшчаўся **безнумарны будынак**, які знаходзіўся ва ўласнасці спадкаемцаў Антонія Палюты. У ім пражывалі дзве польскія сям'і. Акрамя гэтага на пляцы знаходзіўся вялікі склад драўніны[33].




**Плошча Баторыя 1920-1930-я гады. Справа заходні бок.**

На рагу вуліцы Замкавай і плошчы Баторыя ляжаў **пляц № 2**, які належаў Генрыку Замкоўскаму. На ім стаялі два жылыя мураваныя будынкі, абодва крытыя бляхай: двухпавярховы і трохпавярховы, а таксама гаспадарчы драўляны будынак.

Памяшканні ў будынку здымалі: з 1920 г. Балтыйска-Амерыканская лінія (гродзенскі аддзел), сталярная майстэрня Юдэля Сяргея (1894 г.), працоўны клуб і рэстаран (1922 г.), цырульня Мойшы Абрамовіча (1902 г.). Акрамя таго традыцыйна тут мясціліся шматлікія крамы, якіх налічвалася 12[34].

Дамінантай заходняга боку плошчы бала Фара Вітаўта, якая ў 1920-1930-я гады з'ўлялася гарнізонным касцёлам.

У самым цэнтры плошчы знаходзіўся будынак гарадской ратушы пад № 30, які быў у дзяржаўнай уласнасці і належаў магістрату Гродна. У ім жыло пяць чалавек - магістрацкі супрацоўнік, вартаўнік, пераплётчык і служачыя. Акрамя жылых пакояў у будынку знаходзіліся бюро



HANDEL
WIN i WÓDEK
ZAGRANICZNYCH i KRAJOWYCH.
Firma egzystuje od 1812 r.
J. D. Szapiro.
Grodno, pl. Batorego 13,
tel. 102.

**Рэклама крамы він і гарэлкі Юзэфа-Давіда Шапіры. (пл. Баторыя, 13).**



**Фара Вітаўта. 1930-я гады.**

[30] ДАГВ, Ф. 46 воп. 1 спр. 35 арк. 18.

[31] Там жа, арк. 21-22.

[32] Там жа, арк. 23-24.

[33] Там жа, арк. 25.

[34] Там жа, спр. 52 арк. 1.




**Магістрат г. Гродна. (пл. Баторыя, 30). Паўднёвы бок**



**Магістрат г. Гродна. (пл. Баторыя, 30). Паўднёвы бок.**

розных ўстаноў. Да іх ліку належалі Дзяржаўнае кіраўніцтва біржай працы і Польскі саюз хатняй працы, канцылярыя Саюза інвалідаў вайны і Дабраахвотнае таварыства пажарнай бяспекі. Асноўную частку памяшканняў магістрата займалі крамы. Усяго на 1924 г. іх налічвалася 69[35].

У 20-30-я гады XX ст. ані архітэктурнае аблічча, ані традыцыйныя функцыі плошчы Баторыя не змяняліся. Яна надалей з’яўлялася важным гандлёвым і рамесным цэнтрам горада. Акрамя таго плошча заўсёды была асяродкам рэлігійнага і культурнага жыцця. Тут размяшчаліся два каталіцкія касцёлы, культурныя установы, офісы шматлікіх арганізацый.

**Усе здымкі паходзяць з сайта harodnia.com і калекцыі Фелікса Варашыльскага.**

[35] Там жа, спр. 35 арк. 28.

Віктар Саяпін (Гродна)

# Гісторыя Савецкай плошчы. Праекты перапланіроўкі 40-80-х гг. XX ст.

Галоўная і найстарэйшая плошча горада, горадабудаўнічыя формы якой складваліся стагоддзямі і якая мела розныя назвы (Рынак, Ратушная, Парадная, Саборная, Стэфана Баторыя), зведала значныя змены на працягу другой паловы XX ст.

У 20-30-е гады XX ст. у яе архітэктурным аблічы пераўтварэнняў не адбывалася. На фота даваенных гадоў добра бачная шчыльная забудова паміж вуліцамі Маставой і Мяшчанскай, усе архітэктурныя дамінанты пляца Стэфана Баторыя. Пасля ўстанаўлення савецкай улады на галоўнай плошчы горада ў 1940 г. быў пастаўлены помнік Сталіну[1]. Тады ж на падставе рашэння Гродзенскага гарвыканкама плошча стала называцца Савецкай[2].

У гады Другой сусветнай вайны сама плошча і раён, які прылягае да яе, пацярпелі найбольш. Калі паглядзець з вышыні птушынага палёту на цяперашнюю плошчу, то пасля ўсіх рэканструкцый, яна ўяўляе сабою незабудаваную клінападобную прастору, якая пачынаецца ад „Ратушнай” крамы і дома купца Мураўёва і скончваецца побач Старога моста.

Пасля вызвалення горада ў ліпені 1944 г., практычна ўся гэта прастора ўяўляла суцэльныя руіны. Разбор завалаў працягваўся некалькі гадоў. Выканкамам гарадскога Савета была пастаўлена задача аддзелу добраўпарадкавання да 25 сакавіка 1949 г. завяршыць пракладку вузкакалейкі на Савецкай плошчы, а таксама падрыхтаваць ваганеткі, распрацаваць рабочыя графікі для расчысткі завалаў пляца і неадкладна распачаць выкананне работ[3]. Да канца 40-х гадоў руіны былі




Плошча Стэфана Баторыя ў канцы 30-х гг. XX ст.



Сучасны выгляд Савецкай плошчы. 2009 г.



Савецкая плошча. 1949 г.

[1] Дзяржаўны архіў Гродзенскай вобласці (далей ДАГВ), Ф. 484 воп. 1 спр. 150 арк. 153.

[2] ДАГВ, Ф. 484 воп. 1 спр. 119 арк. 10.

[3] Тамжа, Ф. 484 воп. 1 спр. 174 арк. 32.




Цэнтральная частка Гродна па генплане 1949 г.

разабраны, прычым, апошнімі былі разбураны сцены ратушы, якія захоўваліся яшчэ ў 1949 г. Перад уладамі стала задача забудовы велізарнай пустой прасторы ў цэнтры горада.

Ужо ў студзені 1946 г. мясцовы гарвыканкам разглядзеў пытанне „Пра генеральную схему планіроўкі горада Гродна" і прыняў рашэнне: „*Распрацаваныя тэхнічна-эканамічныя перспектывы аднаўлення і развіцця горада і схему генеральнай планіроўкі горада Гродна зацвердзіць*"[4].

На працягу 1946-1949 гг. архітэктары Гродзенскага філіяла „Белдзяржпраекта" займаліся падрыхтоўкай першага генеральнага плана рэканструкцыі і развіцця Гродна. А на адным са сваіх пасяджэнняў у ліпені 1947 г. гарвыканкам вырашыў, што „*найважнейшай палітычнай задачай з'яўляецца аднаўленне да 15 жніўня 1947 г. скульптуры Леніна на плошчы Леніна і скульптуры Сталіна на плошчы Савецкай, якія былі збудаваны ў 1940 г. і разбураны нямецка-фашысцкімі захопнікамі*"[5].

Генплан рэканструкцыі і развіцця горада быў ухвалены і зацверджаны на паседжанні Гродзенскага аблвыканкама ў красавіку 1949 г. Савет Міністраў БССР пастановай ад 23 лютага 1951 г. № 176 зацвердзіў яго канчаткова[6]. Праект прадугледжваў доўгатэрміновую перспектыву і да канца разліковага перыяду насельніцтва горада павінна было скласці 100 000 чалавек. Вось якім, па меркаваннях галоўнага архітэктара абласнога аддзела архітэктуры А. М. Кліменкі, павінен быў стаць цэнтр нашага горада: „*…Гістарычна сфарміраваныя магістралі пашыраюцца і пройдуць праз цэнтр, захаваюць сваё транспартнае значэнне. Грандзіцкая шаша пройдзе праз Віленскую і Савецкую вуліцы і звяжа правабярэжную частку горада з Занёманскім раёнам. Скідзельскі гасцінец* (праспект Касманаўтаў - аўт.) *з'явіцца асноўнай кампазіцыйнай воссю ўсходняга раёна і звяжа гэты раён з цэнтрам горада. Вуліца 17 верасня праектуецца як кальцавая і ў далейшым павінна разгрузіць ад транспарта цэнтр горада.*

*Цэнтр горада будзе створаны на беразе Нёмана ў раёне старажытнай часткі горада, у сутоцы асноўных радыяльных магістраляў*: *Савецкага праспекта, вуліц К. Маркса, Замкавай, Маставой і Савецкай плошчы. Гэта плошча ператворыцца ў цэнтральны пляц горада. На ёй праектуецца будаўніцтва Дома Саветаў і іншых добра афармленых будынкаў. Ад цэнтральнай плошчы да берага ракі Нёман ствараецца бульвар, упрыгожаны фантанамі і скульптурамі.*

*План забудовы галоўных вуліц – Савецкай, К. Маркса, Замкавай, Ажэшкі прадугледжвае будаўніцтва дамоў у 2-3 паверхі і ў асобных выпадках у 4 паверхі…*"[7].

Згодна з праектам цэнтр горада павінен быў знаходзіцца на скрыжаванні дзвюх галоўных магістраляў: Савецкага праспекта і праспекта Карла Маркса, для гэтага прадугледжвалася пашырэнне вуліцы К. Маркса з 12 метраў да 28, а вуліцы Савецкай з 14,7 да 30 метраў. За кошт чаго меркавалася пашырыць гэтыя вуліцы? Першую – за кошт зносу ўсёй гістарычнай забудовы на яе паўночным, цотным боку. Другая вуліца мела ператварыцца ў праспект таксама ў выніку зносу яе цотнага боку. Збудаваныя на Савецкай вуліцы Дом прафсаюзаў і ўнівермаг даюць нам уяўленне пра тое, як павінна была выглядаць „чырвоная лінія" новага праспекта.

Цэнтральную плошчу архітэктары запланавалі ўпрыгожыць новымі архітэктурнымі дамінантамі. Так, на месцы сквера паміж Фарай Вітаўта і Фарным касцёлам (т. зв. бульва-

[4] Тамжа, Ф. 484 воп. 1 спр. 130 арк. 144.

[5] Тамжа, Ф. 484 воп. 1 спр. 150 арк. 153.

[6] Тамжа, Ф. 484 воп. 1 спр. 289 арк. 218.

[7] "Гродзенская праўда", № 89 ад 22 красавіка 1947 г.



**Праект будынка Дома Саветаў. 1952 г.**

рам) збіраліся ўзвесці пампезны Дом Саветаў. На рагу Савецкай плошчы з вуліцай Замкавай, дзе цяпер Палац тэкстыльшчыкаў, была запраектавана будова Дома прафсаюзаў.

Магістраль „Скідальскі гасцінец - праспект К. Маркса" далей павінна была прайсці па самым кароткім шляху праз Савецкаю плошчу, рэчку Гараднічанка да новага Цэнтральнага парку (цяпер Каложскага) і будучага стадыёна.

У рашэнні, прынятым аблвыканкамам, галоўнаму архітэктару А.М. Кліменку даручалася правесці неабходную працу па папулярызацыі палажэнняў генплана сярод насельніцтва, пачаць распрацоўку праекта дэталёвай планіроўкі і забудовы цэнтральнага раёна горада, таксама падрыхтаваць конкурс на лепшы праект цэнтральнай плошчы Гродна з прыцягненнем вядучых архітэктараў рэспублікі[8].

Складана ўявіць, як праводзілася праца па папулярызацыі праекта. На той час з мясцовых перыядычных выданняў у горадзе была толькі газета „Гродзенская праўда", у якой акрамя інтэрв'ю А.М. Кліменкі, ніякага абмеркавання не было. Мізэрны час у эфіры гучала абласное радыё, а тэлебачанне ў горадзе толькі зараджалася. Конкурс на праект цэнтральнай плошчы таксама не адбыўся. Выконваўся толькі адзін з пунктаў прадпісання аблвыканкама. Ужо ў 1951 г. група архітэктараў таго ж „Белдзяржпраекта" пад кіраўніцтвам А.Ч. Хегая распачала працу над праектам дэталёвай



**Будаўніцтва Палаца культуры тэкстыльшчыкаў. 1955 г.**

забудовы цэнтральнай часткі горада, а гарадскія ўлады ўзяліся за ажыццяўленне праекта рэканструкцыі.

У студзені 1951 г. гарвыканкам прымае рашэнне пра лёс будынка на рагу Савецкай плошчы з вуліцай Пасіянарыі: „*пра немэтазгоднасць аднаўлення каробкі, бо падмурак мае расколіны, месцамі разбураны, усталяваны на насыпным грунце і каробка з'яўляецца аварыйнай, выканкам вырашае перадаць каробку арцелі „Чырвоная зорка" пад знос і будаўніцтва часавага павільёна пад „Атэлье мод" тэрмінам на 2-3* гады"[9].

У лютым 1952 г. выканкам адводзіць зямельны ўчастак на рагу вуліц Замкавай і Маставой пад будаўніцтва клуба тонкасуконнага камбіната з глядзельнай залай на 420-550 месцаў[10]. А ў верасні таго ж года гарвыканкам прымае рашэнне пра будаўніцтва будынка аблвыканкама па вул. Крупскай[11].

[8] Ю.Н. Кішык, *Градостроительная культура Гродно*, Мінск, 2007, с. 236.

[9] ДАГВ, Ф. 484 воп. 1 спр. 190 арк. 150.

[10] Тамжа, Ф. 484 воп. 1 спр. 208 арк. 134.

[11] Тамжа, Ф. 484 воп. 1 спр. 202 арк. 14.

У траўні 1952 г. гарвыканкам адмяніў сваё ранейшае рашэнне пра перадачу зямельнага ўчастку арцелі „Чырвоная зорка" і яго перадачу Гродзенскаму абласному Савету прафсаюзаў для ўзвядзення будынка аблпрафсавета па праекце архітэктара Гаравіц[12].

Пасля расчысткі завалаў, да ліку першачарговых мерапрыемстваў па добраўпарадкаванні плошчы, залічвалася ўзвядзенне цэнтральнага сквера. 5 верасня 1953 г. выканкам зацвярджае праект і каштарыс будаўніцтва балюстрады цэнтральнага сквера на Савецкай плошчы ў суме 145 480 рублёў[13].

У жніўні 1954 г. выканкам ізноў адводзіць вышэй згаданы зямельны ўчастак на рагу Савецкай плошчы з вуліцай Пасіянарыі той жа арцелі „Чырвоная зорка" пад будаўніцтва трохпавярховага будынка згаданага атэлье адзення, а ў чэрвені 1956 г. ізноў адмяняе гэта рашэнне і абавязвае арцель пабудаваць 4-х павярховы жылы дом з арганізацыяй на першым паверсе атэлье індпашыву[14].

Той факт, што на працягу некалькіх гадоў гарвыканкам некалькі разоў мяняў рашэнне пра перадачу аднаго і таго ж зямельнага ўчастка, наводзіць на думку, што або генплан быў не да канца апрацаваны і ў ім выразна не вызначаны ўчасткі пад будучае будаўніцтва, або проста ўлады былі змушаны змяняць свае рашэнні пад уплывам звонку. Відавочна адно, у выніку непрадуманай горадабудаўнічай палітыкі дадзены ўчастак па-ранейшаму быў незабудаваны. Мала таго, самотна размешчаны дом № 23 па вул. Пасіянарыі (цяпер Калючынскай) у наш час знаходзіцца пад пагрозай зносу.

Вернемся ў пяцідзесятыя гады XX ст. У красавіку 1955 г. выканкам адводзіць зямельны ўчастак на рагу вуліц Маставой і праектаванай Навазамкавай пад будаўніцтва 4-х павярховага вуглавога будынка гасцініцы. Гасцініцу ў канчатковым выніку ўзвялі, але на вуліцы Крупскай, а на адведзеным зямельным участку быў пабудаваны жылы дом з кнігарняй[15].



**У цэнтральным скверы на Савецкай плошчы. Сакавік 1957 г.**

Тым часам, добраўпарадкаванне плошчы працягвалася, і ў снежні 1955 г. па рашэнні гарвыканкама на заканчэнне добраўпарадкавання Савецкай плошчы было выдаткавана 221 600 рублёў, а на будаўніцтва помніка Сталіну на той жа плошчы – 150 000 рублёў[16].

Верагодна, няўвязкі з праектаваннем і забудовай плошчы, шэраг іншых фактараў, падштурхнулі гарадскія ўлады да неабходнасці карэкціроўкі генплана. Па гэтай прычыне 15 траўня 1957 г., выканкам прыступіў да разгляду і зацвярджэнню тэхнічна-эканамічных асноў па карэкціроўцы генеральнага плана горада Гродна і праекта чырвоных ліній гарадскога цэнтра.

У прыватнасці, прапанавалася па Савецкай плошчы: „*Лічыць прынятыя габарыты цэнтральнай плошчы правільнымі, а прапанаваныя варыянты размяшчэння будынкаў абласнога Савета няўдалымі. Прапанаваць Белдзяржпраекта распрацаваць яшчэ адзін варыянт плошчы, размясціўшы па вуліцы Крупскай жылыя дамы. За старым скверам, побач з бібліятэкай запраектаваць дамы, а існуючы дом надбудаваць. Будынак аблвыканкама размясціць на рагу цэнтральнай плошчы і вуліцы Карла Маркса ці на месцы нядзейснага касцёла* (Фара Вітаўта - аўт.)"[17].

[12] Тамжа, Ф. 484 воп. 1 спр. 200 арк. 290.

[13] Тамжа, Ф. 484 воп. 1 спр. 214 арк. 33.

[14] Тамжа, Ф. 484 воп. 1 спр. 245 арк. 9.

[15] Тамжа, Ф. 484 воп. 1 спр. 230 арк. 134.

[16] Тамжа, Ф. 484 воп. 1 спр. 238 арк. 74.

[17] Тамжа, Ф. 484 воп. 1 спр. 254 арк. 4-5.

Першыя паўтары пасляваенныя дзесяцігоддзі будынак Фары Вітаўта перадавалі па чарзе шэрагу гандлёвых арганізацый пад складскія памяшканні – Гархарчпрамгандлю, базам Галоўабутакзбыту і Галоўаўтатрактаразбыту і Універмага. Акрамя гандлёвых, у касцёле працяглы час размяшчаліся склады ваенна-навучальнага цэнтра ДТСААФ і тонкасуконнага камбіната[18].

На пачатку 1958 г. у горадзе з'явілася патрэба ў будаўніцтве шырокафарматнага кінатэатра. Першапачаткова было вырашана не ўзводзіць новы будынак, а прыстасаваць адно з наяўных у горадзе памяшканняў пад кінатэатр. Выбар выпаў на касцёл. У сакавіку 1958 г. гарвыканкам прымае рашэнне „Пра дазвол рэканструкцыі будынка былога гарнізоннага касцёла па вуліцы Савецкай у горадзе Гродна пад шырокаэкранны кінатэатр": „*Прымаючы пад ўвагу, што будынак былога гарнізоннага касцёла па вуліцы Савецкай у горадзе Гродна мае добрыя сцены і зручныя для прыстасавання пад кінатэатр, акрамя таго, зямельны ўчастак касцёла знаходзіцца на цэнтральным пляцы горада, выканкам Гродзенскага гарадскога Савета дэпутатаў працоўных вырашае*: *Перадаць Упраўленню культуры Гродзенскага аблвыканкама былы будынак гарнізоннага касцёла па вуліцы Савецкай для рэканструкцыі пад шырокаэкранны кінатэатр*"[19].

Па нейкіх прычынах, хутчэй за ўсё тэхнічнага характару, касцёлу не давялося стаць кінатэатрам – затое ў яго з'явілася перспектыва ператварыцца ў спартыўную залу. У лістападзе 1959 г. гарвыканкам выдаў новую пастанову, якая павінна была вырашыць лёс касцёла: „*Перадаць Гродзенскаму гарадскому Савету Саюза спартыўных таварыстваў і арганізацый будынак былога касцёла на рагу вуліц Замкавай і Кастрычніцкай для рэканструкцыі яго пад гарадскі Дом фізічнай культуры і замацаваць за ім зямельны ўчастак плошчай 0,64 га*"[20].

[18] Тамжа, Ф. 484 воп. 1 спр. 193 арк. 414; Ф. 484 воп. 1 спр. 197 арк. 194; Ф. 484 воп. 1 спр. 247 арк. 31.

[19] Тамжа, Ф. 484 воп. 1 спр. 264 арк. 54.

[20] Тамжа, Ф. 484 воп. 1 спр. 281 арк. 223.



**Панарама Савецкай плошчы. 1958 г.**



**Знішчаная Фара Вітаўта. 29 лістапада 1961 г.**

Рэканструкцыя, як пад кінатэатр, так і пад Дом фізкультуры прадугледжвала змену вонкавага выгляду касцёла, і ў першую чаргу, страту яго вежы-званіцы – адной з дамінант горада. Але не стаў храм ні ўстановай культуры, ні спартыўнай залай. Аказалася, у недалёкай будучыні яго чакала больш сумная доля. У міжнародны дзень жанчын - 8 сакавіка 1961 г. уладамі горада прымаецца вырашальная і трагічная ў лёсе галоўнага храма горада пастанова – пра яго разбурэнне, што і было зроблена 29 лістапада 1961 г.[21]

Адзначым, што праект дэталёвай забудовы цэнтра горада А.Ч. Хегая быў здзейснены толькі ў нязначнай ступені,

[21] Тамжа, Ф. 484 воп. 1 спр. 297 арк. 200.






Палац культуры тэкстыльшчыкаў. 1960 г.

па гэтай прычыне вылучым яго некаторыя асаблівасці. У праект рэканструкцыі ўключаўся 4-х павярховы корпус былой тытунёвай фабрыкі, цудам ацалелай у гады вайны (цяпер пальчаткавая). Працяглы 4-павярховы будынак атрымліваў пластычную распрацоўку, падобную той, якую мелі па праекце суседнія пабудовы. Сцены 1-га і 2-га паверхаў пакрываліся рустоўкай, поле сцен верхніх паверхаў аб'ядноўвалася метрычнай групай пілястраў, цэнтр фасада падкрэсліваўся рызалітам і франтонам, бакавыя крылы праразалі буйныя аркі праездаў[22].

Варыянтаў размяшчэння Дома Саветаў прапанавалася два: на месцы сквера і вядомага гродзенцам дома купца Мураўёва і магазіна „Ратушны" і другі – на месцы разабранай у 1949 г. ратушы. Фару Вітаўта павінен быў засланяць вялікі вышынны дом, пабудаваны на рагу Замкавай вуліцы. Як справядліва заўважыў архітэктар Ю.Н. Кішык: *„Канец 1950-х - пачатак 1960-х гадоў былі перыядам найвялікшай захопленасці «сучаснай архітэктурай» і найвялікшага грэбавання гістарычным кантэкстам"*[23].

Праект рэканструкцыі будынка былога тонкасуконнага камбіната. 1952 г.

Як бачна, планы архітэктараў 40-50 гг. XX ст. былі здзейснены толькі часткова. Вуліцы Савецкая і К. Маркса не сталі праспектамі і практычна захавалі сваю выдатную архітэктуру, за выключэннем асобных будынкаў, у тым ліку і помнікаў гісторыі і архітэктуры (Фара Вітаўта, званіца кляштара Брыгітак), знішчаных у наступныя дзесяцігоддзі. Не з'явіўся на Савецкай плошчы і помнік Сталіну. Да пачатку 60-х гг. згаданага стагоддзя генеральны план страціў сваю актуальнасць, і гарадскія ўлады сталі ўносіць у яго карэктывы. Упершыню да карэкціроўкі плану выканкам вярнуўся 25 траўня 1960 г.

Савецкая плошча была практычна адзінай у горадзе, якая мела асфальтавае пакрыццё – 6 кастрычніка 1959 г. дзяржаўная камісія прыняла асфальтаванне пляца. Вуліц асфальтаваных у горадзе таксама было некалькі – амаль усе яны былі выбрукаваны каменем, некаторыя брусчаткай.

Архітэктурнымі дамінантамі на плошчы з'яўляліся Фара Вітаўта, знішчаная ў 1961 г., а таксама захаваны касцёл Святога Францыска Ксаверыя (больш вядомы як Фарны) і Палац культуры тэкстыльшчыкаў.

Палац культуры тэкстыльшчыкаў быў прыняты ў эксплуатацыю дзяржаўнай камісіяй 29 кастрычніка 1959 г. Сярод гродзенцаў працяглы час існавала легенда пра тое, што ён пабудаваны „задам наперад", г.зн. фасад, які выходзіць да Дому быту, павінен быць галоўным. Але гэта ўсяго толькі легенда. Са слоў дачкі прараба Р. Папова, які будаваў гэты будынак, пры ажыццяўленні праекта была прыбрана

[22] Ю.Н. Кішык, *Градостроительная...*, с. 238-239.

[23] Тамжа, с. 240-241.

каланада перад галоўным фасадам, таму ён і ўяўляецца нам не зусім завершаным.

У Палаца была яшчэ адна асаблівасць, якая перыядычна прыцягвала да яго ўсеагульную ўвагу – святочныя дэманстрацыі. Два разы ў год – 1 траўня і 7 лістапада перад галоўным фасадам будынка, упрыгожаным партрэтам правадыра і дзяржаўнай сімволікай савецкага перыяду, усталёўвалася трыбуна, на якой кіраўнікі горада і вобласці віталі калоны прадстаўнікоў працоўных калектываў горада, якія праходзілі па пляцы. Калі на пачатку 60-*х* гадоў усе калоны дэманстрантаў заходзілі на плошчу з Савецкай вуліцы, праходзілі па ёй уздоўж трыбуны і па вуліцы Маставой выходзілі з плошчы, то пасля, ў сувязі з ростам горада і павялічваннем ліку прадпрыемстваў і ўстаноў, калоны падзялілі на дзве плыні, і яны сталі заходзіць на плошчу з вуліц Савецкай і К. Маркса. Так працягвалася да сярэдзіны 80-х гадоў, калі была завершана рэканструкцыя плошчы Леніна і будаўніцтва стацыянарных трыбун побач з помнікам Леніну. Пасля чаго ўсе дэманстрацыі і мітынгі сталі праводзіцца менавіта на гэтай плошчы.

Насупраць Палаца культуры, на вуліцы Крупскай (цяпер Стэфана Баторыя) у 1961 г. быў пабудаваны жылы пяціпавярховы будынак, на першым паверсе якога адкрылася адзіная ў горадзе спецыялізаваная крама мужчынскай і жаночай адзежы, якая так і называлася – „Адзенне". Цяпер гэта ўсім вядомы „Гандлёвы дом Баторыя".

З паўднёвага боку асфальтаваны квадрат Савецкай плошчы замыкала балюстрада сквера. На процілеглым паўночным боку плошчы таксама знаходзіўся сквер. Трэці па ліку сквер з'явіўся ўвесну 1962 г. на месцы ўзарванай Фары Вітаўта. Самы вялікі сквер на паўднёвым боку пляца, які нагадваў бульвар, уціснуты быў у даволі вузкую прастору, абмежаванаю вуліцамі Крупскай і Маставой. Агароджаны ён быў бетоннай балюстрадай і меў уваходы з боку пляца, абедзвюх вуліц і з боку драмтэатра, якога ў 60-я гады 20 ст. на яго цяперашнім месцы



**Будынак былога тонкасуконнага камбіната. Канец 50-х гадоў XX ст.**

не было – там яшчэ захоўваліся рэшткі жаночага бернардзінскага кляштара. У цэнтры сквера знаходзіліся кветнікі, па перыметры высаджаны былі дрэвы і кусты, улетку працаваў фантан, побач з якім заўсёды была дзятва і маладыя мамы з каляскамі, у цені дрэў на лаўках адпачывалі пенсіянеры.

На вуліцы Крупскай справа ад будынку з крамай „Адзенне" у снежні 1961 г. была здадзена ў эксплуатацыю гасцініца „Нёман" з аднайменным рэстаранам. На першым паверсе будынка на рагу Савецкай плошчы з вуліцай Парыжскай Камуны знаходзіўся, мабыць, самы лепшы гастраном горада таго часу – „Цэнтральны". Будынак з крамай быў здадзены будаўнікамі ў 1958 г.

Як ужо было адзначана, адным з нешматлікіх захаваных у гады вайны будынкам на плошчы быў вялікі трохпавярховы дом, у якім пасля рэканструкцыі змяшчаўся тонкасуконны камбінат. На пачатку 60-х гадоў XX ст. камбінат перасяліўся ў новыя карпусы, якія выходзілі на набярэжную Нёмана, а перад уладамі горада паўстала пытанне – як выкарыстаць вялікі будынак у цэнтры горада? 30 жніўня 1961 г. выканкам прымае рашэнне „Пра вы-

карыстанне вызваленага вытворчага будынка тонкасуконнага камбіната": *„Абавязаць аблпраект і дырэкцыю тонкасуконнага камбіната прадставіць гарвыканкаму ў аб'ёме праектнага задання (у рабочай стадыі) тэхнічна-эканамічныя паказчыкі рэканструкцыі корпуса пад жыллё, уключаючы накіды па рэканструкцыі галоўнага фасада"*[24].

Як працяг папярэдняй пастановы 23 верасня 1964 г. прымаецца новае рашэнне выканкама: „Пра рэканструкцыю корпуса тонкасуконнага камбіната па вуліцы Маставой, 31": *„1. Пагадзіцца з прапановай кіраўніцтва тонкасуконнага камбіната пра рэканструкцыю былога навучальна-вытворчага корпуса тонкасуконнага камбіната па вуліцы Маставой, 31 пад жыллё. 2. Лічыць мэтазгодным пры рэканструкцыі вырабіць надбудову двух паверхаў. 3. Прасіць аблвыканкам пры падрыхтоўцы дакументацыі ў частцы цокальнага паверха цалкам і першым паверсе прадугледзець размяшчэнне наступных гандлёвых прадпрыемстваў*:

*а) крама з аддзеламі*: *мясапрадуктаў і паўфабрыкатаў, кансервавы аддзел і аддзел па продажы мінеральнай вады, кафетэрый, аддзел садавіны*;

*б) крама гасп[адарчых] тавараў*;

*в) крама трыкатажных вырабаў і тканін*;

*г) крама культтавараў*;

*д) крама медыцынскага інструментара і оптыкі"*[25].

Пасля таго, як у горадзе была адкрыта фабрыка пальчаткавых вырабаў, вытворчы корпус тонкасуконнага камбіната перадалі ёй пад рэканструкцыю. Адпаведна, 14 ліпеня 1967 г. гарвыканкам прымае рашэнне: *„Дазволіць Гродзенскай фабрыцы пальчаткавых вырабаў выканаць рэканструкцыю былога вытворчага корпуса тонкасуконнага камбіната па вуліцы Маставой, 31, са зносам часткі дваровага жылога крыла і кацельнай, дадатковай надбудовай аднаго паверху галоўнага корпуса"*[26].

[24] ДАГВ, Ф. 484 воп. 1 спр. 301 арк. 100.

[25] Тамжа, Ф. 484 воп. 1 спр. 329 арк. 209.

[26] Тамжа, Ф. 484 воп. 1 спр. 367 арк. 83.

Што і было зроблена. І сёння не толькі гараджане, але і госці нашага горада - наўмысна ці мімаволі звяртаюць увагу на гэта безаблічнае збудаванне на цэнтральным пляцы горада.

У шасцідзесятыя гады рэканструкцыя плошчы працягнулася. У красавіку 1962 г. выканкам прымае рашэнне „Пра зацвярджэнне праектнага задання на добраўпарадкаванне і рэканструкцыю вуліц Маставой і Крупскай". Каштарыс складаўся з сумы 84 тыс. руб. Вызначана 1-я чарга рэканструкцыі - вуліца Маставая, 2-я чарга вуліцы Крупскай і Парыжскай Камуны[27].

Да гэтага часу, частка вуліцы Маставая, заціснутай з двух бакоў адхонамі, праходзіла ад моста да цэнтральнага сквера (дзе цяпер стаіць танк) і да яе прылягала вуліца Парыжскай Камуны. У выніку рэканструкцыі схілы спрафілявалі, прыбраўшы велізарныя аб'ёмы грунта. Побач з цяперашнім будынкам „Прыёрбанка" атрымалася скрыжаванне дзвюх вуліц і трапецападобны кветнік паміж імі.

Наступны генеральны план рэканструкцыі горада Гродна распрацоўвалі архітэктары „Белдзяржпраекта" пад кіраўніцтвам К.І. Басава ў 1960-1961 гг. У 1963 г. на паседжанні прамысловага бюро абкама КПБ (у той час абкам партыі быў падзелены на прамысловы і сельскагаспадарчы) быў абмеркаваны і прыняты генеральны план рэканструкцыі і развіцця Гродна на найбліжэйшыя 20 гадоў, які ў тым жа годзе зацвердзіў Савет Міністраў БССР.

Як паведамляла сваім чытачам газета „Гродзенская праўда" 3 лютага 1963 г., у абмеркаванні праекта рэканструкцыі і добраўпарадкавання Гродна прыняла ўдзел і грамадскасць горада – дэпутаты гарадскога Савета, працаўнікі гарадскіх устаноў, праектных арганізацый. Яны ўнеслі шмат каштоўных прапаноў па стварэнні жыхарам максімальных выгод[28].

Магчыма, дэпутаты гарсавета на сваіх паседжаннях і працаўнікі праектных арганізацый на планёрках

[27] Тамжа, Ф. 484 воп. 1 спр. 307 арк. 183.

[28] "Гродзенская праўда", № 25 ад 3 лютага 1963 г.





**Праект дэталёвай планіроўкі цэнтральнай часткі горада. 1966 г.**

абмяркоўвалі новы генплан – шырокаму кругу жыхароў горада пра гэта было невядома. Для гараджан у вітрынах крам па вул. Савецкай і часткова Ажэшкі былі выстаўлены чарцяжы, эскізы і макеты магчымай забудовы гістарычнага цэнтра горада. Свае ацэнкі і меркаванні яны маглі выказаць толькі на кухнях, бо ўсе рашэнні кампартыі і ўрада не маглі аніякім чынам крытыкавацца і атрымлівалі аднагалосную падтрымку.

Генеральны план 1963 г. паклаў пачатак адной тэндэнцыі – актыўнага наступу на гістарычную забудову. Асаблівасцю новага генплана было практычна поўнае знішчэнне гістарычнага цэнтра горада. Узяўшы за аснову з папярэдніх планаў ідэю прабіўкі праз гістарычны цэнтр новых магістраляў, архітэктары 60-х гг. XX ст. пайшлі далей. Вуліца К. Маркса павінна была стаць бульварам з паасобнымі палосамі руху і зносам усёй забудовы, як самай вуліцы, так і прылеглых кварталаў, у тым ліку і комплексу касцёла і манастыра Св. Брыгіды. Вуліца Замкавая, пасля збурэння ўсіх дамоў на ёй і прылеглых кварталаў, таксама ператваралася ў бульвар, які пачынаўся за пабудаваным да таго часу Палацам тэкстыльшчыкаў, і далей пераходзіў у новы парк. У дадзеным выпадку пад знос трапляў цэлы шэраг архітэктурных помнікаў, такіх, як Вялікая харальная сінагога, палац Храптовічаў, пажарная каланча і інш.

Савецкая вуліца, пасля зносу ўсіх пабудоў на 150 метраў у кожны бок, таксама мела ператварыцца ў бульвар з дзвюма паасобнымі палосамі руху. У гэтым выпадку цэнтр горада губляў не толькі гістарычную планіроўку вуліц Савецкай, Пасіянарыі (цяпер Калючынская), Энгельса (цяпер Гараднічанская), Урыцкага, Кашавога (цяпер В. Траецкая), Найдуса, К. Цэткін (цяпер Дамініканская), але і каштоўныя гісторыка-архітэктурныя помнікі, размешчаныя на гэтых вуліцах.

У першай палове 60-х гадоў на плошчы з'явіўся шэраг новабудоўляў. 30 кастрычніка 1963 г. дзяржкамісіяй быў прыняты падземны туалет у скверы на Савецкай плошчы, 19 лістапада 1964 г. яна прыняла 44-х кватэрны вуглавы жылы дом з аптэкай, які прылягаў да фабрыкі пальчаткавых вырабаў. Яшчэ раней былі збудаваны ў скверах абласная і гарадская Дошкі пашаны.

Незабудаваная пустка на месцы былога манастыра не была пакінута без увагі гарадскіх улад. У сакавіку 1964 г. гарвыканкам прыняў рашэнне: „*Адвесці Гродзенскаму трэсту сталовых і рэстаранаў зямельны ўчастак пляцам 0,3 га па вуліцы Маставой на развалінах былога касцёла, пад будаўніцтва трохпавярховага будынка „Кафетэрыя" па індывідуальным праекце*"[29].

Будова „Кафетэрыя" не была здзейс-

[29] ДАГВ Ф. 484 воп. 1 спр. 327 арк. 177.




**Праект вышыннага будынка Дома саюзаў. 1966 г.**

нена, і 24 траўня 1967 г. выканкам вырашае: „*Адвесці абласному упраўленню культуры зямельны ўчастак плошчай да 1,0 га, абмежаваны вуліцамі: Навазамкавай, Мастaвой, Старазамкавай, Завадской пад будаўніцтва гарадскога драматычнага тэатра на 800 месцаў па індывідуальным праекце*”[30]. Будаўніцтва тэатра пачалося ў 1976 г. і завяршылася праз 8 гадоў – у сакавіку 1984 г.

Былі зроблены спробы знайсці выкарыстанне сквера, які знаходзіўся на месцы збуранай Фары Вітаўта. Першапачаткова, 12 траўня 1965 г., выканкам гарсавета прыняў рашэнне: „*Адвесці Гродзенскаму гарвыканкаму зямельны ўчастак пад будаўніцтва Дома грамадскіх арганізацый на Савецкай плошчы (рог Замкавай і Кастрычніцкай)*”[31]. Праз два з паловай гады, а менавіта 22 лістапада 1967 г. з’яўляецца рашэнне пабудаваць тут ужо іншы будынак грамадскага прызначэння: „*Дазволіць Гродзенскаму абласному Савету прафесійных саюзаў праектаванне і будаўніцтва 16-ці павярховага будынка Дома саюзаў з глядзельнай залай на 400 месцаў на рагу вуліц Савецкай і Замкавай*”[32].

„Хмарачос” на Савецкай плошчы так і не з’явіўся, і самым высокім будынкам не толькі на плошчы, але і ў горадзе заставаўся касцёл Святога Францыска Ксаверыя – ці Фарны. Але і яму гарадскія ўлады вырашылі знайсці прымяненне. 19 красавіка 1967 г. гарвыканкам пастанаўляе: «*Разгледзеўшы становішча спраў у Фарным касцёле горада Гродна, выканкам Гродзенскага гарадскога Савета дэпутатаў працоўных лічыць, што рэлігійная супольнасць у далейшым не зможа забяспечыць належнага парадку і не мае грашовых сродкаў для ўтрымання і рамонту касцёла.*

*Улічваючы, што Фарны касцёл з’яўляецца гістарычным і архітэктурным помнікам, што знаходзіцца пад аховай дзяржавы і пры наяўнасці двух касцёлаў у горадзе са сталымі работнікамі культу (акрамя Фарнага) здольных задаволіць рэлігійныя запатрабаванні горада, выканкам Гродзенскага гарадскога Савета дэпутатаў працоўных вырашае*:

*Прасіць выканкам Гродзенскага абласнога Савета дэпутатаў працоўных зняць з рэгістрацыі рэлігійную суполку каталікоў Фарнага касцёла горада Гродна. Будынак касцёла перадаць гістарычнаму музею для выкарыстання як філіяла без права пераабсталявання*”[33].

У 1968 г. у скверы з’явіўся танк-помнік. Усталявалі яго на тым месцы, дзе спускалася шырокая лесвіца ў бок маста, які ў першай палове 60-х гадоў гараджане яшчэ не называлі Старым. Пасля ўводу ў эксплуатацыю ў 1971 г. маста на вул. Паповіча гродзенцы яго назвалі Новым, а мост па вул. Мастaвой сталі акрэсліваць Старым.

Пасля няўдалай спробы пабудаваць „Кафетэрый”, прадпрымаліся далейшыя спробы развіваць на пляцы сетку грамадскага харчавання. 22 траўня 1968 г. з’яўляецца рашэнне выканкама: „*Дазволіць Гродзенскаму трэсту сталовых і рэстаранаў усталяваць гандлёвы павільён „Турыст” у скверы каля бернардзінскага касцёла па вуліцы Крупскай-Падольнай*”[34]. Піўная побач са сценамі касцёла і кляштара была збудавана і на працягу некалькіх гадоў паспяхова дзейнічала.

А вось зрабіць з Фарнай аптэкі пасрэдную піўнушку не атрымалася і рашэнне ад 29 сакавіка 1972 г. не адбылося: „*Перадаць памяшканне былога*

[30] Тамжа, Ф. 484 воп. 1 спр. 367 арк. 13-15.

[31] Тамжа, Ф. 484 воп. 1 спр. 339 арк. 188-192.

[32] Тамжа, Ф. 484 воп. 1 спр. 370 арк. 183.

[33] Тамжа, Ф. 484 воп. 1 спр. 366 арк. 191.

[34] Тамжа, Ф. 484 воп. 1 спр. 390 арк. 258.

*аптэчнага склада на Савецкай плошчы трэсту сталовых і рэстаранаў пад размяшчэнне піўнога бара. Рашэнне выканкама пра перадачу гэтага памяшкання пад салон мэблі – адмяніць*"[35]. Разважнасць усё ж такі перамагла і памяшканне аптэкі піўной не стала – некалькі гадоў у ім працаваў мэблевы салон, а пасля адкрылася аптэка-музей.

Імклівае жыллёвае і прамысловае развіццё горада ўносіць свае карэктывы ў доўгатэрміновыя планы архітэктараў і ўжо да пачатку 70-х гадоў XX ст. генеральны план, які быў прыняты некалькі гадоў назад, губляе сваю актуальнасць. Да таго ж, гіганцкія праекты па зносе амаль усёй гістарычнай часткі горада патрабавалі велізарных фінансавых выдаткаў, і архітэктары прыйшлі да высновы аб неабходнасці карэкціроўкі адносна нядаўна зацверджанага генплана.

У 1970 г. з рэпартажу карэспандэнта „Гродзенскай праўды" Ф. Пугач жыхары горада даведваюцца, што мінскія архітэктары завяршаюць распрацоўку новага генеральнага плана развіцця горада на перспектыву 25-30 гадоў: „*Каго з нас, гродзенцаў не хвалюе пытанне*: *а якім горад будзе заўтра, праз пяць, праз дваццаць гадоў? Колькі ў ім будзе заводаў, вну, колькі стане нас, жыхароў? Усё гэта няпроста, злучана з дзесяткамі праблем, якія вырашаць трэба ў комплексе, зазіраючы далёка наперад.*

*Вось гэтым і займаюцца супрацоўнікі Мінскага філіяла Цэнтральнага навукова-даследчага і праектнага інстытута горадабудаўніцтва. На днях група, якая распрацоўвае план развіцця Гродна і вобласці, пабывала ў нашым горадзе. У аблпраекце адбылася сустрэча з архітэктарамі, будаўнікамі, грамадскасцю – з усімі непасрэдна зацікаўленымі людзьмі. …Галоўны архітэктар праекта Ю.І. Глінка, працягваючы паведамленне пра распрацоўку планіроўкі Гродна, распавядае і пра яго колькасны рост, і пра тэрытарыяльны. Горад пашырыцца, галоўным чынам, на поўнач і паўднёвы ўсход. Існуючыя цяпер паўночны і паўднёва-усходні прамысловыя раёны маюць усе магчымасці для*




**Праект забудовы паўночнага боку Савецкай плошчы. 1966 г.**

*забудовы і пашырэння, абодва яны добра размешчаны, імкнуцца да цэнтра, да ракі, да зон адпачынку.…Адмысловую ўвагу архітэктары засяродзілі на цэнтры нашага старажытнага горада. Яго багатая гісторыя абавязкова павінна знайсці адлюстраванне ў забудове.*

*Кафедра тэорыі і гісторыі архітэктуры Беларускага політэхнічнага інстытута вызначыла, што найболей цікавыя з пункту гледжання гістарычнага каларыту – вуліцы Замкавая, Карла Маркса, Савецкая, Савецкая плошча. Іх і вырашана пакінуць такімі, як яны склаліся гістарычна, не загрувашчваючы вышынным будаўніцтвам, будынкамі агульнагарадскога маштабу, але, вядома, грунтоўна добраўпарадкаваўшы. Дарэчы, „Белкамунпраект" у плане генеральнай забудовы горада дэталёва займаецца рэканструкцыяй цяперашняга цэнтра. Праводзілася сацыялагічнае абследаванне насельніцтва, якое пражывае на цэнтральных вуліцах, яно дапаможа вырашыць цэлы шэраг праблем.*

*На цэнтральных вуліцах не будзе нават легкавога руху! Кольца вакол – і толькі. Прадугледжваюцца транспартныя прыпынкі і буйныя стаянкі непадалёку, а вуліцы Савецкая, Энгельса, Урыцкага – гэта суцэльныя тратуары. Толькі мікратранспарта для турыстаў дазволена курсаваць па цэнтры*"[36].

4 кастрычніка 1971 г. гарвыканкам выносіць рашэнне: „*У мэтах азнаямлення шырокай грамадскасці з*

[35] Тамжа, Ф. 484 воп. 1 спр. 476 арк. 96.

[36] "Гродзенская праўда", № 232 ад 21 лістапада 1970 г.



Савецкая плошча. 1963 г.



Праект забудовы Савецкай плошчы. 1972 г.

*праектамі дэталёвай планіроўкі горада Гродна і рэканструкцыі яго цэнтральна-гістарычнага ядра 8 кастрычніка 1971 г. адкрыць выставу праектаў у выставачнай зале Мастацкага фонду БССР*"[37]. Выстаўка адбылася і з прадстаўленымі на ёй праектамі рэканструкцыі горада пазнаёміліся шматлікія гараджане. Мяркую, што немалую цікавасць уяўлялі б сёння зробленыя ў кнізе водгукаў запісы наведвальнікаў выставы.

Галоўнай адметнай асаблівасцю новага генеральнага плана 1973 г. з'яўлялася больш уважлівае і асцярожнае стаўленне да гістарычнай забудовы цэнтральнай часткі нашага горада. Былі вызначаны і функцыі асобных зон цэнтра Гродна. Гісторыка-культурны і турыстычны цэнтр – гэта раён, які прылягае да Савецкай плошчы. Раён плошчы Леніна – адміністрацыйная і дзелавая зона. Вуліцы Ажэшкі і Савецкая станавіліся гандлёва-абслуговым цэнтрам.

Адным з рашэнняў забудовы Савецкай плошчы была праектная прапанова архітэктара У.М. Еўдакімава, накіраваная на больш старанную арганізацыю тэрыторыі, якая прылягала да Савецкай плошчы. Як заўважае ў сваім даследаванні Ю.Н. Кішык: „*Была зроблена спроба як бы рэабілітаваць узніклыя без адзінай агульнай задумы будынкі – Палаца культуры тэкстыльшчыкаў, Дома аблсаўпрафа, Дома быту. Даволі шмат новых аб'ектаў па праекце размяшчалася на выгодных участках уздоўж пешаходнай вуліцы і на ўскрайку верхняй тэрасы. Месца былога фарнага касцёла, разабранага ў 1961 году, заняў невялікі, але выразны па аб'ёмнай пластыцы і буйнамаштабны грамадскі будынак. Ён не прэтэндаваў на ролю вышыннай дамінанты, але акцэнтаваў скрыжаванне новага пешаходнага бульвара і Замкавай вуліцы, падтрымліваючы фронт забудовы пляца. Яго функцыянальнае прызначэнне аўтарам злучалася з адкрыццём у горадзе Палаца шлюбаў*"[38].

Прапановы аўтараў чарговага генплана таксама ў большай ступені засталіся не здзейсненымі, і 70-80-я гады XX ст. прайшлі для галоўнага пляца горада без адмысловых узрушэнняў. Горад як бы прыцішэў у чаканні – яму яшчэ давядзецца перажыць новыя генеральныя планы рэканструкцыі і забудовы Гродна.

**Фота з калекцый Ю. Гардзеева, Ю. Кішыка, В. Саяпіна, А. Яршова, інтэрнэт-рэсурса old.grodno.net**

[37] ДАГВ, Ф. 484 воп. 1 спр. 463 арк. 186.

[38] Ю.Н. Кішык, *Градостроительная*..., с. 258-259.

# Гісторыя рэстаўрацыйнай думкі і пытанні аховы помнікаў

**Алесь Госцеў (Гродна)**
**Алесь Кіркевіч (Гродна)**

# Савецкая плошча як археалагічны помнік[1]

У сусветнай археалагічнай практыцы на сённяшні дзень існуюць дзве, быццам супрацьлеглыя, але і ўзаемадапаўняльныя навуковыя дысцыпліны: *музеефікацыя археалагічных помнікаў* і *археалагічнае музеязнаўства*. Музеефікацыя археалагічных помнікаў культуры далёкай мінуўшчыны вырашае праблемы кансервацыі, захоўвання і экспанавання пад адкрытым небам ці ў павільёнах буйных аб'ектаў: асобных участкаў культурнага слоя, стаянак, гарадзішчаў, крэпасцей, архітэктурных збудаванняў (якія пэўны час знаходзіліся пад зямлёю і выяўлены падчас раскопак). „*При этом упускается спектр вопросов, связанных с проблемами хранения и экспонирования отдельных археологических предметов и колекций*"[2]. Сказанае тычыцца асобнага інтэрдысцыплінарнага, археалагічна-музеязнаўчага напрамку, таму што нават „*каталогизация археологических предметов имеет свои особенности*"[3].

Асаблівасць археалагічнага музейнага захоўвання заключаецца перш за ўсё ў вялікай колькасці аднатыпных прадметаў ці іх фрагментаў. З гэтым можа параўнацца толькі нумізматыка, прычым як навука ўвогуле, таму што нумізматычныя прадметы, якія знойдзены падчас раскопак таксама адносяцца да археалогіі. Звычайна рэчы складаюцца са шматлікіх дэталяў. І тады ўзнікаюць пытанні: як іх улічваць і апісваць, што менавіта трэба разглядаць як адзінку захоўвання? У руках рэстаўратара некалькі адзінак захоўвання могуць пераўтварыцца ў адну. Магчыма і адваротнае – старая рэч можа разваліцца на некалькі кавалкаў. Археолагу-музейшчыку таксама трэба кіравацца прынцыпам "*наглядности и разъяснения посетителям функций, полных форм и использования тех или иных археологических предметов в культуре прошлого*"[4]. Гэта дасягаецца за кошт графічных прарысовак тых фрагментаў, якія адсутнічаюць; графічных і макетных рэканструкцый, якія ўключаюць у сябе і сапраўдныя рэчы. Асаблівасць археалагічнай знаходкі яшчэ і ў тым, што яна вырвана з кантэксту, "*мысленно восстановить который под силу археологу, но не обычному посетителю*"[5]. У сусветнай практыцы[6] музейная археалогія часцей за ўсё замыкаецца на:

а) музеефікацыі нерухомых археалагічных помнікаў;

б) рэканструкцыі асобных артэфактаў, якая ажыццяўляецца цэласна, з апорай на веданне агульнай культуры адпаведнага часу.

У нашай працы мы на канкрэтных прыкладах прадэманструем абодва гэтыя напрамкі.

Як вядома, у 2005 і 2006 гг. у Гродна адбывалася перабудова Савецкай плошчы. Нягледзячы на тое, што ніякіх ста-

[1] Выказваем шчырую падзяку Андрэю Чарнякевічу, Дзянісу Нарэлю, Яну Лялевічу, Яну Габісу, Андрэю Вашкевічу, Алене Фіронавай, Фёдару Іванавічу Ігнатовічу.

[2] И.Л. Тихонов, *Археологическое музееведение. Постановка проблемы // Музеология-музееведение в XX в. Проблемы изучения и преподавания. Материалы Международной научной конференции*, СПБ, 2009, с. 220.

[3] М.Х. Алешковский, *Очерк истории музейной каталогизации археологических источников (в связи с вопросом об эволюции форм научного описания музейных предметов // Обзоры научных каталогов памятников материальной и духовной культуры*, Москва, 1971, с. 41-42.

[4] И.Л. Тихонов, *Археологическое*..., с. 221.

[5] Е.В. Антонова, *Смысл археологической вещи и её контекст*, М, 2000, с. 15 // Труды Государственного Исторического музея, вып. 113, Москва, 2000; А.В. Жукова, *Возможности применения социоархеологического подхода в музейной экспозиции* // Труды Государственного Исторического музея, вып. 113, с. 46.

[6] И.Л. Тихонов, *Археологическое*..., с. 224.

ражытных будынкаў знесена не было, наша гісторыка-культурная спадчына панесла значныя страты. Справа ў тым, што Каменны сквер (ён быў закладзены ў паваенны час і ішоў паміж вуліцамі Маставая і Баторыя (былая Мяшчанская) ад Танка-помніка да плошчы Савецкай), хаваў пад сабой археалагічныя слаі, даўніна якіх налічвала пяць стагоддзяў. На яго месцы ў свае часы стаяў палац Радзівілаў, камяніцы Сапегаў і Валовічаў, рамесныя майстэрні, размяшчалася шчыльная жылая забудова.

Пасля бамбардзіровак у чэрвені 1941 г. квартал фактычна перапыніў свае існаванне. На тэрыторыі ж самой Савецкай плошчы і маленькага сквера Каменная кветка (насупраць Фарнага касцёла – у мінулым ён быў вядомы гарадзенцам пад назвай Бульвар) з даўніх часоў мясціўся Рынак (Ратуша з гандлёвымі радамі). Парэшткі жыццядзейнасці мелі часцей за ўсё арганічны характар і не пакінулі па сабе значнага археалагічнага следу. Таму наш аналіз тычыцца выключна знаходак з Каменнага сквера, на самой плошчы і на былым Бульвары. У выніку адзначаных маштабных будаўнічых работ гэтая прастора не была даследавана адпаведным чынам, а распрацаваны грунт быў вывезены самазваламі пад Замкавую гару (заходні схіл), паўночна-заходні ўскраек Каложскага парка і на скрыжаванне вуліц Горкага і Пушкіна (зараз там пракладзена новая вуліца імя Дубко). Усе гэтыя пункты таксама наведалі віўласы[7] - сябры краязнаўчай лабараторыі „Карані і вытокі”[8].

Неабходна падкрэсліць, што прадстаўлены намі матэрыял быў назапашаны незалежна ад нагляду гродзенскіх археолагаў з кафедры археалогіі ГрДзУ імя Янкі Купалы, якія ахапілі сваімі працамі невялічкі адсотак паднятай будаўнікамі зямлі (ля падмурка палаца Радзівілаў, паабапал т.зв. вуліцы Старой (спалучала Маставую і Мяшчанскую паміж сучасным гатэлем „Нёман” і гастраномам „Цэнтральны”), непасрэдна пад Танкам-помнікам і ўздоўж вуліцы Маставой (супраць пальчатачнай фабрыкі „Акцэнт” і кнігарні „Раніца”). Усе астатнія археалагічныя напластаванні ў раёне праводзімых будаўнічых работ былі страчаны для навукі назаўсёды.

Нам давялося абмежавацца знаходкамі, якія былі знойдзены менавіта ў зоне раскопаў археолагаў, а таксама ў катлаванах і траншэях, якія выкопваліся экскаватаршчыкамі. Гэта быў так званы „пад'ёмны матэрыял” (адшуканыя артэфакты, пакінутыя археолагамі ці выкінутыя на паверхню згаданай тэхнікай). У сувязі з ажыццяўленнем нетыповых мер у зоне земляных і будаўнічых работ выяўленыя матэрыялы былі сабраны, праўда, без магчымасці прафесійнага даследавання.

Па гэтых прычынах прадстаўленая праца не прэтэндуе на археалагічную дакладнасць (сапраўдную *навуковасць*). Як вядома, у археалогіі навуковую каштоўнасць маюць толькі знаходкі з дакладнай прывязкай да месца і слоя (за выключэннем індывідуальных знаходак, каштоўных у любым выпадку).

[7] Віўласы (ад фр. Viv la! – Няхай жыве!) – так сябе называлі філаматы; мы ж, як пераемнікі найлепшых традыцый нашых продкаў, таксама лічым сябе вартымі назвы „Жыццяздольныя” і гэтае права даказваем як пад час навучання ў ліцэі, так і ў наступныя гады самастойнага жыцця.

[8] Краязнаўчая лабараторыя „Карані і вытокі” ўзнікла ў 1995 г., калі вучні беларускіх гуманітарных класаў (Гродзенскі філіял Беларускага гуманітарнага адукацыйна-культурнага цэнтра) працягвалі свае навучанне ў СШ № 27 (яна рашэннем Савета дырэктароў гродзенскіх школаў была вызначана пад будучы гарадскі агульнаадукацыйны ліцэй). Асноўныя мэты лабараторыі – самавызначэнне і самарэалізацыя сродкамі навукова-даследчай краязнаўчай дзейнасці. Формы працы – экспедыцыі, паходы, семінары, навукова-практычныя канферэнцыі. Найбольш адметным вынікам дзейнасці лабараторыі з'яўляецца Музей ліцэя № 1 „Гісторыя педагогікі Гарадзеншчыны 12-21 стст.” Зараз Краязнаўчая лабараторыя „Карані і вытокі” – неад'емны сістэмны элемент шматаспектнай працы азначанага музея.

**Зводная табліца знаходак**
**(сістэматызацыя артэфактаў па матэрыялу і іх прыкладному характару):**

| Матэрыял | Асартымент | Бытавое прызначэнне |
|---|---|---|
| Гліна | кераміка | посуд<br>лялькі (цацкі)<br>люлькі |
| Гліна | будаўнічыя матэрыялы | кафля і кафляныя вырабы<br>дахоўка<br>цэгла |
| Шкло | шкляныя вырабы | посуд<br>аптэчны посуд |
| Метал | | манеты<br>цвікі<br>гільзы<br>завесы<br>падкоўкі на абутак |
| Метал | паасоб-ныя знаходкі | матрыца з тытунёвай фабрыкі<br>частка падсвечніка<br>падкова конская<br>сякера<br>іншыя побытавыя вырабы |
| Косць | | накладка<br>нарыхтоўкі |
| Скура | гарбарства | абутак |

І ў гэтым артыкуле мы даем агульную навукова-папулярную карціну нашых здабыткаў, якія датуюцца 15 - сярэдзінай 20 стст., якія, безумоўна, распавядаюць пра невядомыя старонкі гісторыі старой Гародні. Вынік нашых росшукаў абагульняе папярэдняя табліца.

## Кафля

Пачынаючы з 17 ст. кафляныя печы набываюць вялікую папулярнасць сярод гараджан, прычым як заможных, так і „сярэдняй рукі". Гэтым абумоўлена вялікая колькасць знаходак кафлі ва ўсіх больш-менш значных беларускіх гарадах. Наш горад не стаў выключэннем. Засяленне раёна плошчы ды сквера пачалося ў канцы 15-пачатку 16 стст. Гэтым жа часам датуюцца фрагменты гаршковай кафлі - самага архаічнага яе выгляду.

Знойдзены фрагменты практычна ўсіх вядомых тыпаў кафлі: сцянной, паясковай, каронак, кутняй і г.д. Самым распаўсюджаным арнаментальным матывам быў раслінны. Да таго ж можна асобна вылучыць папулярны ў 16 ст. матыў вазона з кветкамі і т. зв. арнамент „каванага металу", які адлюстроўвае сінтэз каваных металічных вырабаў з расліннасцю – яскравы прыклад часоў барока. На фрагментах кафлі можна ўбачыць гронкі вінаграду, шышкі хмелю, шыпшыну і безліч фантастычных „кветачак" і „лісточкаў", пераплеценых самым неверагодным чынам.

Фрагментаў кафлі з геаметрычным арнаментам было знойдзена вельмі мала (час яе распаўсюджання – першая палова 16 ст.). Выключэннем з'яўляецца толькі адзін тып кафлі 17 ст. з амаль кубістычнай фантасмагорыяй (мал. 1), чатыры фрагменты якога захоўваюцца ў нашай калекцыі. Аналагічныя тып удалося знайсці ў іншых месцах старога горада.



Мал. 1



Мал. 2



Мал. 2а



Мал. 2б



Мал. 2в



Мал. 3



Мал. 4

На наш погляд, найбольшую цікавасць складае геральдычная кафля. Даўні паўднёвы бок Рынка (стары сквер ля Савецкай плошчы) яшчэ ў 17 ст. аблюбавалі Радзівілы, побач з імі знаходзіліся камяніцы шляхты. Кафлі з выявамі арла (верагодна з палаца Радзівілаў) было вылучана як мінімум два тыпы (абодва датуюцца 17 ст.), а таксама некалькіх падтыпаў (праект рэстаўрацыі - мал. 2). Іх фрагменты былі самымі распаўсюджанымі кафлянымі знаходкамі на плошчы (мал. 2а, 2б, 2в), што сведчыць пра тое, што з іх, верагодна, была складзена не адна печ (да таго ж, аднаго тыпу сустракаліся і тэракотавыя, і паліваныя адзінкі).

Аднаму з гродзенскіх краязнаўцаў удалося засведчыць выпадак знаходкі фрагмента паліхромавай кафлі з „Трубамі" - гербам Радзівілаў. Такая пячная кафля звычайна была толькі адна сярод іншых, больш стандартных, і выразна вылучалася, займала галоўнае месца. Траплялiся экзэмпляры з асобнымі літарамі: „О", „Р", „І", „Е", „..." (першыя літары ад імя, прозвішча, тытула ды пасады ўладальніка). На адной з іх стаіць літара „R" - ці не „Радзівіл"? - (мал. 3). Быў знойдзены таксама фрагмент з выявай Пагоні (мал. 4), якая, верагодна, займала прыкладна трэць плошчы кафлі і разам з арлом па традыцыі з'яўлялася дадаткам да чыягосьці герба. Цікавымі можна палічыць знаходкі кафлі з жывёламі-шчытатрымальнікамі. З дзвюх знойдзеных, адна практычна цэлая (мал. 5). Яна мае форму простакутніка і прадстаўляе выяву льва ці, магчыма, гепарда (гледзячы па ўсім – 17 ст.). З аднаго боку яна не мае борціка, таму хутчэй за ўсё гэта быў комплекс з трох кафляў: дзвюх з жывёламі і адной з гербам.

На ўвагу заслугоўваюць фрагменты з мяркуемым гербам Сапегаў – „Ліс"; з выявай падкоўкі, шлема з пер'ем ды літарай "К". Да рэлігійна-міфалагічных сюжэтаў можна аднесці фрагмент з выявай анёла і крыжа, які датуецца першай паловай 16 ст. (мал. 6, 6а). Паліхромавая (каляровая) кафля заўсёды лічылася знакам заможнасці, таму не сустрэць яе ў гэтым раёне было б дзіўна (мал.



Мал. 5



Мал. 6



Мал. 6а

7). Некаторыя экзэмпляры вылучаюцца выключнай якасцю (часам нават з паліванай румпай – часткай, што прылягала да печы).

Сустракаліся знаходкі фрагментаў плоскіх распісных кафляў „галандскага тыпу" 18 ст. з раслінным арнаментам. Вялікая колькасць бракаваных экзэмпляраў кафлі 16-18 стст., безумоўна, сведчыць аб яе мясцовым вырабе. Час ад часу на фрагментах кафлі сустракаюцца сляды яе пазнейшага выкарыстання як другаснага будаўнічага матэрыялу: ненатуральная зношанасць ці сляды рошчыны на баку з выявай. Найбольш познім перыядам датуюцца знаходкі, якія выраблялiся на фабрыцы Друцкіх-Любецкіх у Станіславове (канец 19 - пачатак 20 стст.) у мадэрнавым і неабарочным стылі (мал. 8).



Мал. 7



Мал. 8



Мал. 9 -медальён



Мал. 10 - белая гліняная свістулька 18 ст. знойдзена на сметніцы за палацам Радзівіла

## Керамічны посуд

Найбольш раннія фрагменты посуду, знойдзеныя ў зоне адзначаных работ, адносяцца да 12-15 стст. (рыфлёная кераміка). Аднак такія знаходкі можна лічыць адзінкавымі. Масавыя знаходкі пачынаюць свой адлік з 16 ст. Фрагменты посуду 17-19 стст. трапляюцца на кожным кроку, што сведчыць пра актыўную жыццядзейнасць у дадзеным раёне.

Наўрад ці можна распавесці пра кераміку гэтага перыяду нешта новае ды цікавае – усё ўжо напісана значна раней. Мы сутыкнуліся з керамікай большасці вядомых тыпаў (тэракотавая, паліваная, дымлёная) і формаў (гаршкі, макотры, рынкі, міскі, збаны, талеркі, кубкі, куфлі ды інш.). Назбіралася і калекцыя фрагментаў распіснога посуду (ангобнага ды маёлікавага) з разнародным раслінным ды геаметрычным арнаментам. Было знойдзена некалькі фрагментаў зусім невялічкіх начынняў: аптэчных ці парфумных. Адзін з іх меў вельмі якасную сінюю паліву.

Удалося таксама натрапіць на імпартную прадукцыю: непаліваную белагліняную кераміку з Сілезіі і рэйнскі посуд (начынні з „каменнай масы"). На адным фрагменце бутэлькі цалкам відаць адціснуты медальён (мал. 9). З аналізу надпісу на невыразным медальёне можна зрабіць выснову, што бутэлька прызначалася для мінеральнай вады, і, на наш погляд, датуецца 19 ст. Хутчэй за ўсё была прывезена з Рыгі, якая менавіта ў гэты час разбурыла манаполію нямецкіх гарадоў на выраб посуду з „каменнай масы". Клеймы на фрагментах фарфору ды фаянсу 19 - пачатку 20 стст. кажуць пра шырокае выкарыстанне посуду з Расеі (пазней РСФСР), Польшчы, Нямеччыны ды Чэхаславаччыны.

## Шкло

Як лічаць даследчыкі, першыя гуты ў Гродне з'явіліся яшчэ ў 16 ст. У 1770 г. Антоні Тызенгаўз адчыніў каралеўскія мануфактуры, якія выпускалі выра-



Мал. 11 - Люлька тэракотавая, 18 ст.



Мал. 12



Мал. 13

бы са шкла. Улічваючы геаграфічнае становішча нашага горада, нельга забывацца і пра пэўную долю імпарту. Зыходзячы са сказанага, шкла ў археалагічных слаях павінна быць шмат. У гэтым атрымалася пераканацца падчас шпацыраў па месцы разбуранага сквера.

Сапраўды, шкла сустракалася немала, прычым самага рознага: бутлі і бутэлькі, кварты, шкляніцы з хвалістымі наляпнымі паясамі, тоўстасценныя чаркі, ручкі (як можна меркаваць, ад куфляў), аконнае шкло (як цыліндрычнае, так і прамавугольнае), келіхі і келішкі (ад грубаватых, з масіўнымі ножкамі 17-18 стст., да зграбных вытанчаных пачатку 20 ст.), стопкі (мал. 12), аптэчны посуд ды парфумныя начынні. Колер шкла вагаецца ад празрыстага да цёмна-зялёнага і цёмна-сіняга. Можна дапускаць, што адзін вельмі характэрны фрагмент кубка з выявай стылізаваных макаў паходзіць з налібоцкіх ці ўрэцкіх мануфактур Радзівілаў (мал. 13).

Абсалютная большасць вырабаў 17 – першай паловы 19 стст., на жаль, дайшла да нас у выглядзе фрагментаў (горлаў, сценак, донцаў і ножак), што абумоўлена крохкасцю матэрыялу. Вырабы канца 19 – пачатку 20 стст. акрамя звычайнага побытавага шкла (бутэлькі, размаіты сталовы посуд) прадстаўлены вялізнай колькасцю аптэчных начынняў розных памераў і формаў. Адной з самых распаўсюджаных была бутэлечка з празрыстага шкла каля 8 см вышыні з характэрным горлам для зручнага пераліву розных мікстур. Іх можна было выносіць са сквера цэлымі мяхамі. На адной бутэлечцы цёмна-зялёнага шкла збераглася этыкетка, на якой пры жаданні можна адчытаць надпіс па-нямецку. Колькасць такіх знаходак дае падставы меркаваць пра аптэкі ці аптэчныя склады, якія маглі мясціцца ў забудове, якая некалі стаяла на месцы збору матэрыялаў. Вялікая колькасць шкла была дэфармавана пад уплывам агню і нагадвае пра гарадскі пажар 1885 г., бамбёжку раёна сквера 22 чэрвеня 1941 г.

## Метал

Пры ідэнтыфікацыі металічных вырабаў мы сутыкнуліся з шэрагам складанасцяў. Па-першае, спецыяльная літаратура дазваляе датаваць шмат якія вырабы вельмі абстрактна, напрыклад на 14 - 18 стст. Па-другое, вырабы з жалеза, якія складалі абсалютную большасць, часцяком былі безнадзейна пашкоджаны часам, што выразна замінала правядзенне іх аналізу. Да ўсяго гэтага трэба дадаць яшчэ немагчымасць іх прывязкі да канкрэтных археалагічных слаёў.

Самай папулярнай знаходкай былі каваныя чатырохгранныя цвікі даўжынёй ад 5 да 25 см. Утылітарныя адносіны абумовілі нязменнасць формы, таму адрозніць каваны цвік 14 ст. ад яго аналага 19 ст. практычна немагчыма. Нягледзячы на гэта, траплялся і экзэмпляры з пабольшанай выгнутай пляшкай (да 3,5 см), што сведчыць аб дэкаратыўным моманце выкарыстання: на куфрах і уязных брамах. Сустракаліся і металічныя элементы дзвярэй. Цікавасць выклікала завеса з двума S-падобнымі адгалінаваннямі, разыходзячыміся ў розныя бакі (16-17 стст.) (мал. 14). Была знойдзена пад-



Мал. 14 - завеса

борка кручкоў-зашчапак, выробленых з пласціны, засаўка, а таксама ўнутраны замок. Час ад часу трапляліся дугападобныя шыпавыя падкоўкі для абутку 16-18 стст., была выяўлена адна конская падкова. Сярод знаходак можна вылучыць таксама лязо нажа, ланцуг, скрабло, кавалкі свёрлаў і іншыя прадметы.

Каб адназначна сцвердзіць факт прыналежнасці некаторых рэчаў, трэба дасканала ведаць тонкасці тэхналогіі рамяства 16-19 стст., чым не заўсёды могуць пахваліцца нават прафесійныя археолагі. З-за моцнай пашкоджанасці, а таксама вышэйзгаданых прычын некаторыя прадметы засталіся неідэнтыфікаванымі. З т.зв. мілітарый можна вылучыць кулю ад вінтоўкі Мосіна, гільзу ад зяніткі і парэшткі ад бляшанкі з-пад набояў. Сярод знойдзеных манет: польскі солід-баратынка 1664 г., ½ капейкі 1899 г., 15 капеек 1865 г., савецкая „дробязь" 40-50-гадоў 20 ст.

Існуюць дакладныя звесткі аб знаходцы, адкрытай недзе ў зоне сквера, сярэбранага чатырохграшовіка Жыгімонта Аўгуста, які быў за бесцань здадзены ў адну з гродзенскіх антыкварных крамаў, сёння ж знаходзіцца ў адной з прыватных калекцый. Цікавай знаходкай можна лічыць невялічкую матрыцу (9 х 4 см), з дапамогай якой друкавалі налепкі на пачкі тытуню ці папіросаў. З-пад іржавасці праглядае люстэркава зроблены надпіс: „І. Л. ШЕ..." (Шарашэўскі!). Яго тытунёвая фабрыка размяшчалася побач, у будынку сённяшняй пальчаткавай фабрыкі „Акцэнт".

## Косць

Знойдзеных вырабаў з гэтага матэрыялу ўсяго тры: дзве касцяныя нарыхтоўкі са слядамі апрацоўкі і частка сярэднявечнай касцяной накладкі з салярным сюжэтам і цыркульным арнаментам (мал. 15). Накладка мела круглую форму дыяметрам прыблізна 18 см (праект рэканструкцыі – мал. 15а) і магла месціцца, напрыклад, на калчане для стрэлаў. На ўсёй тэрыторыі сквера было знойдзена безліч костак, рагоў жывёлы, але з-за адсутнасці метадаў даследавання, неабходных для іх ідэнтыфікацыі, гэты матэрыял не назапашваўся.

На заканчэнне толькі адзін прыклад з сусветнага вопыту. „*Не схоластические абстрактные модели...*, *а конкретные экспозиционные решения, способы подачи материала, варианты оборудования, неожиданные подходы – вот что нужно будущим создателям археологических экспозиций… Культурнохронологическая стратиграфия остатков разных эпох - Парижский музей La crypte archeologique du parvis Notre-Dame. Его главная „изюминка": музеефицированные и сохранённые in situ остатки оборонительных стен, сооружений, построек и даже собора Св. Этьена (от 1 тыс. до н.э.*); *всё это в прохладном и пустынном подземелье, под площадью, перед фасадом осаждаемого туристами Собора Парижской Богоматери – если хочется увидеть остатки Лютеции галло-римской эпохи, надо нажать красную кнопку специального стенда и красноватый свет высветит их*; *для остатков эпохи Меровингов – синяя кнопка; средневековые стенды и постройки освещаются жёлтым светом*"[9].

Коратка падсумоўваючы, дзякуючы сабраным і апісаным знаходкам, можна ўпэўнена сцвярджаць, што Савецкая плошча ў Гродне з пункту гледжання археалагічнага помніка ці музея пад адкрытым небам заслугоўвае на самую пільную увагу. Але, паколькі сённяшняя рэчаіснасць не пакідае аніякіх шансаў на фактычнае ажыццяўленне падобнага праекта, застаецца варыянт віртуальнай музеефікацыі сучаснай плошчы як археалагічнага помніка – стварэнне камп'ютарнай мадэлі падземнай прасторы, пачынаючы ад Танка-помніка да магазіна "Ратушны" і будучай гасцініцы "Муравьёфф". Відавочна, што такая праца пад сілу толькі калектыву, які, на нашу думку, можа скласціся з археолагаў ГрДзУ імя Янкі Купалы і ўсіх зацікаўленых аматараў гарадзенскай мінуўшчыны.



**Мал. 15 знаходка І. Лапехі**



**Мал. 15а - касцяная накладка**

[9] И.Л. Тихонов, *Археологическое...*, с. 225; www.evene.fr/.../crypte-archeologique-du-parvis-de-notre-dame-80.php - Crypte archéologique du parvis de Notre-Dame - Paris - EVENE.

Аляксандар Краўцэвіч (Гродна)

# Ахоўная зона культурнага слоя Гародні

Вызначэнне ахоўнай зоны культурнага слоя горада Гародні адбылося ў 1988 г. у межах праграмы па распрацоўцы ахоўных зонаў гістарычных цэнтраў беларускіх гарадоў. Падставай для яе стала „Руководство по планировке и застройке городов с памятниками истории и культуры", выдадзенае ў Маскве ў 1980 г.[1]

Ахова павінна была ахапіць аб'ект пад назвай „культурны слой", які атрымаў наступную дэфініцыю: „напластаванні зямлі, узнікшыя ў выніку жыццядзейнасці чалавека, якія ўтрымліваюць матэрыяльныя парэшткі гэтай дзейнасці, такія як прылады працы і побыту, узбраення, рэшткі жылых і гаспадарчых пабудоваў і г.д."[2]

У 1987 – 1988 гг. былі праведзены спецыяльныя раскопкі з мэтай выяўлення арэала распаўсюджвання і дацiроўкі культурнага слоя ў розных частках гістарычнага цэнтра[3]. Былі выкарыстаны таксама даныя інжынерна-геалагічнага бурэння. У залежнасці ад каштоўнасці і таўшчыні культурных наслаенняў было выдзелена тры ўчасткі аховы з розным рэжымам аховы.

**1. Археалагічныя запаведнікі**: **Стары замак** – старажытны цэнтр горада, дзе пачынаючы з канца 10 ст. да нашага часу адклаўся культурны слой таўшчынёй 9 м. У ім выдатна захоўваюцца арганічныя рэчывы: драўляныя пабудовы, скураныя вырабы, тканіны, насенне. Гэтае месца было шчыльна забудавана ва ўсе гістарычныя эпохі. Археалагічныя раскопкі выявілі тут вуліцы 11 – 16 стст., вымашчаныя дрэвам і агароджаныя сядзібы. На Старым замку сфарміраваўся ўнікальны комплекс мураванай архітэктуры. У яго ўваходзяць: помнікі гарадзенскай архітэктурнай школы 12 ст. – Ніжняя царква, княскі церам, фрагменты сценаў; парэшткі замка Вітаўта, Верхняя царква канца 14 – пачатку 15 ст.; замак Стэфана Баторыя 16 ст.[4]

**Новы замак –** асноўная частка гарадскога пасада 11 – 14 ст. – вакольны горад. Культурны слой тут мае магутнасць 3 м. Раскопкі 1987 – 1988 гг. выявілі сляды разбурэння мураванага храма 12 ст. – Васкрасенскай царквы[5].

**Тэрыторыя вакол царквы Барыса і Глеба на Каложы**. Археалагічныя раскопкі выявілі тут у культурным слаі таўшчынёй 1,5 – 2 м парэшткі заглыбленых у мацярык жылых і гаспадарчых пабудоваў 12 – 13 ст. Была сабрана багатая калекцыя прыладаў працы і побытавых рэчаў, у тым ліку скарб з сошнікаў і сярпоў. Гэта адзінае месца ў горадзе, дзе археалагічным даследаванням не перашкаджае забудова, а культурны слой амаль не перамешаны[6].

**Тэрыторыя былога кляштара базыльянак**. Культурны слой тут мае таўшчыню 2,5 – 3 м. У 1980 г. была адкрыта і даследавана мураваная Прачысценская царква 12 ст. Слой насычаны матэрыяламі 11 – 18 стст.: керамічным посудам, кафляй, прадметамі ўзбраення[7].

**Рэжым аховы**: На археалагічных запаведніках забаронена весці земляныя работы акрамя археалагічных раскопак

[1] *Руководство по планировке и застройке городов с памятниками истории и культуры*, Москва, 1980, с. 95-119.

[2] Тамсама.

[3] А. Краўцэвіч, *Гарады і замкі Беларускага Панямоння XIV – XVIII стст.: Планіроўка, культурны слой*, Мінск, 1991, с. 33, 57-58.

[4] Воронин Н.Н., *Древнее Гродно*, Москва, 1954.

[5] А. Краўцэвіч, Гарады і замкі Беларускага Панямоння..., с. 71.

[6] А. Трусаў, А. Краўцэвіч, *Археалагічнае даследаванне Барысаглебскай царквы і манастыра ў Гродне* // Беларускі Гістарычны Часопіс, 1994, № 4, с. 17-21.

[7] Н. Здановіч Н., А. Краўцэвіч, *Старажытны цэнтр Гродна* // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1985, № 1, с. 38-39.




і аварыйных прац (рамонт існуючых камунікацый і інш.). Аварыйныя працы вядуцца пад кіраўніцтвам спецыяліста-археолага.

**2. Участак залягання культурнага слоя 11 – 17 стст.**

У яго ўваходзіць тэрыторыя неўмацаванага сярэднявечнага пасада. Яна характарызуецца вялікай плошчай, шчыльнасцю існуючай забудовы і амаль не вывучана археалагічна. Таўшчыня культурнага слоя складае 1,5 – 3 м. У ім утрымліваюцца парэшткі сядзібаў 14 – 17 стст., руіны храмаў, шматлікія рэчы. У гэты ўчастак уключана таксама тэрыторыя, якая прылягае да пл. Тызенгаўза – частка былой Гараднiцы. Тут не выяўлена матэрыялаў, старэйшых за 18 ст., але затое яны прадстаўлены вельмі багата[8].

У раёне Рынка (сучасная Савецкая плошча) у выніку правядзення геадэзічнага свідравання і археалагічных раскопак зафіксаваны культурны слой магутнасцю 2,7 – 5,2 м, насычаны будаўнічымі матэрыяламі і парэшткамі масавай матэрыяльнай культуры[9]. (Падчас рэканструкцыі плошчы ў 2005 – 2006 г. у ходзе земляных работ з выкарыстаннем экскаватара была выяўлена (і знішчана) майстэрня па вырабу цацак, гарбарная майстэрня, парушаны фрагменты драўляных канструкцый ў ніжняй частцы культурнага пласта).

**Рэжым аховы**: На ўчастку не выключана будаўніцтва, але толькі пасля папярэдніх археалагічных даследаванняў на месцы размяшчэння будаўнічага аб’екта. Раскопкі праводзяцца коштам арганізацыі-будаўніка.

Пра дакладнае месца будаўніцтва неабходна інфармаваць археалагічныя установы за 2 гады да пачатку прац. Гэты тэрмін вызначаны па той прычыне, што культурны слой таўшчынёй каля 2 м археолагі могуць раскапаць за два палявых сезоны.

**3. Участак, які можа быць уключаны ў ахоўную зону, калі на ім будуць адкрыты гістарычна і культурна**

[8] Краўцэвіч А.К. *Гарады і замкі Беларускага Панямоння*..., с. 45.

[9] Тамсама, с. 33.

**каштоўныя археалагічныя аб'екты.** На гэтым участку не выключана выяўленне сярэднявечных помнікаў, якія звычайна выносіліся за межы пасада: кузні, піваварні, печы для абпалу цэглы.

* * *

Прыведзены вышэй тэкст – вытрымкі з тлумачальнай запіскі да „Схемы ахоўнай зоны культурнага слоя Гародні", складзенай мной у 1988 г. Ахоўная зона была зацверджана Гарадзенскім гарвыканкамам і, такім чынам, набыла юрыдычны статус.

Іншая справа – практыка захавання рэжыму аховы. Фактычна, палажэнні аховы не выконваюцца. Земляныя работы найчасцей праводзяцца без інфармавання археалагічных установаў (у Гародні акрамя Гісторыка-археалагічнага музею існуе таксама кафедра археалогіі ва ўніверсітэце). Рэканструкцыйныя работы ў цэнтры горада ў 2005 – 2006 гг. былі праведзены з грубейшымі парушэннямі міжнародных канвенцый, ратыфікаваных Беларуссю, існуючага заканадаўства краіны, практычна з ігнараваннем рэжымаў аховы і ўжо прывялі да буйных стратаў культурнага слоя[10]. Так, груба парушаны:

- указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь 7 жніўня 1996 г. № 286 „Аб падпісанні Еўрапейскай канвенцыі аб ахове археалагічнай спадчыны"[11];

- пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь № 651 ад 22 мая 2002 г. „Аб зацвярджэнні палажэння „Аб ахове археалагічных аб'ектаў пры правядзенні земляных і будаўнічых работ"[12];

- закон Рэспублікі Беларусь "Аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны" 9 студзеня 2006 г. (№ 98-З)[13]. Адказнасці за гэта ніхто не панёс, нягледзячы на звароты грамадскасці ў органы аховы і пракуратуру.

---

[10] *Краязнаўчы альманах „Горад святога Губерта".* Спецыяльны выпуск. Гісторыя Гародні XXI ст. Хроніка знішчэння, Sejny, 2006.

[11] http://www.lawbelarus.com/repub2008/zak1996/pag6.htm;

[12] http://pravo2004.by.ru/allbase/y2002/m05/doc07558.shtm.

[13] http://spravka-jurist.com/base/part-wx/tx_cszuly.htm.

# Гісторыка-архітэктурны апорны план рэканструкцыі Савецкай плошчы 2003 года

Публікуемы праект быў складзены архітэктарамі Аленай Пархутай і Барысам Шмыгай. Абапіраецца на гістарычнай даведцы, падрыхтаванай Ігарам Трусавым. Дакумент змяшчае звесткі пра найбольш знакавыя аб’екты галоўнай плошчы горада – старадаўняга Рынка, у тым - тапанімічны матэрыял цэнтра горада. Праца базіруецца на багатых іканаграфічных крыніцах – фотаздымках канца 19 - сярэдзіны 20 стст. Гісторыка-архітэктурны план мае 8 аркушаў. Змяшчае аналіз урбаністычнай кампазіцыі ды схему відавых пунктаў іканаграфічнага матэрыялу.

Аналіз горадабудаўнічай эвалюцыі прадстаўлены ў 4-х перыядах:

1) на аркушы, які датуецца 1376-1569 гг., ілюструецца першы этап горадабудаўнічага развіцця Рыначнай плошчы. На ім пазначаны Фарны касцёл, ратуша, старажытная карчма, а гэтак жа іншыя сядзібы.

2) на аркушы, які ахоплівае перыяд 1569-1795 гг., натуецца фарміраванне комплексу езуіцкага кляштара, магнацкай і мяшчанскай забудовы.

3) на аркушы „1795-1939 гг.” фіксуюцца тагачасныя змены архітэктурнага аблічча (дом Мураўёва ды некалькі перабудоў Фары).

4) на аркушы „1939 г. – да нашага часу” аўтары звяртаюць увагу на парушэнне горадабудаўнічай цэласнасці плошчы ў выніку Другой сусветнай вайны і ажыццяўлення генплана Гародні 1946-1949 гг. Да іх ліку належала канчатковае знішчэнне часткі гістарычнай забудовы (будынка былой ратушы ці палаца Радзівілаў), а гэтак жа Фары ў 1961 г., узвядзенне новых будынкаў, якія парушылі маштабнасць ансамбля плошчы. На аркушы пазначаны сквер, пасаджаны ў пасляваенны перыяд на месцы знішчанага квартала, што мясціўся паміж вуліцамі Крупскай (цяперашняя Баторыя) і Мастavой.

Нельга выключыць магчымасці, што згаданы эскізны праект рэканструкцыі Савецкай плошчы мог з’явіцца падставай далейшых крокаў, накіраваных на горадабудаўнічае аднаўленне забудовы гістарычнага цэнтра Гародні.





**Аркуш №1 - 1376-1569 гг.**



**Аркуш №2 - 1569-1795 гг.**



**Аркуш №3 - 1795-1939 гг.**



**Аркуш №4 - 1939 г.**



**Эксплікацыя**



**Іканаграфічны матэрыял**

Андрэй Мацук (Мінск), Юры Гардзееў (Кракаў)

# Інвентар палаца Сапегаў 1748 г.

У першым выпуску крыніц публікуецца інвентар палаца Сапегаў, што стаяў у гарадзенскім Рынку[1]. Дакумент, складзены ў 1748 г., паходзіць з фонда гродскага суда Гарадзенскага павета і захоўваецца ў зборах Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі ў Мінску[2].

Да складання інвентара спрычыніліся да канца невысветленыя здарэнні, у выніку якіх палац быў моцна пашкоджаны. Рамонтныя работы былі запачаткаваны ўжо ў 1748 г. Аналіз тэксту дае ўяўленне аб знешнім выглядзе палаца, інтэр'еры будынка і яго ўпрыгожанні (скульптурах, ляпной гіпсавай аздобе, печах з зялёнай кафлі, мармуровых камінах). Цікавым падаецца факт таго, што падчас соймаў у палацы затрымоўваўся кароль Аўгуст ІІ.

Уладальнікам гарадзенскага палаца быў Міхал Антоні Сапега (нарадзіўся 10 ці 12 сакавіка 1711 г. у Караляўцы). Сын вялікага маршалка ВКЛ Аляксандра Паўла і Марыі Крысціны дэ Бецюн. Займаў урады лоўчага ВКЛ з 1739 г., падляшскага ваяводы (з 1746 г.), падканцлера ВКЛ (з 1752 г.). Пасля смерці стрыечнага брата троцкага кашталяна Антонія Казіміра Сапегі ў 1739 г. становіцца яго галоўным спадкаемцам, што прыводзіць да канфлікту з сястрой памерлага - Саламеяй Аннай, падтрыманай Радзівіламі. Канфлікт з Радзівіламі ўзмацніла памкненне Міхала Антонія і Юзафа Станіслава Сапегаў стаць апекунамі сыноў памерлага брата Казіміра Леона, Аляксандра і Міхала Ксаверыя насуперак іх маці Караліне з Радзівілаў. Апагей канфлікту прыпадае на 1740–1743 гг.

У 1743 г. Міхал Антоні Сапега становіцца маршалкам Трыбунала ВКЛ, што паскорыла яго перамовы з Радзівіламі па спрэчных справах. У выніку кампрамісу Сапегі атрымалі апякунства над Аляксандрам і Міхалам Ксаверыям Сапегамі. Заканчэнне справы прынесла толькі часовае прымірэнне паміж магнацкімі радамі. 25 лістапада 1747 г. памірае другая жонка Міхала Антонія Сапегі - Тэкля, якая была сястрой вялікага гетмана ВКЛ і віленскага ваяводы Міхала Казіміра Радзівіла. Спрэчкі аб спадчыне па Тэклі з Міхалам Казімірам Радзівілам канчаткова схілілі Міхала Антонія да саюза з магнацкай групоўкай Чартарыйскіх, які быў замацаваны 19 лістапада 1748 г. шлюбам Міхала Антонія Сапегі з дачкой падканцлера ВКЛ Міхала Чартарыйскага, Аляксандрай. На сойме 1752 г., дзякуючы падтрымцы цесця, канцлера ВКЛ Міхала Чартарыйскага, атрымоўвае ад караля малую літоўскую пячатку. У 1757 г. працаваў над прымірэннем Фаміліі і Радзівілаў. Наблізіўся да апошніх і менавіта яго нейтральная пазіцыя падчас рэасумпцыі 1757 г. прывяла да перамогі радзівілаўскай групоўкі. Канчаткова парваў з Чартарыйскімі пасля сойма і Рады Сената 1758 г., калі насуперак волі іншых лідэраў Фаміліі паставіў пячатку пад дыпломам каралевіча Караля на Курляндыю.

У рамках супрацоўніцтва з Радзівіламі на наступным Трыбунале ВКЛ 1759 г. яго маршалкам быў абраны пляменнік Міхала Антонія, Міхал Ксаверы. Падчас яго працы пачалося ахалоджванне адносінаў з Радзівіламі. У выніку ў час трыбунальскіх выбараў 1760 г. Міхал Антоні выступаў самастойна і не мог уплываць на размеркаванне пасадаў. У гэты час цяжка захварэў і памёр у Слоніме 11 кастрычніка 1760 г.[3]

Гарадзенскі палац дастаўся Міхалу Антонію Сапезе ў выніку доўгага высвятлення маёмасных адносін у 1748

[1] У літаратуры згаданая сядзіба, што стаяла на рагу даўняй Азёрскай і галоўнага Рынка, памылкова называецца Баторыеўкай.

[2] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі, Ф. 1711 воп. 1 спр. 37 арк. 491адв-494адв.

[3] Міхал Антоні Сапега (1711-1760), ваявода падляскі (1746-1752) (А. Мацук, *Сапега Міхал Антоні* // *Энцыклапедыя Вялікага княства Літоўскага*, т. 2, Мінск, 2006, с. 543; P. Romaniuk, *Sapieha Michał Antoni* // *Polski Słownik Biograficzny* (далей *PSB*), t. 35, Wrocław, 1994, s. 110-115).

г. Спачатку яму прыйшлося высвятляць іх з дачкой мсціслаўскага ваяводы Юрыя (Ежы) Сапегі - Крысцінай Розай, якая выйшла замуж за ваўкавыскага гродскага старасту Казіміра Масальскага. Другім спадкаемцам Юрыя (Ежы) Сапегі быў троцкі кашталян Антоні Казімір Сапега, які памёр 16 мая 1739 г. Антоні Казімір Сапега галоўным сваім спадкаемцам вызначыў стрыечнага брата Міхала Антонія Сапегу. Такім чынам, Масальскія і Сапегі сталі прэтэндэнтамі на спадчыну Юрыя (Ежы) Сапегі. Усе спрэчныя пытанні Масальскія і Сапегі меркавалі вырашыць падчас перамоў у Вільні, якія распачаліся 6 красавіка 1748 г. Перамовы праходзілі цяжка, некалькі разоў ледзь не былі сарваны і скончыліся толькі 25 красавіка. Паводле дамовы Сапегам даставаліся Шкуды, антокальскі палац у Вільні і вялікі гарадзенскі палац. Масальскія атрымалі Ружаны, Крэтынгу, Карцяны, гарадзенскі малы палац і віленскі палац, які знаходзіўся ў трыманні ў дамініканцаў[4].

Другой дамовай, на падставе якой гарадзенскі палац пераходзіў да Міхала Антонія Сапегі, сталі ўнутрысямейныя дамоўленасці Сапегаў у сувязі з паўналеццем Аляксандра Сапегі. Гэта быў сын памерлага брата Юзафа Станіслава і Міхала Антонія Сапегаў – генерала артылерыі ВКЛ Казіміра Леона. Згодна з перамовамі паміж братамі, якія прайшлі ў Слоніме ў верасні 1748 г., віленскім каад'ютарам Юзафам Станіславам і падляшскім ваяводай Міхалам Антоніем Сапегамі з пляменнікам Аляксандрам Сапегай гарадзенскі палац сярод іншых уладанняў канчаткова быў прызнаны ўласнасцю падляшскага ваяводы[5].

Пры падрыхтоўцы першакрыніц да друку ў асноўным былі выкарыстаны польскія метадалагічныя нормы і інструкцыі па выданню польскамоўных крыніц[6], г. зн. тэкст набліжаны да сучасных польскіх норм пунктуацыі і арфаграфіі.

Тэкст інвентара напісаны разборлівым почыркам, без абзацаў, з рэдкімі ініцыяламі і пранумараваны. Першы аркуш дакумента сведчыць аб шматлікіх зменах пагінацыі, выкананых у 18–20 стст. чарніламі і алоўкам. Познія дапісы ў тэксце адсутнічаюць. Чарніла чорнае. Мова крыніцы – польская. Лацінскія выражэнні, а таксама старапольскія словы тлумачацца ў спасылках.

У публікуемым інвентары палаца Сапегаў прасочваюцца нешматлікія праявы беларускага ўплыву на польскую мову. Гэта прыклады флектыўнага беларускага чаргавання тыпу ***г /ź***: *Sapiezie* ці *Сапезе*) ці мяккае вымаўленне беларускага ***г***: *Sapie**hi***[7]**.**

**Скарачэнні**

J° Km, J°KMci - Jego Królewska Mość (Jego Królewskiej Mości)

J W°JmP - Jaśnie Wielmożny Jego Mości Pan (Jaśnie Wielmożnego Jego Mości Pana)

JWu Jm Panu - Jaśnie Wielmożnemu Jego Mości Panu

JW° - Jaśnie Wielmożnego

---

[4] Нацыянальная бібліятэка ў Варшаве, BOZ 941, арк. 478-479.

[5] Нацыянальная бібліятэка ў Варшаве, BOZ 941, арк. 497.

[6] *Instrukcja wydawnicza dla średniowiecznych źródeł historycznych*, oprac. Komisja Historyczna PAU, Kraków, 1925; *Instrukcja wydawnicza dla źródeł historycznych od XIV do połowy XIX wieku*, pod red. K. Lepszego, Wrocław, 1953; *Instrukcja wydawnicza*: *edytorskie zasady opracowania tekstów monograficznych i źródłowych, przygotowania maszynopisów oraz materiału ilustracyjnego*, Wrocław, 1956.

[7] Z. Kurzowa, *Język polski Wileńszczyzny i kresów północno-wschodnich XVI-XX w*., Warszawa-Kraków, 1993, s. 94-99, 104-105, 116-161.

нення той факт, што атрымаць вычарпальнае асвятленне ўсіх пытанняў яе гісторыі не прадстаўляецца магчымым. Гэта пакідае поле для гіпатэтычнасці выказванняў.

Можна пагадзіцца з Ігарам Трусавым ў тым, што арцель Пятра Міланега мела неблагі будаўнічы досвед і ўяўленні аб аптымальным выбары месца будоўлі. У сувязі з гэтым насоўваецца пытанне ці такім зручным месцам мог быць бераг ракі? Можа таму напэўна арцель... не ўзвяла царкву на стромым беразе Нёмана? Ці інакш кажучы, берагавая лінія ракі ў 12 ст. была высунута значна далей, на поўдзень. На такое дапушчэнне дазваляе аналіз іканагарфічных крыніц - гравюр 16 ст. ды планаў 18 ст. і пазнейшых малюнкаў Міхала Кулешы ды Напалеона Орды. Як можна меркаваць, супастаўленне месцазнаходжання царквы, яе „перасоўванне" у бок рачной лініі дае агульныя ўяўленні аб эвалюцыі форм даўняга ландшафту і гідраграфічнай сеткі, у тым перамяшчэнні рэчышча ракі, якая ў 18 ст. пачала насоўвацца на берагавыя тэрасы[9].

Нельга не звярнуць увагу на ўдалую спробу заглыблення ў свет сярэднявечных будаўнічых тэхналогій. Аўтар не проста характарызуе архітэктурнамастацкія асаблівасці царквы, але закранае пытанне вытворчага працэсу цэглы, рошчыны ці маёлікавай пліткі. Не з усімі яго палажэннямі можна пагадзіцца. Напрыклад, з тым, што цэглу выраблялі сяляне. Гэтым хутчэй за ўсё займаліся рамеснікі, якім і прыналежалі прыватнаўласніцкія знакі на цэглах.

Недастаткова абгрунтаваным можна палічыць тэзіс пра генетычную повязь дэкору фасада царквы са старажытнаславянскімі мастацкімі традыцыямі вышыўкі і ткацтва (с. 51). Аўтар не прыводзіць аніводнага пацверджання сваёй гіпотэзы. Па гэтай прычыне нельга адкінуць магчымасці ўплыву архітэктурнага мастацтва Балканаў, якое характарызавалася прастатой аздаблення фасадаў, іх упрыгожання цаглянай муроўкай ці маёлікавай пліткай.

Трусаў прапануе сваю версію паходжання слова „Каложа", адкідаючы версію яе вывядзення ад прадмесця Пскова. На думку гісторыка назва звязана з урочышчам, у якім білі крыніцы ці адбываліся пахаванні. Можна меркаваць, што і гэта гіпотэза варта ўвагі, тым самым заслугоўвае на дадатковую аргументацыю.

Аўтар адносіць з'яўленне ў царкве іконы Каложскай Маці Божай на канец 17 ст. Прычым спасылаецца на выразна састарэлую публікацыю Яўстафія Арлоўскага ў 1910 г. (с. 53). Нельга з дакладнасцю сцвердзіць, калі ў царкве ікона з'явілася. Яе культ датуецца пачаткамі 17 ст.[10]

Безумоўна, адным з найбольш каштоўных фрагментаў кнігі можна палічыць новыя графічныя крыніцы па гісторыі царквы на Каложы, адкрытыя Ігарам Трусавым у пецярбургскіх архіўных сховішчах. Гэта абмеры 1852 г., аналіз трох апоўзняў 1853, 1864, 1889 гг. ці праекты рэканструкцыі царквы.

Пераходзячы да падсумавання, хацелася б звярнуць увагу яшчэ на адну немалаістотную дробязь. Даволі часта Аўтар спасылаецца на свае, на жаль, не заўсёды апублікаваныя вынікі рэстаўрацыйных даследаванняў, якія былі прызначаны для ўнутранага ўжытку спецыялістаў-рэстаўратараў. Па гэтай прычыне цяжка азнаёміцца з крыніцамі яго працы, а таксама зразумець высновы, якія успрымаюцца чытачом як безапеляцыйныя сцвярджэнні.

У той жа час не выклікае пярэчанняў той факт, што недахоп крыніц не мог не прычыніцца да гіпатэтычнасці разважанняў Аўтара. Аднак можна канстатаваць, што Ігар Трусаў абапірае свае высновы на шматгадовым досведзе правядзення архіўных пошукаў, у выніку спалучэння якіх з іншымі метадамі гісторыка-рэстаўрацыйных даследаванняў, яго гіпотэзы не маюць формы пагоні за таннымі сенсацыямі, а з'яўляюцца цікавымі дапушчэннямі, якія заслугоўваюць на дадатковы разбор.

Кнігу Ігара Трусава без усялякага сумнення належыць аднесці да спробы комплекснага агляду гісторыі праваслаўнага культавага будаўніцтва Гародні, якая можа надаць штуршок далейшым даследаванням у згаданай галіне.

[9] Расійскі Дзяржаўны Ваенна-Гістарычны Архіў, Ф. 846 воп. 16 спр. 1466.

[10] P. Chomik, *Kult ikon Matki Bożej w Wielkim Księstwie Litewskim w XVI-XVIII wieku*, Białystok, 2003, s. 107.

**ГАРАДЗЕНСКАЯ БІБЛІЯТЭКА** – выдавецкая ініцыятыва, заснаваная ў 2006 годзе з мэтай дакументацыі і прасоўвання культурнага і гістарычнага даробку гарадзенцаў, а таксама папулярызацыі ведаў пра сярэднявечную, навачасную, міжваенную і паваенную гісторыю Гародні як істотнага элемента еўрапейскай спадчыны. ГАРАДЗЕНСКАЯ БІБЛІЯТЭКА – гэта яшчэ адзін напамін гарадзенцам, што лёс горада ў іх руках. Агульнымі намаганнямі мы здолеем перанесці ў наступныя стагоддзі непаўторнасць гістарычнай Гародні, зберагчы яе ўнікальнасць для нашчадкаў.

**Выйшлі з друку:**

Юры ГАРДЗЕЕЎ "Магдэбургская Гародня"

Данута БІЧЭЛЬ "Хадзі на мой голас"

Пётр СЯЎРУК "Небыцця не існуе. Невядомыя старонкі беларускага нацыянальнага руху"

Аляксей КАРПЮК "Развітанне з ілюзіямі"

"Зрабаваны народ. Размовы з беларускімі інтэлектуаламі"

Алесь КРАЎЦЭВІЧ "Рыцары і дойліды Гародні"

Сяргей ШАПРАН "Васіль Быкаў. Гісторыя жыцця" Т. 1-2

Гарадзенскі палімпсест 2008

Гарадзенскі палімпсест 2009

Гарадзенскі палімпсест 2010

Апанас ЦЫХУН "...Улюбёны я ў сваю зямлю"

Віктар ШАЛКЕВІЧ "Рэквіем па непатрэбных рэчах"

Дзмітры ЛЮЦІК "Нёманскі Фронт. 12-25 ліпеня 1944 года. Баі за Гродна ў данясеннях, успамінах, статыстыцы"

Васіль БЫКАЎ. "Гарадзенскі архіў. Невядомыя творы (1957—1972). Незавершанае. Нататнікі"

Гарадзенскі гадавік-2012

"Гродназнаўства. Гісторыя еўрапейскага горада"

Ларыса ГЕНІЮШ "Лісты з Зэльвы"

Смерць і нараджэнне гарадзенскіх вуліц. Ад Фартоў да Каложы

Аркадзь ЖУКОЎСКІ "Галс"

Віктар САЗОНАЎ "Маленькія гісторыі з вялікай палітыкі"

кніжная серыя
ГАРАДЗЕНСКАЯ
БІБЛІЯТЭКА